–Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
16
КРАСАВІКА
1993 г.

№ 15 (3685)

КОШТ
3 рублі





Стары парк. Альтанка

Фота А.МАЦЮША

## БУДЗЕМ СЯБРАВАЦЬ І НАДАЛЕЙ

*Працягваецца падпіска на газеты і часопісы на другое паўгоддзе 1993 года. На гэты раз «ЛіМ» патрапіў у рэспубліканскі і расійскі каталогі і яго можна будзе выпісаць ва ўсіх незалежных дзяржавах-суседзях і без праблем на Беларусі. Спадзяёмся, што вы скарыстаеце свой шанц і мы застанёмся добрымі сябрамі і надалей.*

**Кошт падпіскі — 240 рублёў на паўгода, 120 — на тры месяцы, 40 — на месяц.**

**Індэкс — 63856**

# КОЛА ДЗЁН

***Беларусь зноў уступіла ў паласу святаў, а гэта значыць скарочаных працоўных тыдняў. За каталіцкім Вялікаднем ідзе праваслаўны, потым — Радаўніца. Добра яшчэ, што былыя савецкія святы — 1 Мая і Дзень Перамогі супалі з выхаднымі. Інакш былі б асуджаны мы нашым Вярхоўным Саветам на масавыя гулянні ў самыя залатыя вясновыя дні, кожны з якіх, памятаеце, — год корміць. Магчыма, сёлетнія святочныя парадоксы /прыгадаем і навагоднія канікулы/ прымусяць народных дэпутатаў хутчэй закончыць пераходны перыяд ад савецкага да агульначалавечага, а яшчэ, магчыма /гэта ўжо зусім фантастыка/, калі-небудзь павадзяцца прадстаўнікі дзвюх нашых канфесій, што Хрыстос нарадзіўся адночы і ўваскрос адночы — у адзін і той жа дзень.***

## СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

Сёння ў Мінску адбудзецца сустрэча кіраўнікоў краін СНД. Нечарговы збор лідэраў скліканы па прапанове Барыса Ельцына. Па папярэдніх звестках, на ім будуць абмеркаваны пытанні эканамічнага супрацоўніцтва і стварэння калектыўных міратворчых сілаў. Чым выклікана тэрміновая сустрэча? /Чарговая, нагадаем, была запланавана на 30 красавіка/. Няўжо толькі клопатам пра свае народы? Не, пэўна, найперш тым, што расійскі рэферэндум прызначаны на 25 красавіка.

## ЧАЛАВЕК ТЫДНЯ

«Я прыхільнік нейтральнай, палітычна стабільнай дзяржавы, якая не вылучае яскрава ні ўсходніх, ні заходніх прыярытэтаў, а ў сваёй эканамічнай і палітычнай стратэгіі імкнецца быць кантактнай дзяржавай, крыніцай стабільнасці ў рэгіёне», — сказаў у сваім заключным слове на нечарговай адзінаццатай сесіі ВС Беларусі Станіслаў Шушкевіч. Гэтае перакананне ён мужна і рашуча адстойваў на працягу ўсёй сесіі, нягледзячы на жорсткі ўціск з боку пракамуністычнай парламенцкай большасці. А калі парламент усё ж прыняў рашэнне аб далучэнні Беларусі да дагавору аб калектыўнай бяспецы, Станіслаў Станіслававіч скарыстаў апошні шанц: унёс прапанову аб правядзенні ў маі гэтага года абавязковага рэспубліканскага рэферэндуму па вызначэнні характару нейтралітэту Беларусі. З часу абрання на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета Станіслаў Станіслававіч сваёй памяркоўнасцю і цэнтрызмам выклікаў крытыку з боку апазіцыі ў парламенце, якая відавочна разлічвала на яго падтрымку. Аднак, калі прыйшоў час выбару, С.Шушкевіч застаўся верным сваім дэмакратычным ідэалам, інтарэсам народа Беларусі.

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

14 красавіка Беларусь з афіцыйным візітам наведаў міністр замежных спраў Каралеўства Нідэрланды Пітэр Хендрык Коайманс. Міністр замежных спраў Беларусі П.Краўчанка і П.Х.Коайманс падпісалі сумеснае камюніке. Высокага госця прыняў Станіслаў Шушкевіч. Падчас гутарак П.Х.Коайманс падкрэсліваў, што яму /і яго дзяржаве/ асабліва імпануе курс Беларусі на нейтралітэт і бяз'ядзернасць.

## АДМЕТНАСЦЬ ТЫДНЯ

У нашай краіне зноў не хапае наяўных грошай, асабліва «зайчыкаў», нават на выдачу заробку. Нацыянальны банк, каб выправіць становішча, прыняў рашэнне аб абмене беларускіх грошай на расійскія рублі без камісійнага збору. Абменныя пункты для гэтай мэты будуць адкрывацца паўсюль: на вакзалах, на кірмашах, ва універмагах і г.д. Абмен будзе праводзіцца з разліку адзін да аднаго. Што гэта дасць? У краіну «напльвае» расійскіх паперак, а ад нас, скрозь «празрыстыя межы», будуць вывозіцца прадукты харчавання, тавары народнага ўжытку... Няўжо Нацыянальны банк не ў стане надрукаваць сваіх паперак столькі, колькі трэба? Акрамя таго, Нацбанк дазволіў з 15 красавіка ўсім грамадзянам краіны набываць валюту ў любой колькасці і без прад'яўлення выязных дакументаў.

## НАВІНА ТЫДНЯ

З 1 ліпеня будзе значна спрошчаны выезд грамадзян Беларусі за межы краіны. Па новых правілах для выезду за мяжу неабходна будзе аформіць пашпарт, паставіць у ім штамп, які будзе сапраўдным на працягу года, і заплаціць суму ў памеры адной мінімальнай заработнай платы. Гэта, паўторым, з 1 ліпеня. А пакуль «значна спрошчаны» выезд у суседнюю Польшчу. Па-першае, білеты да Варшавы з Брэста можна зараз набыць толькі за рублі. Па-другое, польскі бок часова прыпыніў выкананне сваёй пастановы аб абавязковай наяўнасці ў замежных грамадзян пры ўездзе ў Польшчу пэўнай сумы ў валюце. Значыць, за мяжою нашых «турыстаў»-гандляроў усё ж чакаюць.

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

Беларускі камсамол, які, дарэчы, у адрозненне ад КПБ, ніхто не забараняў, сёлета развіў бурную дзейнасць. Тут і з'езд, і сумесныя нарады і заявы разам з камсамолам з Украіны і Расіі, і падтрымка ПКБ і КПБ... І вось днямі «Народная газета» абнародавала адну лічбу, пасля якой актыўная дзейнасць ЛКСМБ неяк адразу паблякла: аказваецца, сёння ў Беларусі маладых ленінцаў налічваецца ўсяго ... 250 чалавек. Гэта з 1,5 мільёна, што былі да перабудовы.

## КАНФЛІКТ ТЫДНЯ

Вернікі-каталікі 12 красавіка пасля ранішняй імшы засталіся ў касцёле Святога Роха і вырашылі не пакідаць яго, пакуль улады не перададуць храм ім. Канфлікт паміж Беларускай каталіцкай грамадой, гарадскімі ўладамі і Белдзяржфілармоніяй, якая валодае зараз будынкам, доўжыцца ўжо не адзін год. Управа БНФ на сваім пасяджэнні вырашыла падтрымаць вернікаў. Міністр культуры Беларусі Яўген Вайтовіч заявіў на прэс-канферэнцыі, што падасць у адстаўку, калі ўлады рэспублікі не дадуць прынцыповую ацэнку захопу католікамі залы камернай музыкі Белдзяржфілармоніі.

## З НАГОДЫ

# У АБДЫМКУ З ВЯЛІКІМ СУСЕДАМ?

Здавалася б, прайшлі тыя часы, калі з трыбуны гаварылі адно, а ў курылні ці на кухні — другое. Не, выяўляецца, што яшчэ не прайшлі. Ва ўсякім разе, народныя дэпутаты, галасамі якіх былі скасаваны рэферэндум і адноўлена дзейнасць кампартыі, больш шчырыя ў кулуарах парламента, чым у авальнай зале. Калі па радыё транслiравалі нечарговую сесію Вярхоўнага Савета, слухаў я іх аргументы за эканамічны і ваенны саюз з Расіяй. Быццам народ наш, так бы мовіць, спіць і сніць сябе ў абдымку з вялікім суседам пад адным «ядзерным парасонам».

А пазней народны дэпутат Л. Баршчэўскі паведаміў радыёслухачам, што ён чуў з тых жа вуснаў у час кулуарных размоў. «Все равно мы вас загоним в Россию!», — лямантавалі былыя і цяперашнія наменклатуршчыкі. Няцяжка здагадацца, каго яны мелі на ўвазе пад словам «вас». Перш за ўсё, думаю, нацыянальна свядомых беларусаў, якія не збіраюцца гандляваць незалежнасцю роднай краіны, яе нейтралітэтам, жыццямі людзей.

Цынічная сентэнцыя «загонщыкаў», якая выкрывае іх камуністычна-рэваншысцкія намеры, пераклікаецца з нядаўнім выказваннем маскоўскай «Красной звезды» (гл. нумар ад 2 сакавіка): «иным государствам бывшего СССР, видимо, давно уж надо предоставить возможность почувствовать полную самостоятельность как в военной, так и в экономической областях». Гэта ж непрыкрытая пагроза краінам СНД, што не падпісалі Дагавор аб калектыўнай бяспецы! Чаго толькі варта адно «вытанчанае» слова «почувствовать». Падтэкст тырады цэнтральнага органа Міністэрства абароны Расіі я разумею так: «старэйшы брат» больш не збіраецца цярпець непаслухмянасць ды някемлівасць «малодшых», можа зняць з іх штонікі і як след адлупцаваць.

Відаць, моцны наступ на нашу незалежнасць, які павялі ўладатрымальнікі, «генералы» прамысловасці і вышэйшыя вайсковыя чыны рэспублікі, узгодненыя з імперскімі сіламі Расіі і іх пракамуністычнай экспансіянісцкай палітыкай. Гэтакай жа антыканстытуцыйнай дзейнасцю з першых сваіх крокаў пасля стварэння займаецца і Саюз афіцэраў Беларусі, які дакладней было б называць Саюзам расійскіх афіцэраў-шавіністаў або, карацей кажучы, пятай калонай.

Між іншым, яны не ўтойваюць свае злачынныя намеры. Генерал Д. Іваноў, важак гэтай рэакцыйнай арганізацыі, выступаючы на процізаконным сходзе армейскіх змоўшчыкаў у Маскве, заявіў: «Здесь наша судьба, наше будущее». Ён жа мімаходам абразіў краіну, на зямлі якой нядрэнна ўладкаваўся, што выклікала захапленне ў расійскага афіцэрства. А ў Мінску я чуў, як выхваляўся адзін з ваяўнічых і нахабных запаснікоў-іваноўцаў. Расія, маўляў, абавязкова верне свае землі, аж да Аляскі /?!/. «А як з Беларуссю?» — запытаў я. «Такой страны никогда не было и не будет», — з салдафонскай прамалінейнасцю адказаў ён.

І вось такіх, шаноўны вас, «абаронцаў» народа бярэ пад сваё крыло Міністэрства абароны РБ. Затое, здаецца, ніводнае публічнае выступленне кіраўніка гэтага міністэрства не абыходзіцца без абсалютна бяздоказных абвінавачванняў у адрас патрыятычнага руху — Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Чарговую порцыю бруду ён выліў на нас, сяброў БЗВ, 25 сакавіка на пасяджэнні парламента. Вялікае абурэнне ў генерала П. Казлоўскага выклікала тое, што мы ўдзельнічалі ў святкаванні 75-х угодкаў БНР. Ён не пасаромеўся нават звычайную нашу калону, у якой крочылі і ветэраны вайны з фашысцкімі захопнікамі, параўнаць з факельнымі шэсцямі 30-х гадоў у гітлераўскай Германіі. Не ведаю, чаго тут больш: хвароба уяўлення або страху за свае крэсла? Усё ж такі ў кагосьці хапіла розуму, каб гэты генеральскі пасаж, які прагучаў па радыё, не друкаваць у газеце «Во славу Родины», дзе быў змешчаны тэкст прамовы міністра.

Добра вядома, што генерал Казлоўскі балюча ўспрымае крытыку, яму надта не падабаецца, калі грамадская арганізацыя або асобныя грамадзяне выказваюць свае меркаванні аб войску, якое, дарэчы, утрымліваецца на грошы апошніх. Але ж такое права нам дае дзеючая Канстытуцыя. Таму хачу сказаць проста, без хітрыкаў: я вельмі занепакоены ненадзейнасцю Узброеных Сіл Беларусі, антынацыянальнай палітыкай кіраўніцтва Міністэрства абароны, асабліва яго імкненнем ліквідаваць нейтралітэт нашай краіны, уцягнуць яе ў вайсковы хаўрус, які прынясе «дывідэнты» не шматпакутнаму беларускаму народу, а прарасійскаму генералітэту.

Эпітэт «прарасійскі» тут узяты невыпадкова. Ён напрошваецца сам сабой, калі знаёмішся, у прыватнасці, з інтэрв'ю, надрукаваным 14 сакавіка ў «Московских новостях». Уім сцвярджаецца, што на Беларусі «все войсковые части — наши, российские». І пасля месяца не з'явілася аніякага абвяржэння з боку Міністэрства абароны або хоць бы яго прэс-цэнтра, які наогул нярэдка выступае з рознымі заявамі, у тым ліку і аб БЗВ.

Кажуць, што маўчанне — золата. Не ведаю, ці тычыцца гэта міністраў, затое ўпэўнены, што, калі будуць маўчаць простыя людзі, дык нас зноў зробяць халопамі. Тым больш, што ў беларусафобаў-«інтэрнацыяналістаў» ёсць шмат памагатых. Нават на тым жа Беларускім радыё.

Яшчэ не паспелі нас «загнаць» у «камуналку», а з сакавіка ў эфір ужо паляцелі бадзёрыя словы: «З аглядам рэспубліканскіх і **цэнтральных** /падкрэслена мной. — **Г. Л.**/ газет вас пазнаёміці...». І няўцям радыёжурналістам і дыктарам, што нават у белакаменнай, якую яны спехам зноў зрабілі нашай сталіцай, не называюць гэтак ні «Правду», ні іншыя колішнія цэнтральныя, а зараз проста маскоўскія газеты.

Туга па былым адчуваецца і тады, калі ў розных інфармацыйных выпусках паняцці «наша краіна», «наша Радзіма» іншыя радыёжурналісты расцягваюць да Далёкага Усходу, а Беларусь для іх «толькі» рэспубліка. Ну, а чым мы станем, калі нас так моцна абдымуць, што цяжка будзе пікнуць? Аўтаноміяй ці бязлікім краем? Пратэктаратам ці падапечнай тэрыторыяй? А мо адразу калоніяй? Дакладна можна сказаць толькі адно: рэжым будзе антыбеларускім, а кіраўніцтва — калабарацыянісцкім.

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ,**
**маёр у адстаўцы, ветэран вайны і Узброеных Сіл, сябар БЗВ**
*г. Мінск*

## З ПОШТЫ ТЫДНЯ

# ГАНЕБНАЯ АКЦЫЯ

З друку мы даведаліся, што Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь наладзіла ганебную, як нам здаецца, акцыю чыноўніцкага апытання ўстаноў вышэйшай школы наконт уводзення рускай мовы як дзяржаўнай мовы ў нашай рэспубліцы.

Што гэта нецывілізавана і амаральна ў маладой незалежнай дзяржаве, людзям з вышэйшай адукацыяй тлумачыць няма патрэбы. Што гэта супрацьзаконна — то законы мусіць ведаць кожны чыноўнік. Што гэта крывадушна з боку міністэрства, якое рэгулярна клянецца ў вернасці беларускай школе — гэта відавочна.

Мы, беларусы, пратэстуем супраць такіх дзеянняў Міністэрства адукацыі і патрабуем адстаўкі асоб, што спрычыніліся да ганебнай акцыі, скіраванай супраць нашага народа.

Мы патрабуем дэзавуіраваць як саму ініцыятыву, гэтак і яе «вынікі».

**Мікола БУСЕЛ,**
**Аляксандр ЦЯРЭШЧАНКА,**
**Надзея БУСЕЛ,**
**Тамара ДРУЗІК,**
**Еўдакія ШУСТ,**
**Кацярына ДАЙНЕКА,**
**Галіна ГАЛАЎКОВА,**
**Марыя КЕРУС,**
**настаўнікі Дуброўскай СШ Светлагорскага р-на Гомельскай вобласці**

# «ДЭМАКРАТЫЯ – ГЭТА СТАН ДУШЫ...»

### Гісторыя адной газеты на фоне мясцовых падзей

*«Адбылося натуральнае пераняцце вопыту».*
*/З чытацкага допісу/*

У адным вялікім горадзе жыла-была адна аб'яднаная раённа-гарадская газета. Жыла — не тужыла, верна слугавала гаспадару, і ўсім было добра: і газеце, якая дакладна ведала свае межы, і мясцовым уладам, якія ўсведамлялі сваю моц.

Але вось надышлі іншыя часы, забурліла, закіпела яшчэ нядаўна соннае жыццё, вырвалася з кватэр на вуліцы — гэта Самы Высокі Уладар вырашыў перабудаваць тое, што, як высветлілася пазней, перабудове якраз і не паддаецца. Нейкія новыя людзі з'явіліся — дэмакраты, старая газета іх прызнаваць не хацела, погляды іхнія не падзяляла і свае старонкі іх выказваннямі засмечваць не збіралася.

Тым часам выбарчая кампанія і палітычныя страсці, што суправаджалі яе, нарадзілі ў горадзе новае аб'яднанне — дэпутацкі клуб. У клубе збіраліся людзі дэмакратычных перакананняў, каб выпрацаваць лінію паводзін ды ўвогуле памеркавацца, як жыць далей, як выбіцца на божы свет з-пад асфальту нядаўна яшчэ непахіснай Сістэмы і тым паспрыяць прагрэсу. Тады ў нечую недурную галаву і прыйшла ідэя стварэння яшчэ адной, альтэрнатыўнай газеты: свая трыбуна па тым часе значыла шмат. Паўстала пытанне, дзе ўзяць сродкі. Гарсавет не даваў ні капейкі, ківаючы, як звычайна, на дзіравы бюджэт, але тут на вышыні аказаўся перадавы рабочы клас: 40 тысяч пазычыла на добрую справу вытворчае аб'яднанне «Электрамодуль». Маўляў, аддасце, як станеце на ногі.

У гарсавеце доўга трымалася раўнавага сіл, дэмакраты з партакратамі ніяк не маглі падзяліць партфелі. З дапамогай пагаднянльнай камісіі ўсё ж знайшлі кансенсус: прадстаўнік аднаго лагера ўзначаліў гарвыканком, прадстаўнік другога — гарсавет. Намеснікаў размеркавалі крыж-накрыж — для далейшай, значыцца, палітычнай і грамадскай раўнавагі. І толькі разабраліся, толькі прыступілі да сумеснага




*Падчас святкавання 75-х угодкаў БНР у Маладзечне быў адкрыты помнік пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі /на здымку/. Адкрыццё помніка вылілася ў сапраўднае свята, у якім удзельнічалі тысячы гараджан, а таксама народныя дэпутаты, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, кіраўнікі горада.*

*Фота М. ДАРАФЕЯ*

***Шаноўная рэдакцыя!***

***Вельмі ўдзячна вам за тое, што вы ёсць. Вашая газета — маленькі струменьчык беларушчыны. Маленькі, затое чысты ды напорысты, таму што б'е з-пад зямлі. Так, мы пакуль прыдушаныя, прыціснутыя цяжарам няволі, але я шчыра веру, што здолеем (а калі не мы, то нашыя дзеці) «з глебы на прастор прабіцца».***

***Я хачу вас папрасіць вось аб чым. Жыву я ў правінцыі і мне не так лёгка знайсці нейкія матэрыялы па Беларусі. Быў у мяне некалі нумар (не памятаю добра) не то «Навін», не то «Нашай Нівы». Там быў змешчаны белы верш Сяргея Палуяна «Хрыстос уваскрос». На вялікі жаль, згубілася гэта велікодная святочная газета. Ці не маглі б вы надрукаваць твор у сваім тыднёвіку? Хачу, каб сын мой яго вывучыў. Я не спадзяюся на сваё пакаленне, яно не дачакаецца ўраджаю, мы толькі сейбіты. Трэба вучыць дзяцей, сеяць і сеяць поўнай жменяй дзе ў раллю, а ў бальшыні — на неўзараныя цвёрдыя скібы. Што загіне, а што і ўзыдзе...***

***Ганна МАТУСЕВІЧ***

**АД РЭДАКЦЫІ.** Адгукаючыся на гэты шчыры ліст з Койданава (Дзяржынска) і зважаючы на радасную яву найбольшага свята праваслаўных — Вялікадня, — друкуем вольны верш Сяргея Палуяна.

Сяргей ПАЛУЯН

# ХРЫСТОС УВАСКРОС!

...Хрыстос уваскрос!

З вялікім святам адвечнага аджыўлення віншую цябе, Вялікі Беларускі Народ!

Гэтай вялікай ночы страсі з сябе ўсю пагарду, увесь бруд, каторым аблепліваюць цябе ад вякоў. Чыста вымыйся, прабярыся ў найлепшую апратку, каб хоць на адзін дзень стаў ты роўным з усімі. Ідзі туды, дзе пачуеш гэтыя вялікія словы:

— Хрыстос уваскрос!

Услухайся ў іх. Якая вялікая сіла, які ўсёажыўляючы змест захаваны ў іх. Ці не чуеш, як радасцю надзеі, радасцю скорага ўваскрэсення вее на цябе ад гэтых слоў:

— Хрыстос уваскрос!

Радуйся, мой родны край. Надзея, як жывучая вада, ліецца ў тваю душу. Скора і ты ўваскрэснеш ад доўгага мёртвага сну. Вясна прыйшла і да цябе.

— Хрыстос уваскрос!

Над ім здзекаваліся. Яго білі па твары, сцябалі бізуном. Плявалі на яго. Кпілі з яго. У канцы распялі і распятага не пераставалі мучыць. Спечаныя смагай вусны звільжывалі воцатам і жоўцю. Ён памёр на крыжы паміж двух разбойнікаў. Але ўсё ж ткі

— Хрыстос уваскрос!

Уваскрос Хрыстос, і крыж, раней знак пагарды і сораму, зрабіўся святыняй усяго свету. Мукі Хрыстовы змылі ўсё з яго. І штогоду вялікай вясенняй ночы тысячы цэркваў і касцёлаў свецяцца агнямі свечак, ліецца радасны пераклік званоў, крыж падымаецца над мільёнамі схінёных галоў і ў паветры носіцца радасны шэпт:

— Хрыстос уваскрос!

Што гавораць табе званы, Беларускі Народ? Ці не віншуюць яны цябе і з тваім уласным вялікім святам? Скора ж і ты ўваскрэснеш!

Ад вякоў пагарджалі табой, тваёй мовай; ад вякоў мелі за быдла, годнае толькі на цяжкую, надсільную работу. Не давалі табе расці і развівацца. Воцатам чужой культуры звільжалі твае спячоныя смагай свету вусны. Лепшых тваіх сыноў адрывалі ад цябе, прымушалі іх зрабіцца здраднікамі. А цяпер пышаюцца імі, называюць іх сваімі. І яны так іхнія.

А хіба ж яны не любілі цябе? Хіба лепшы жар свайго сэрца афяравалі яны не табе? А гдзе яны?

Іх няма з табой. З самага малку адарвалі ад роднай глебы, атруцілі здрадай. І іх, тваіх дзяцей, маюць на зброю процi цябе.

Цябе катавалі. Ты цярпеў мукі, але не ўмёр. Глыбока, глыбока ты захаваў сваю душу.

Хрыстос быў з табой у тваіх муках; і ён разам з табой цярпеў іх. Колькі разоў распіналі яго разам з табой! Больш разоў, чым ёсць пясчынак на дне мора! Але кожнага году па ўсёй Беларускай зямлі разносіцца кліч:

— Хрыстос уваскрос!

...І ты ўваскрэснеш, мой родны край! Скінеш з шыі ярмо адвечнага гора і нуды.

**Дагэтуль мы плачам,**
**дагэтуль мы стогнем,**
**Адвечных не можам**
**пазбыціся слёз...***

Ты ўжо перастаеш плакаць. Ты падняў свой твар, з надзеяй ловіш зыкі званоў:

«Бом! бом!.. Прачынайся ад сну, Беларусь! Годзе стагнаць ды жаліцца, жальба нічога не дасць табе. Уставай! Ідзі будаваць зруйнаваную бацькаўшчыну!»

**Наперад па шчасце!**
**Хай злое ўсё дрогне!**
**Вясна ўжо на свеце —**
**Хрыстос уваскрос!**

Я бачу, як святлее твой твар, мой родны краю. І, поўны сілы і веры, я крычу ва ўсю моц тваім нівам, лясам і балотам, тваім панурым вёскам, тваім пакрыўджаным сынам:

— З вялікім святам віншую! З вялікім святам, Вялікі Беларускі Народ!

— Хрыстос уваскрос!

---

**Гэтыя і наступныя два вершаваныя радкі — з верша Янкі Купалы «Вялікдзень», апублікаванага ў «Нашай Ніве» ў 1909 г. (NN13—14).*

**РЭПЛІКА**

# ТАКУЮ МАЕМ ПАВАГУ...

У час будаўніцтва станцыі метро «Купалаўская» з фасада дома N 36, што па вуліцы К. Маркса, былі зняты мемарыяльныя дошкі Янку Маўру, Пятру Глебку і Уладзіміру Караткевічу. Гэтыя мемарыяльныя знакі знаходзіліся на балансе Упраўлення дарожна-маставога будаўніцтва і добраўпарадкавання. Названае ўпраўленне павінна было б несці адказнасць за іх захаванне, але... Станцыя метро пабудавана, а дошкі на фасад дома так і не вярнуліся, і дзе яны — ніхто не ведае.

У сувязі з запытам Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Мінскаму гарсавету гарадскія ўлады маюць намер разгледзець пытанне аб аднаўленні мемарыяльных дошак, ды зноў жа, але... Колькі сёння гэта будзе каштаваць, хто на гэтую справу будзе выдаткоўваць грошы? Да таго ж, малаверагодна, што захаваліся формы, з якіх дошкі адліваліся. Так ці інакш, гэта справа для пракуратуры; і было б някепска, каб той, хто гэтыя дошкі «згубіў» /ведаеце, колькі сёння каштуе кілаграм бронзы?/, аплаціў аднаўленне іх са сваёй кішэні.

Вось такую маем культуру, такую павагу да выдатных сыноў нацыі.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

# АДНАЎЛЕННЕ СПАДЧЫНЫ




Вось ён, першы нумар навуковага і навукова-метадычнага часопіса з крыху нязвыклай назвай «Беларускі гістарычны часопіс». Заснавальнікі выдання — Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Інстытут гісторыі Акадэміі навук Беларусі, Беларускі дзяржаўны універсітэт, Таварыства «Веды» Рэспублікі Беларусь.

Адкрываецца нумар вітаннем Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіча.

Як бачна са слова галоўнага рэдактара «БГЧ» В. Кушнера, выступленняў заснавальнікаў — міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь В. Гайсёнка, дырэктара Інстытута гісторыі АНБ М. Касцюка, дэкана гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта П. Шуляка, першага намесніка старшыні праўлення Таварыства «Веды» Л. Ляўчука, новае выданне ставіць перад сабой падобную высакародную задачу вяртання гістарычнай праўды.

М. Біч /»Аб нацыянальнай канцэпцыі гісторыі і гістарычнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь»/ засяроджвае ўвагу на тым, што ў гэтым кірунку неабходна зрабіць у бліжэйшы час.

Значнае месца займае «сшытак» «Полацкая зямля», у якім апублікаваны артыкулы Г. Штыхава «Вытокі беларускай дзяржаўнасці», С. Тарасава «Прылучэнне да хрысціянства», А. Трусава «Бельчыцкі манастыр», А. Кулагіна «Храмы на Дзвіне», а таксама А. Філатавай «Полацак 1818 г», у якім робіцца агляд матэрыялаў часопіса «Месячнік Полацкі».

Упершыню чытач можа пазнаёміцца і з некаторымі матэрыяламі, узятымі Р. Платонавым і М. Сташкевічам з архіва КДБ /«Дзве аперацыі супраць «ворагаў народа»/.

Часопіс развітваецца з М. Ткачовым і прапануе яго артыкул «Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—1667 гг.»

Сёлета мяркуецца выдаць яшчэ тры нумары «БГС», а калі дазволяць сродкі, дык і некалькі дадаткаў у выглядзе зборнікаў гістарычных матэрыялаў.

На часопіс заўсёды можна падпісацца. Індэкс 74830.

палюбоўнага кіравання — на табе, чарговая рэарганізацыя ўладных структур: савет і выканком павінен узначальваць адзін чалавек. Яго запрасілі збоку, ажно са сталіцы, як калісь русіны варагаў на княжанне, але той прыехаў не адзін, а са сваім абаяльным намеснікам, таксама дэпутатам ВС. /Лішне казаць, з якім імпэтам сустрэла «хаджэнне ў народ» наша трохі наіўная прэса/. Другім намеснікам стаў былы старшыня гарсавета. Ён адказваў за работу з дэпутатамі, быў даверанай асобай у мацнеючых эканамічных і культурных зносінах горада з Германіяй, а заадно пільным вокам былога кадэбэшніка прыкмячаў усялякія дзівосы так званага рынку: там «зялёнае святло» для камерцыі даецца нейкаму чужаку-прыхадню, там медзь з нікелем ідуць налева і да т.п. «Усё прададуць!» — браўся ён за галаву і з уласцівай яму імпульсіўнасцю падаваў то рэплікі на сесіях, то — праз пэўны час — заявы на звальненне. Адносна яго ў пасланні обербургамістра нямецкага горада Эслінгена мэру горада беларускага маецца наступны цікавы пасаж: «Калі нашы грамадзяне звоняць у ратушу і пытаюць, ці не трапіць, напрыклад, медыцынская дапамога ў рукі мафіі, дык мы маем магчымасць адказаць: «Не, там ёсць К.».

Гэтае пасланне надрукавала ўсё тая ж неўгамонная новая газета, але пазней, калі К., кажучы вобразна, сыдзе з дыстанцыі. Выданне спраўна выходзіць, мае свайго, хоць і нешматлікага чытача і нават ладзіць з папярэдніцай: неяк выручыла з дэфіцытнай паперай /40 тысяч змарнаваны не былі/. Праўда, галоўны рэдактар — можа, па маладосці — паспела хутка сапсаваць адносіны з некаторымі актыўнымі дэмакратамі і адраджэнцамі. Адзін стварыў самастойны прафсаюз з відамі на кватэру, другі таксама не вельмі сціплым чынам спрабаваў палепшыць свой жыллёвы стан. Усё гэта давала падставу для насмешак і кпінаў з боку супрацьлеглага лагера /там кватэрамі забяспечаны ўсе/, а ў сваім успрымалася нярэдка як кампраметацыя ідэі дэмакратыі.

Акрамя таго, неўзабаве высветлілася, што новаспечаныя ўлады гэтак жа не церпяць крытыкі, як і ранейшыя. За маленькую нататку пра недахоп смятаны рэдактарка мела вялікія маральныя выдаткі. Да ўсяго гарсавет, як і напачатку, не спяшаўся фінансаваць новую газету, хаця для старой у яго /о, парадокс!/ сродкі знайшліся.

Між тым у кіраўнічых колах спеў і рос, як скула, канфлікт, і аднойчы прарвала: на парадак дня пазачарговай сесіі выносіцца пытанне аб даверы тутэйшаму намесніку. Абмеркаванне звялося да агульных абвінавачванняў тыпу «заваліў работу». «Падсуднаму» слова не далі. Маўляў, прысуд канчатковы і абскарджанню не падлягае. Тут зноў адгукнулася рэспубліканская прэса, прадставіўшы падзею ў вялікім горадзе не больш - не менш як замах на дэмакратыю. Новая газета толькі патрэсла кулачкамі пасля бойкі — абмежавалася дасціпным аглядам матэрыялаў з дзвюх салідных газет. Аднак жа характар паказваць не перастала і шмат каму як костка ў горле.

«Дэмакратыя — гэта стан душы», — цытуе кагосьці ўпаўшая духам рэдактарка. Будучае газеты ўяўляецца ёй цьмяна. Сумна ўсведамляць, што словы і лозунгі могуць быць сучасныя, а звычкі і прыёмы даўнейшыя, апрабаваныя ў былых калідорах улады. А са звычкамі як змагацца? Журналістка прыйшла да вываду, што наогул няма дэмакратаў і няма партакратаў, а ёсць людзі прыстойныя і не вельмі прыстойныя. На тым і скончым наш аповяд — з надзеяй, што гісторыя гэтай газеты будзе больш працяглай, чым намесніцкая кар'ера аднаго з яе ініцыятараў.

**P.S.** Каб мяне не западозрылі ў жаданні выйсці сухою з вады /бо канфлікт у тым горадзе сур'ёзны і зусім не прыватнага характару/, я сёе-тое расшыфрую для паважанага чытача.

**Месца дзеяння — горад Маладзечна.**

**Новая газета — «Наш дзень».**

**Галоўны рэдактар яе — Ала Леанідаўна Мальшэўская.**

**Экс-намеснік старшыні выканкома — Мікалай Мікалаевіч Кудзін.**

І ўжо зусім на заканчэнне — вытрымка з газетнай публікацыі: «Наш дзень» — асабістая газета ўсіх, хто не шкадаваў сілы, здароўя для яе існавання, хто шчыра паверыў, што чарговая «адліга» не будзе часовай з'явай, што людзі, выйшаўшыя на палітычную арэну пад сцягамі дэмакратыі, не здрадзяць гэтым ідэям дзеля асабістага дабрабыту».

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

# МЁРТВЫМ ДУШОЮ — ТАКСАМА НЕ БАЛІЦЬ...

## Агляд чытацкай пошты

Сорак песень у мядзведзя, трыццаць дзевяць з іх пра мёд... Так і лімаўская пошта. Ці не кожны ліст — пра мову, адраджэнне, нацыянальную свядомасць. Пра тое, што смыліць і баліць у сэрцах беларусаў і Беларусі, але стала косткаю ў горле, выклікае глухое ці адкрытае раздражненне, а то і лютую злосць у некаторых грамадзян нашай краіны, і калі б абыякавасць і злосць зыходзілі ад звычайнага абывацеля — было б паўбяды. Горш, калі палітыку русіфікацыі гнуць людзі, што называецца, «пры пасадах і пастах», людзі, ад якіх і залежыць ці не ў першую чаргу тое самае адраджэнне.

Колькі, для прыкладу, можна «мусоліць» у сродках масавай інфармацыі запэўніванні, адрасаваныя «русскоязычному населению», што дзяржаўнасць беларускай мовы, маўляў, нічым не пагражае існаванню на Беларусі мовы рускай? Чаму не запэўніваюць у адсутнасці пагрозы мове кітайцаў альбо англічан? Каму патрэбна гэтае афіцыйнае прызнанне ў далейшым уціску быццам бы дзяржаўнай мовы, бо калі не звузіць сферу ўжытку рускай, няўжо незразумела, што не хопіць жыццёвай прасторы для мовы беларускай?!

Наш чытач, медык з інстытута анкалогіі, што ў Бараўлянах, Мірaслаў СІДАРОВІЧ лічыць, што «баіцца беларускай мовы розных рангаў чыноўніцтва, якому прыйдзецца карыстацца беларускай мовай, а таму трэба будзе прыкласці нейкія намаганні, высілкі па яе вывучэнні. А гэтага якраз і не хочацца! То гады ўжо для вучобы не тыя, то галава ўжо не так працуе, то памяць аслабела, а месца саступіць другому, больш здольнаму, таксама жадання няма. Вось і ўзялося ўплывовае рускамоўнае чыноўніцтва пры падтрымцы сваіх нізавых «собратьев» уводзіць другую дзяржаўную мову — рускую. А людзям, як кажуць, простым баяцца беларускай мовы няма чаго, яны дажывуць свой век з той мовай, якую ведаюць. Дзяржаўнасць жа беларускай мовы дасць магчымасць новым пакаленням беларусаў вырасці свядомымі, паўнацэннымі, і тым самым умацуецца, акрыяе беларуская нацыя».

Вельмі арганічна дапаўняе М.Сідаровіча рэдактар Шклоўскай раённай газеты Леанід АНЦІПЕНКА, які лічыць:

«Узнікае заканамернае пытанне: чаму мы павінны прасіць у бацькоў-беларусаў дазволу на навучанне іх дзяцей роднай мове? І калі бацькі не згодны, то мы пакорліва схіляем перад імі галовы: «Как изволите, господа!» Відаць, усё ж трэба дзейнічаць згодна прынятаму закону і даць магчымасць новаму пакаленню беларусаў стаць паўнапраўнымі грамадзянамі сваёй рэспублікі. Каб яны потым не былі ў крыўдзе на нас, што мы пазбавілі іх Радзімы».

Цікава, што значную частку пошты «ЛіМа» складаюць лісьмы, у якіх чытачы распавядаюць пра ўласныя поспехі альбо першыя крокі ў аваладанні роднай мовай. І сімвалічна, што даволі часта ім даводзіцца сутыкацца з пэўнымі цяжкасцямі. Так, напрыклад, чытач са Смаргоні Л.ВАСІЛЕЦ не прапусціў ніводнай тэлеперадачы «Гаворым па-беларуску», але гэта, бадай, спарадзіла ў яго толькі новыя пытанні. У раздзеле «Як вітаюцца беларусы?», піша чытач, сцвярджалася, і даволі абгрунтавана, што ў беларусаў, у адрозненне ад рускіх, няма прывітання «Добрай раніцы!». Аднак штодзённа беларускія дыктары навін вітаюць нас менавіта так. Таму спадар Л.Васілец і піша: «Звяртаюся да вас з прапановай даць выступіць на старонках аўтарытэтнага «ЛіМа» каму-небудзь з навукоўцаў па пытанні, як вітаюцца беларусы, і па шмат якіх іншых спрэчных пытаннях». Што ж, спадзяёмся, што шаноўныя навукоўцы адгукнуцца на просьбу нашага чытача — запрашаем іх да размовы.

Дарэчы, пра мову Беларускага радыё і тэлебачання на старонках нашага штотыднёвіка гаворка вялася ўжо неаднойчы, але лістоў на гэтую тэму з цягам часу не менее. Мастак з Гродна Алесь СТУПЕНЬ, для прыкладу, настроены зусім не аптымістычна: «Перадусім выклікае трывогу мова. Да гэтага часу не дубліюцца мастацкія фільмы, па-расейску ў большасці выпадкаў гучыць рэклама. А калі і чуецца беларуская мова, то яна да такой ступені зрусіфікаваная, што шэраг слоў не знойдзеш нават у нашых скалькаваных слоўніках, якія выдаваліся апошнія дзесяцігоддзі. Апроч таго, адчуваецца, што дыктары па-беларуску гавораць толькі перад камерай... Трэба яшчэ сказаць пра нізкую тэхнічную якасць перадач: вельмі дрэннае адлюстраванне і колер. З шасці праграм, якія прымаюць жыхары Гродна, беларуская самая слабая, і гродзенцы амаль яе не глядзяць».

Цікавы ліст пра тое, як прачытаў і выконвае Закон аб мовах Лідскі піўзавод, даслаў чытач з Ліды Аляксандр БОХАН. Нават цэтлік з бутэлькі паклаў у канверт — славутае «Лідскае піва» стала цяпер «Лидским». «Гэта адбылося зусім нядаўна, — піша А.Бохан. — А люд тут геаграфію ведае, і Ліда яшчэ не мае дачынення да Масквы, і Лідскі гарадскі Савет не ў Крамлі сядзіць, і завод не з Волгі ваду чэрпае. Так можна згубіць не толькі марку, але і якасць. За гэтай «дробяззю» бачу нешта большае — бачу непавагу да спажыўца, плявок на закон. І нават у самой бутэльцы, здаецца, ёсць асадак ад знявагі жыхароў «Северо-Западного края». Асабіста я, стары піўны ласун, адмаўляюся ўжываць «Лидское пиво» да той пары, пакуль яно зноў не набудзе якасць і назву піва «Лідская».

А вось яшчэ ліст: «Я жыву /спадзяюся, часова/ у невялікім гарадку Падмаскоўя Іванцееўка. Нават тут мясцовыя ўлады былі вымушаны зняць манументы Леніна, бо ўвесь час ноччу іх псавалі. Адраджэнне Бацькаўшчыны — справа саміх беларусаў. Чаму на плошчы Незалежнасці сталіцы не ўзвышаецца помнік нацыянальнаму герою Беларусі?» — пытаецца Ніна КАЛЯДА, якая ўдзельнічала ў працы Першага з'езда беларусаў блізкага замежжа, што праходзіў у снежні ў Мінску. Пытанне, як той казаў, з шэрагу пытарычных.

Ва унісон — допіс случака І.МАЛЫШКІ: «Дык што гэта за такая незалежная дзяржава Беларусь? Для чаго існуе ў нас Вярхоўны Савет і Савет Міністраў, Міністэрства замежных спраў, Міністэрства ўнутраных спраў? Для чаго мы, падаткаплацельшчыкі, утрымліваем так званае беларускае войска, калі нашыя межы, нашыя землі адкрыты для ўсіх, каму пажадаецца тут гаспадарыць? Яшчэ не паспелі рассяліцца мігранты з германскай групоўкі расійскіх войск па Гродзеншчыне, як пачалося засяленне Віцебшчыны Прыбалтыйскай групай войск! І пра гэта мы даведваемся не з нашых газет, радыё і тэлебачання, а з тэлеканала Астанкіна».

А члены гісторыка-культурнага таварыства «Паходня» /А.АСТРОЎСКІ, Р.ПЯТКЕВІЧ, І.РЫНКЕВІЧ, В.СЕЛЯЗНЁВА, С.СМІРНОЎ — усяго 20 чалавек/, вяртаючыся да мінулай ваенна-навуковай канферэнцыі, прысвечанай 50-годдзю заснавання сувораўскіх вучэльняў у СССР і 40-годдзю мінскай аднайменнай установы, адзначаюць: «Канферэнцыя па ўслаўленні ката беларусаў, палякаў і літоўцаў А.В.Суворава — чарговая знявага гонару тых, хто сёння абараніць сябе не можа: палеглых у змаганні з хцівай імперыяй. Не першы гэта ўчынак партнаменклатуры і ўзгадаванага ёю генералітэту імперскага разліву і каланіяльнай загартоўкі. Яны жадаюць і надалей абалваньваць моладзь, каб без хістанняў скакала яна па трунах продкаў, услаўляючы іх катаў».

І праўда, як не ўспомніць тут і брудныя ўлёткі камуністаў, раскіданыя па сталіцы напярэдадні ўгодкаў БНР. Як не прыгадаць адкрыта абразлівыя для дзяржаўных сімвалаў іх «навуковыя» даследаванні! Як не здрыгануцца ад жудаснага блюзнерства ў гадавіну Хатынскай трагедыі, калі нават гэтую страшную дату «вечна ўчарашнія» паспрабавалі выкарыстаць выключна ў палітычных мэтах!

Што ж, сябры «Паходні» маюць рацыю — «Мёртвым не баліць. Мёртвым душой — таксама!»

**Аддзел пісьмаў і грамадскай думкі**



*Фота А. МАЦЮША*

**ДУМКА ЧЫТАЧА**

# ЦІ ТРЭБА «КАЯЦЦА Ў ГРАХОХ»?

*«...сцеражыся закваскі фарысейскай, якая ёсць крывадушша». /Евангелле ад Лукі. 12.1/*

«Заява» ста пісьменнікаў, надрукаваная ў «Звяздзе», вымушае нас сур'ёзна задумацца пра маральны клімат у пісьменніцкай супольнасці Рэспублікі Беларусь. Чытаеш прозвішчы і міжволі ўспамінаеш іншую заяву, адрасаваную ў былы ЦК КПБ пад загалоўкам: «Каму, якому народу служым?» Пад ёй былі прозвішчы і некаторых «падпісантаў» «заявы ста». Між іншым, у той даўняй заяве ёсць радкі, якія варта згадаць і сёння: «Наша культура проста задыхаецца і гіне... Цяпер пад пагрозай нават само існаванне беларускамоўных часопісаў і газет... Здавалася б, калі ж, як не цяпер, усё гэта асэнсаваць і паправіць, выкарыстаць дадзены гісторыяй шанс... Ніякіх жа іншых інтэрнацыянальных мэт, на якія так любяць спасылацца некаторыя нашы кіраўнікі, без уліку сваіх, нацыянальных, не бывае». Але дарэмныя былі спадзяванні-заклікі да чыноўнікаў былой цэкоўскай эліты: у ідэалагічных кабінетах не знайшлося нават слоўца, каб адказаць на заяву. Што зробіш, такая ўжо прырода бальшавізму — недагаворы, дэзінфармацыя і стопрацэнтны падман...

Зараз «інжынеры чалавечых душ» палохаюць беларускую грамадскасць /а можа, самых сябе/ тым, што «ўсякі разрыў духоўных каранёў, самаізаляцыя будуць мець найгоршы вынік у развіцці нашай нацыянальнай культуры.., што тыя нашы калегі, якія сёння трымаюцца іншай думкі, зразумеюць, што **такая супольнасць паспрыяе нам у развіцці нацыянальнай літаратуры»** /выдзелена мною. — **В.С.**/.

Чытаючы такія «філасофскія адкрыцці», міжволі думаеш, як глыбока пранікла ў душы саўковая псіхалогія безасабовасці, як выхалаціла бальшавіцкая ідэалогія з іх свядомасці ўласны нацыянальны гонар: яны не ведаюць іншага, акрамя як хадзіць у прыпрэжцы да аглоблі імперскай брычкі «старэйшага брата». Яны так самазагіпнатызаваліся, духоўна асляплі, што не «ўяўляюць сябе без супольнасці». Для іх супольнасць — нібы той чарадзей-маг, які толькі і здольны ўзняць на вяршыню мастацкасці беларускую літаратуру. Замест таго, каб памятаць радкі з неўміручай паэмы Янкі Купалы «На куццю»: «Аддайце сонца наша нам! Нашто схавалі-расхапалі? Аддайце славу нашу нам! Нашто схавалі-расхапалі? Аддайце песню нашу нам! Нашто схавалі-расхапалі?», некаторыя літаратары, як слушна пісаў у «Звяздзе» В.Адамчык, «клічуць нас у пятлю няволі».

Сёння, калі падпарадкаванае Саўміну БТ штодзённа мусіруе ідэйку «калектыўнай бяспекі», калі на плошчы Незалежнасці маршыруюць нашчадкі зубатаўшчыны пад сцягамі з двухгаловым арлом, агітуючы за «вялікую імперыю», выкрыкваючы зняважальныя воклічы ў адрас суверэннасці і незалежнасці РБ, — сёння, як ніколі, патрэбна згуртаванне ўсіх свядомых беларусаў. І вялікая роля ў тым пісьменнікаў, творчай інтэлігенцыі, калі яна сапраўды акумулюе духоўныя набыткі свайго народа.

На жаль, навіны не з лепшых. Як паведаміла «Звязда», ўжо каля 20 беларускіх пісьменнікаў заплацілі /хто колькі мог/ і збіраюцца рэанімаваць былую «пярвічку»... Відаць, яны прыйшлі ў Каноссу «прасіць і каяцца ў грахох» з надзеяй, што «партайфункцыянеры» Чыкін і Малафееў адпусцяць ім індульгенцыі, пасыпаўшы іх галовы попелам ад спаленых «адшчапенцамі» партбілетаў.

Італьянскі філасоф Макіявелі больш як 400 гадоў таму назад пісаў: «...умы бывают трех родов: один все постигает сам, другой может понять то, что постиг первый; третий — сам ничего не постигает и постигнутого другим понять не может». Няўжо, як сведчаць выказванні людзей «паспалітых», наш «ордэн мечаносцаў» сапраўды цягне адно на трэцюю макіявелеўскую катэгорыю?..

**Васіль СОКАЛ**

*Ляхавіцкі раён*

*Дыялог царквы і інтэлігенцыі, наладжванне духоўнага сумоўя ў грамадстве ўвогуле — справа надзвычай важная, даўно наспеўшая ў Беларусі. У лютым г.г. адбылося сумеснае пасяджэнне пашыранай Рады Беларускага Праваслаўнага Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў разам з праваслаўнай інтэлігенцыяй Мінска. Для абмеркавання былі прапанаваны два пытанні: «Беларусь у новых геапалітычных рэаліях. Усходне-праваслаўная традыцыя і заходнееўрапейскія ўплывы», «Праблема духоўнасці ў грамадстве: царква і інтэлігенцыя». У гаворцы бралі ўдзел святары, сябры брацтва, прадстаўнікі мастацкай інтэлігенцыі.*

*Кіруючыся найперш інтарэсамі дыялога і сумоўя, «ЛіМ» і падае матэрыялы лютаўскай гутаркі /у скарочаным відзе/. Адзначым, між іншым, што на пачатку года рэдакцыя атрымала ліст ад Беларускага эвангелічнага рэфармацкага збору з прапановай «абмеркавання вострых духоўных і асветніцкіх канфесійных праблем», арганізацыі дыскусіі ці чаго іншага. Прымаючы да ведама і ў нечым нават падзяляючы канфесійную затурбочанасць і эвангелічнага збору, і праваслаўнай царквы, і касцёла, і іншых канфесій і рэлігійных абшчын на Беларусі, «ЛіМ» тым часам хацеў бы нагадаць нашым вернікам, што займацца непасрэдным даследаваннем і прапагандай канфесійных і міжканфесійных праблем больш выпадае, відаць, г.зв. клерыкальным ці канфесійным выданням...*

ПУЦЯВІНЫ АДРАДЖЭННЯ

# НАСУСТРАЧ КРОК НЯЛЁГКІ...

Перад пачаткам гаворкі настаяцель царквы «Усіх тужлівых Радасць» свяшчэннік Ігар Карасцялёў /сябра Пашыранай Рады/ зачытаў прывітальны Зварот **Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта** да ўдзельнікаў сумеснага пасяджэння. У сваім Звароце Уладыка Філарэт выказаў шчырае задавальненне з прычыны пачатку творчага супрацоўніцтва Праваслаўнай Царквы і беларускай інтэлігенцыі, блаславіў супольную працу, пажадаў плёну і дапамогі Божае. У Звароце, між іншым, адзначана: «Глыбока знамянальным з'яўляецца тое, што ў цяжкія і няпростыя для свайго народа часіны разам збіраюцца прадстаўнікі Царквы і інтэлігенцыя. Адбываецца сімвалічнае яднанне духу народа з яго розумам і свядомасцю. Нашая беларуская гісторыя перажывала свае ўзлёты і падзенні. І вышыняў мастацтва, літаратуры і культуры Беларусь дасягала тады, калі Святло Хрыстовай Ісціны напаўняла душы творцаў, народных геніяў. Такімі былі і святы Кірыла Тураўскі, і прападобная Еўфрасіння Полацкая, і доктар Скарына. На жаль, натуральнае злучэнне паўнаты хрысціянскае ісціны з жыццём народа і яго культураю было гвалтоўна перарвана на доўгія гады, якія, па міласці Божае, мінулі. Таму вялікая адказнасць зараз ляжыць на нас, членах Святой Праваслаўнай Царквы. Вера ніколі не знікала з душаў людзей. Але ўсталяванне царкоўнага паўнацэннага жыцця было прыпынена. І добра, што вы гатовы так шчыра і актыўна дапамагчы нашай Царкве аднавіць усю паўнату яе існавання. Беларускі Экзархат шчыра зацікаўлены ў плённым дыялогу і супрацоўніцтве з інтэлігенцыяй Беларусі, вітаючы яе творчую ініцыятыву. Але трэба памятаць і аб тым, што крок насустрач Царкве, насустрач хрысціянскай веры не лёгкі...»

Галоўны апякун брацтва **а.Георгій Латушка** зазначыў, што «сярод інтэлігенцыі існуе ўяўленне аб Царкве як пэўнай гістарычнай сацыяльна-культурнай установе. У выніку такога ўяўлення складаюцца пэўныя адносіны да Царквы і высоўваюцца пэўныя патрабаванні. Веруючыя ж людзі, да якіх належаць і члены нашага брацтва, выразна ўсведамляюць тую галоўную мэту, што ставіць перад сабой Царква: аднаўленне ў кожным чалавеку сапраўднага чалавека. Апошняе можна сфармуляваць наступным чынам: сапраўдны, паўнавартасны чалавек ёсць чалавек плюс Бог. Менавіта для гэтага Хрыстос і прыйшоў на зямлю, каб абожыць чалавека, каб прывесці чалавека да Бога, каб разбурыць тую сцяну граху, якая была паміж чалавекам і Богам. Якраз праваслаўе ў сваім глыбінным бачанні абапіраецца на найвышэйшую каштоўнасць — чалавека. У адрозненне ад элінскай філасофіі, дзе чалавек разглядаецца як мікракосм, праваслаўе вызначае чалавека як самае галоўнае, што існуе ў космасе. Вось з гэтага пункту праваслаўны чалавек і дзейнічае, і ажыццяўляе сваё існаванне штодзённа і штохвілінна. Таму брацтва мае сваёй асноўнай задачай пашырэнне хрысціянскай асветы, распаўсюджанне ісцін Хрыстовых, якія павінны асвятліць жыццё чалавека, павінны паказаць чалавеку той шлях, што прывядзе яго да сапраўднага чалавека. А тыя ўмовы, дзе ствараецца сапраўдны чалавек, ёсць Царква са сваімі правіламі, канонамі, традыцыямі, якія апрабаваны ў розных гістарычных умовах. Менавіта таму Царква і не ёсць пэўнай гістарычнай з'явай, бо ў самых розных сацыяльна-культурных умовах яна ўтварае тое асяроддзе, дзе чалавек можа ажыццяўляць імператыў сваёй сапраўднасці.

Разам з тым праваслаўе не ёсць нейкім абстрактным светабачаннем, амаль не звязаным з рэальным жыццём. Наадварот, *праваслаўе вельмі зямное. Яно мае* мэтай канкрэтнага зямнога грэшнага чалавека прывесці да Бога. Таму традыцыя, у якой суіснуе праваслаўе, якую яно прыводзіць у стан абожання, з'яўляецца неабыякаваю для яго. Бо нацыянальная традыцыя ўвасабляе сабою духоўны вопыт пэўнага народа. Зыходзячы з гэтага, брацтва адною са сваіх мэт ставіць вывучэнне і адраджэнне духоўных традыцый, якія існавалі на нашай зямлі.

Безумоўна, супрацоўніцтва брацтва з інтэлігенцыяй павінна дапамагчы інтэлігенцыі раскрыць, праявіць для сябе праваслаўныя каштоўнасці, вартасці хрысціянства, а затым увасобіць іх у сваёй творчасці».

Старшыня брацтва **Мікола Матрунчык,** навуковы супрацоўнік Скарынаўскага цэнтра, на пачатку свайго выступлення акрэсліў мэту, якую брацтва ставіць, запрашаючы інтэлігенцыю да супольнага абмеркавання: «Пашыраная Рада Брацтва — гэта, паводле нашага Статута, орган дарадчы. Ён павінен збірацца адзін-два разы на год. І сёння мы сабраліся разам з творчай і навуковай інтэлігенцыяй для таго, каб выслухаць меркаванні прадстаўнікоў розных груп інтэлігенцыі па прапанаваных пытаннях. Адною з першасных мэт нашае сустрэчы з'яўляецца спроба змадэляваць сітуацыю беларускага грамадства ў яго размаітасці. А па-другое, паказаць, што шлях да плённага і карыснага дыялога розных груп інтэлігенцыі з царквою можа палягаць толькі на грунце шматбаковых зносін на нефармальным узроўні». Затым старшыня брацтва прапанаваў свае разважанні *па першай* з вызначаных праблем: «Два пытанні, якія сфармуляваны для нашай сустрэчы, аб'яднаны, на мой погляд, адной праблемай. Гэта праблема перажывання Беларуссю крызісу саматоеснасці. У духоўным, унутраным сэнсе і ў вонкаваэнешнім. Крызіс гэты палягае не столькі ў нясправджанасці нацыянальнага ідэалу, што так пакутліва перажывае наша інтэлігенцыя, колькі ў нашай агульнай *няздольнасці адэкватна адчуць і выразна* артыкуляваць свой нацыянальны ідэал. Для таго, каб выйсці з гэтага крызісу, свядомай інтэлігенцыі неабходна глыбока спасцігнуць, чым мы ёсць і да якога стану павінна прыйсці нашае грамадства. У залежнасці ад выбару шляху такога пераходу з цяперашняга стану грамадства да будучага інтэлігенцыя дзеліцца — вядома, умоўна — на, так бы мовіць, «дыскрэтнікаў» і «канцінуалістаў». Першыя настроены на скачок грамадства ад камуністычна-таталітарнага мінулага да вольна-дэмакратычнага будучага. У іх дзейнасці закладзены сіндром прорвы, якую трэба пераадолець адразу і адным скачком. Другія ж бачаць наперадзе працяглы пакутны шлях да выяўлення і спраўджвання нацыянальна-духоўнага ідэалу Беларусі. І тут якраз выступае вялікая розніца паміж рэлігійна свядомай інтэлігенцыяй і секулярнай. Глыбока праваслаўны чалавек перажывае цяперашнюю крызу свету як ласку Божую, бо ён усведамляе сябе не пакінутым Госпадам. Ён прымае ўсе горычы і выпрабаванні як яўленую магчымасць быць выратаваным сабе і свайму народу. Чалавеку ж секулярнай свядомасці хочацца найхутчэй выйсці са стану цяжкасцей і неўладкаванасці, выбіраючы для гэтага любыя сродкі, якія часам вядуць да яшчэ большага хаосу. Безумоўна, людзей, якія глыбока адпавядаюць праваслаўнай тоеснасці, а гэта значыць шчыра верацьу Бога і царкоўныя дагматы, пераканана трымаюцца абрадавасці і свядома ўдзельнічаюць у царкоўным жыцці, можа, *і не так многа ў нашым грамадстве, але* менавіта яны сцяжаюць Дух Святы і тым самым уздымаюць духоўнасць грамадства. Іншай духоўнасці без сцяжання Духу Святога проста не можа быць... Частка нацыянальнай інтэлігенцыі, адчуваючы вялікае значэнне Царквы для духоўнага выздараўлення грамадства, патрабуе ледзь не ультыматыўнага далучэння царквы да нацыянальнага Адраджэння. Праваслаўная інтэлігенцыя выбірае *паслядоўны, канцінуальны шлях да* сур'ёзных змен у нашым жыцці: шлях **разам з царквою**, як яна ёсць, узяўшы на сябе хоць частку цяжару ад існуючай неўладкаванасці жыцця, шлях цярпення, дбання і пакоры дзеля паляпшэння ўмоў існавання царквы».

**Свяшчэннік Свята-Духава кафедральнага сабора г.Мінска, айцец Анатоль Кавалёў** у сваіх разважаннях закрануў пытанне аб ролі царквы ў самыя розныя перыяды гісторыі: «Царква на працягу свайго існавання перажывае ўсе эканамічныя і грамадска-палітычныя фармацыі, але застаецца непахіснаю і нязменнаю ў плане сваёй духоўнасці, якую яна нясе свету. І справа такой годнасці царквы ў тым, што яна нясе людзям вучэнне вечнае. Яна нясе людзям тую духоўнасць, якая нам дадзена звыш, ад Бога. Нельга адмаўляць факта, што хрысціянства заўсёды аказвала і аказвае ўплыў на тую ці іншую грамадска-палітычную або эканамічную фармацыю. Больш таго, хрысціянства дазваляе фармаваць трывалы грунт для існавання апошняй. Сутнасць гэтага ўплыву — у духоўнасці, якая трымаецца на Божым Аткравенні. Таму калі мы жадаем аказаць станоўчы ўплыў на сучаснае грамадства, то самі мы павінны быць бліжэй да той духоўнасці, якая з'яўляецца Божаю і вечнаю. І чым больш грамадства будзе далучана да гэтай духоўнасці, тым мацнейшым і жыццядзейным яно будзе». Далей а.Анатоль зазначыў, што ў дзейсным супрацоўніцтве інтэлігенцыі з царквою неабходна засяродзіцца на праблеме выхавання духоўнасці. Тут давядзецца злучыць намаганні святароў, настаўнікаў, катэхізатараў; магчыма, правесці семінары па абмеркаванні праблем духоўнага выхавання, па распрацоўцы методык рэлігійнага выхавання.

Сябра Пашыранай Рады Брацтва доктар філасофскіх навук прафесар **Уладзімір Конан** прааналізаваў адметнасць сучаснай духоўна-культурнай сітуацыі на Беларусі ў еўрапейскім кантэксце: «Мы жывем у канцы XX стагоддзя, калі адбываецца падзея найвялікшай важнасці. Гэта падзея вяртання інтэлігенцыі да Бога, да рэлігіі. Калі мы зірнем рэтраспектыўна на гісторыю культуры, то заўважым, што з часоў позняга сярэднявечча пачаўся працэс аддзялення інтэлігенцыі ад рэлігіі, працэс секулярызацыі інтэлігенцыі. Секулярызацыя дасягнула свайго крайняга пункту ў эпоху бальшавіцкага камунізму. І вось зараз адбываецца напластаванне стагоддзяў і круты паварот. Трэба заўважыць, што якраз у нашым рэгіёне Еўропы гэты паварот адбываецца больш наглядна, можна сказаць, шчыра, з большымі вынікамі. Таму што часам, калі вера людзей і іх духоўнасць не зазнае пакутаў, то можа адбыцца пераходу ў фарысейства. Як быццам бы чалавек верыць, але фармальна, па сутнасці адкідаючы рэлігійныя аргументы пры вырашэнні важных сацыяльных, палітычных і духоўных праблем. Я думаю, гэтая з'ява найбольш характэрна для тых краін, па ўзоры якіх мы імкнемся развівацца: багатых, заможных краін Еўраамерыкі. Таму *наш духоўны вопыт, вопыт пакут нашага* народа і народаў былога Саюза вельмі павучальны для гісторыі. Зноў жа, калі зірнуць на еўрапейскі абшар, бачна, што недастатковы ўплыў рэлігія аказвае не толькі на грамадскае жыццё, але і на палітычны выбар. Бо ёсць небяспека не толькі ў аўтарытарных урадах, але і ў дэмакратычных праўленнях. Апошнія могуць перараджацца ў анархію як сацыяльную, так і духоўную, што, на вялікі жаль, *адбываецца ў некаторых краінах* Еўраамерыкі. У гэтым сэнсе мы павінныя выбраць свой шлях для злучэння рэлігіі і грамадскага жыцця. І на гэтым шляху нам заўжды могуць дапамагчы нашы рэлігійныя мысляры, выдатныя дзеячы культуры.

І яшчэ. Напэўна, ёсць у высокай культуры, сапраўднай паэзіі, высокай філасофіі Божае і рэлігійнае. Нават калі суб'ектыўна той ці іншы філосаф альбо паэт часам уступаў у канфлікт з рэлігіяй, але ў іх творчасці ёсць духоўны агонь, ёсць імкненне ў вышыню».

У сувязі з тым, што нарэшце святары і інтэлігенцыя маюць магчымасць сустракацца і супольна абмяркоўваць пытанні, якія глыбока хвалююць як адных, так і другіх, выказаў сваю шчырую радасць свяшчэннік з Маладзечна айцец **Іаан Міцько**: «Калі мы гаворым аб збліжэнні інтэлігенцыі з веруючымі, з царквой, то трэба заўсёды мець на ўвазе тую тоўстую сцяну, якая раней аддзяляла нас адзін ад другога: царкву і людзей царкоўных ад дзеячаў грамадскіх спраў, навукоўцаў. І вось калі мы яднаемся, нам трэба мець дастаткова цярпення і чуйнасці ў гэтай *справе... Мы павінны будаваць свае* адносіны перш-наперш па-праваслаўнаму. Што значыць быць праваслаўным? Гэта значыць, правільна верыць у Бога і правільна адносіцца да людзей. Калі мы наладжваем такія сувязі, калі хочам быць — і святары, і веручыя, і інтэлігенцыя — братамі ў Хрысце, мы павінны памятаць аб тым, што раскрываецца ў далейшай назве нашага аб'яднання. Памятаць, што яшчэ зусім нядаўна мы ўсе былі мучанікамі — і святары, і інтэлігенцыя. Чым была нядаўна нашая інтэлігенцыя? Людзьмі, якія блукалі па пакутах. Безумоўна, былі ў іх і светлыя адрэзкі жыцця. То была радасць творчасці, маладосць. Але галоўнае ў гэтых людзей было адабрана: тое, што дапамагае нам ратаваць свае душы. І калі мы хочам зблізіцца з такімі людзьмі, то мы, перш за ўсё святары, павінны мець цярплівасць у гэтай цяжкай, вельмі адказнай і вельмі неабходнай справе. І няхай, таксама ідучы насустрач нам, інтэлігенцыя думае пра тое, што наш шлях быў не менш цяжкім. І нам не ўсё ўдалося здзейсніць так, як хацелася, каб тое вабіла вашае сэрца, ці ваш зрок і слых. Складаліся такія абставіны, што і нам перашкаджалі, і вам перашкаджалі па-сапраўднаму рабіць добро. І вось сёння мы маем магчымасць усё здзейсніць. І я веру, што калі будзе цярплівасць і з вашага боку, і з нашага, то рана ці позна мы аб'яднаемся, мы будзем адны людзі. Не толькі тыя людзі, якія хочуць людзьмі звацца, але і тыя будуць з нас людзі, якія хочуць звацца братамі ў Хрысце».

Аб раз' яднанасці ідэалаў сярод самой інтэлігенцыі, аб неабходнасці звароту інтэлігенцыі да хрысціянскіх каштоўнасцей казаў у сваім выступленні доктар філасофскіх навук прафесар **Мікалай Крукоўскі**: «Праблема аднаўлення духоўнасці беларускага народа, аднаўлення духоўнай культуры беларусаў вельмі надзённая. Мне вельмі імпануе погляд расійскага філосафа С.Булгакава на культуру як на еднасць інтэлігенцыі — і творчай, і тэхнічнай — з царквою. Нам яшчэ *належыць перажыць, пераадолець* вынікі той цяжкай сітуацыі, з якой мы выйшлі. Мы былі выхаваныя ў вялікім разрыве са сваёю традыцыяй. Наша інтэлігенцыя сама раз'яднаная. Чаго вартае адно ўжо размежаванне на гуманітарную і тэхнічную. Апошняя на працягу дзесяцігоддзяў была цалкам заняволена ваенна-прамысловым комплексам, працавала над стварэннем ядзернай зброі. І чым страшнейшую зброю *яна стварала, тым з большым гонарам*

(Працяг на стар. 12)

# СВЯТЛО І ЦЬМЯНАСЦЬ РАДКА

### *Кніга паэзіі Валянціны АКСАК "Цвінтар"*

Аднойчы на абмеркаванні калектыўнага зборніка ў Саюзе пісьменнікаў я сказаў: «Лічу твор А.П. выдатным, хаця нічога ўім не зразумеў...» Гэта выклікала вясёлы смех і бурныя воплескі. Я не пакрыўдзіўся: смяяўся разам з усімі, бо хораша ведаю, што такая праблема існуе. Нядаўна ў маскоўскай «Литературной газете», у артыкуле М.Ліпавецкага прачытаў: «... стыль увогуле можа абыходзіцца без філасафічнай падкладкі. Ён сам сабе філасофія». Ну, а філасофія ніколі не ходзіць у адзіноце, побач з ёю абавязкова і этыка, і эстэтыка. Стыль сам па сабе падчас бывае носьбітам эстэтычнасці.

У большай меры гэта датычыцца паэзіі. Формы беларускай і рускай паэзіі, традыцыйна рыфмаванай, распрацаваны так добра, што нават гульня ў бурымэ раптам дае штосьці асэнсаванае. Л.Талстой заўважыўу дзённіку: «У вершах уратоўвае допускаемая няяснасць». І былі б паэты самымі шчаслівымі ў літаратурным цэху, калі б не гэтае «ўратоўвае»...

Тое, што я сказаў пра твор А.П., але ў значна мякчэйшай форме магу сказаць пра кнігу Валянціны Аксак «Цвінтар», якая нядаўна выйшла ў серыі «Першая кніга паэта».

Нічога ў ёй ад «першай» няма — кніга «дарослага», сталага паэта. Са сваёй мовай, сваім стылем. Моцныя, жывыя, пругкія вершы, у якіх адлюстроўваецца характар лірычнай гераіні, што тое ж — самой паэтэсы, чалавека гордага, незалежнага, самастойна мыслячага, што бачна з таго, як часта сустракаюцца радкі-«выклікі» агульнапрызнанаму:

**Побач з добрымі — толькі няшчасце...**
**...................................**
**Напэўна, бяскрылае — лепшая доля...**
**...................................**
**Ну вось, мой горад, мы з табой навекі,**
**Хоць я, прызнацца, не люблю цябе...**

Адна з прыкмет сапраўднай паэзіі — нечаканы паварот думкі, які іншы раз прымушае нас нават злёгку ўздрыгнуць і нібы іншымі вачыма ўбачыць тое, што прачытана раней, — такое «Вадохрышча»:

**Яшчэ не распялі,**
**Яшчэ адрачэнне**
**Не лесціць сумлення,**
**Не лашчыць душу.**
**Яшчэ ж у купелі**
**Святога хрышчэння**
**За наша збавенне**
**Мы ладзім імшу.**
**І крыжык чапляем,**
**І ўхвалу спяваем,**
**Вадою купельнай**
**Дубец паліваем...**

Страфа скончана, спынімся, асэнсуем: ахрысціліся, вырасцілі дуб, а з яго зрабілі ўсё той жа крыж — распяцце. У такім кругазвароце знікае самы сэнс хрышчэння, і пра гэта сказана па-мастацку пераканаўча.

Іншага плана верш:

**Зацёртая джынсовая спадніца**
**І світарок, што покуль не малы.**
**Сягоння пахаджаю зноў царыцай**
**Наўкольнай інтэрнатаўскай шпаны.**

Нейкі крытык правільна, з майго пункту гледжання, заўважыў, што ў М.Цвятаевай нават не-рыфмы чытаюцца, як самыя дакладныя рыфмы; тое ж можна сказаць пра «малы — шпаны» В.Аксак.

Так чытаў бы і чытаў з асалодай, але раптам свядомасць нібы спатыкаецца. На слове, на фразе, на радку, на страфе. А то і на вершы цалкам. Вось «Сляды на гарадзішчы»:

**Рагнеды крок на свой не прымяраю,**
**і не таму, што родам не з князёў, —**
**занадта дробнаю хадой ступаю,**
**у след яе зусім не патрапляю,**
**а мой раўняе непагадзь з гразёй.**

Зразумелыя словы, зразумелы агульны сэнс, але дзеля паўнаты ўспрымання хацелася б ведаць сэнс апошняга радка, бо ён важнейшы за астатнія, ўім менавіта вызначэнне с в а й г о следу. Адсюль пачынаецца зусім іншая праца свядомасці, трэба разбірацца не ў тым, што па-за радком, а ў тым, што ў самім радку. Расшыфроўка. Свядомасць пачынае моршчыць лоб, паціскаць плячыма. Свядомасць незадаволена: не да таго рыхтавалася!..

Альбо вось, напрыклад, верш «Амністыя»:

**Тры з паловаю тысячы ўсмешак**
**З'елі «верныя», хрумснуўшы смачна...**

Тут ужо трэба разбірацца ў першым радку, бо, магчыма, размова ідзе пра тры з паловай тысячы дзён, дзесяць гадоў зняволення.

**Але скача ў куце Вашым вершнік,**
**І Ваш Бог свой намер не зыначыў.**

Які вершнік? куда скача? які намер?.. Можна меркаваць так, а можна інача. Нешта бачыцца праз туман, але здарылася так, што я ўжо страціў цікавасць да верша.

Пэўна, у рэшце рэшт м о ж н а разабрацца і ў такім, напрыклад, вершы:

**Як па гойстрых нажох, пакацілася**
**сонца**
**Па загойстраных ветрам сухіх**
**старчакох**
**Частакольнай мяжы, што паўстала**
**бясконца**
**У хвастых вярхох — сухавеяў шляхох.**
**Пакацілася сонца да самага донца**
**Каламутнага віру ў балотных хмызох,**
**Адыходнае слоўца благі суразмоўца**
**Шпурлянуў — скалынуў крутасхілу**
**крысо.**
**Бескалёрнай пралескай па схіле**
**· ўтравелым,**
**Прамінулай уцехай раскошнай веснe,**
**Камячком безбалесным — у вір**
**звар'яцелы**
**Паляцела душа. Каля сонца спачне.**

Разабрацца можна, але ж паэзію і якія-небудзь іншыя тэксты чытаюць розныя цэнтры нашай свядомасці, і кожны раз у падобных выпадках «пераключаць» іх — значыць сапсаваць успрыманне эстэтычнае, непасрэднае, вобразнае...

На мой погляд, у адрозненне ад рускай, беларуская паэзія апошніх гадоў шчасліва пазбегла праслаўтай «чарнухі», але, відаць, імкненне да ўскладнёнасці закранула і яе. Процістаўляючы прозу ранняга Б.Пастэрнака бунінскай і нават чэхаўскай, М.Цвятаева ва ўласцівай ёй манеры пісала ў «Рабочых сшытках»: «Работай» говорит Б.П., — «я бился — побейся и ты». (Я — над материалом, ты — надо мной...) ... Читал — точно об стену бился, чуть ли не булыжники на мостовой колол, кончил — огромный прилив силы. Отданное — вернулось...».

У гэтым ёсць свая логіка. Але час паказаў, што ранняя проза Пастэрнака ў вялікую літаратуру не ўвайшла, а Чэхаў застаўся Чэхавым. М.Цвятаева (мне здаецца, што В.Аксак уважліва яе чытае) абараняла, вядома, свой часамі залішне цьмяны стыль,сваю «безмерность в мире

# «ПАЭЗІЯ — ГЭТА НЕ ПРОСТА ЎДАЧА...»

### *«БІБЛІЯТЭКА «МАЛАДОСЦІ»: СУСТРЭЧА ДРУГАЯ*

*Кастусь Жук. У найме ў сонца. Вершы.*
*Зміцер Марозаў. Прадчуванне.*
*Вершы, вянок санетаў.*
*Мінск, 1991.*

Цяжка не пагадзіцца з К.Жуком, які ў адным з вершаў даводзіць, што «паблажка не лечыць — паблажка калечыць...» і асабліва гэта будзе справядліва, калі весці крытычную гаворку пра паэтычныя кніжкі, амаль саракагадовых аўтараў маладосцеўскай «Бібліятэкі...» — самога Кастуся Жука і Зміцера Марозава. Невыпадкова зборнікі двух гэтых паэтаў-равеснікаў трапляюць у поле нашага зроку разам, а не паасобку. Чаму? Неяк не выпадала выказацца пра творчасць гэтых аўтараў, якія ўжо даўно не навічкі, друкуюцца шмат і паспяхова, нават завельмі. А галоўнае — яны блізкія па духу і ўзроўню выяўленых думак-пачуццяў, падобныя слабымі мясцінамі. Кніжкі як першага, так і другога аўтара, калі казаць без перабольшання, вызначаюцца стандартнасцю вершаванай прадукцыі, што, як падаецца, выходзіць з-пад іхняга пяра не без паспешлівасці, без строгага рэдактара-крытыка, як унутранага, так і выдавецкага.

Не сказаць, аднак, каб «У найме ў сонца» К.Жука і «Прадчуванні» З.Марозава было абсалютна ўсё слаба. У паэтаў там-сям пракідваюцца індывідуальна-адметныя рысы ў вобразатворчасці, матывах, паэтыцы, ёсць, мовячы словамі аднаго з паэтаў, «нечаканыя ў думках парой павароты». Найбольш удалых строф і радкоў, на мой погляд, у Марозава, адчуваецца, што ў яго ўсё ж адбываюцца пэўныя творчыя і светапоглядныя зрухі. Але працаваць нешта сапраўды самае-самае важкае, яркае, што ўразіла б чытача, даволі няпроста. Тым не менш вось радкі, якія, на маю думку, нясуць жывы адбітак уласнага светаўспрымання: «Гойна, праменна, расяна Ранак ступае ў душу», «За тое, Што не ўзяў я парасон, Дождж робіць на спіне маёй заўвагі» (К.Жук), «Упаду ад знямогі На далоні твае Матылькам вечаровым...», «Куды ж ісці далей?.. Здалёк чуваць матулі словы: «Ідзі, мой родны, да людзей» (З.Марозаў) і некаторыя іншыя.

К.Жук і З.Марозаў адносяцца да тых паэтаў, якія спяшаюцца звяраць сваю хаду з часам, іх позірк пераважна скіраваны на сацыяльныя і грамадскія тэмы сучаснага жыцця. Актуальнасць сама па сабе з'ява, безумоўна, не заганная, але сутнасць якраз у тым, на якім духоўна-эстэтычным узроўні выяўляецца нейкая тэма ці вобраз-матыў, бо «паэзія ... нараджаецца ў разуменні і для разумення» (Г.Гадамер). Ці гавораць К.Жук і З.Марозаў пра небяспеку вайны, мір, любоў да роднай зямлі, яе беды, ці асуджаюць прыстасаванцаў, фарысеяў, бяздушнасць, іншыя заганы жыцця — іх светаасэнсавальныя высновы,назіранні ды абагульненні не выходзяць за межы агульнавядомага публіцыстычна-павярхоўнага, дэкларацыйнага. Прыкладаў сказанаму колькі заўгодна:

**Ці ўратуем шар зямны,**
**Які ні ёсць — ды наш, адзіны?**
**... Страляюць прэзідэнту ў спіну,**
**... Лютуе дзесь агонь вайны.**

*(К.Жук. «Вузлы трывог»)*

**Дзесьці прагнуць нажывы босы,**
**Падаюць цемрашальству руку.**

*(К.Жук. «Глыток эпохі»)*

**Спыніся, вечнасці імгненне, —**
**Ступае сейбіт па раллі!**
**...........................**
**Глядзі, як цвёрда ён ступае,**
**Таму і верціцца зямля!**

*(З.Марозаў. «Вясна»)*

Пра любоў да радзімы, вернасць да бацькоўскай зямлі гаворыцца неяк агульна, гучна-дэкларацыйна, без прачулай інтымнасці:

**За дзяржаву я гатоў памерці,**
**Каб радзіме сто вякоў жылося!**

*(З.Марозаў)*

**Зямля бацькоў!**
**О дай яшчэ мне раз**
**Прыпасці да цябе,**
**абняць абедзвюх,**
**Каб аніколі ў сэрцы не пагас**
**Агонь любові,**
**радасці**
**і веры.**

*(К.Жук)*

Ствараецца ўражанне, што К.Жук нібыта не чытаў радкоў пра шар зямны і небяспеку вайны ў Э.Межэлайціса, А.Куляшова, П.Макаля, а З.Марозаў — пра сейбіта ў Я.Купалы і Я.Коласа, пра поле ў М.Танка і В.Зуёнка, што ўвогуле да К.Жука і З.Марозава ніхто не выказаў патрыятычныя пачуцці: прыпасці да зямлі, агонь у сэрцы — далёка не свежыя словы-прызнанні. Дык дзе ж эстэтычная непаўторнасць думак-вобразаў? Чаму паэты не дбаюць пра душэўную праніклівасць, праўдзівасць пачуцця, ці яны думаюць, што ў чытача непатрабавальны густ? Няма сумнення, што К.Жуку і З.Марозаву бракуе лірычнай усхваляванасці, глыбіні перажывання. Асабліва шчодрыя на расхістаную рыторыку, абстрактна-адцягненую агульшчыну верш К.Жука «Закляненне» і вянок санетаў З.Марозава «Сад». Упэўнены, што такія творы не крануць душу, бо і сапраўды не надта верыш, кажучы словамі К.Жука, «тому, хто «трубіць»:

**Але я атэіст. І ў апраўданне**
**Я прамаўляю гэта закляненне:**

**«Пакуль зямля стаіць на трох кітах**
**Ці круціцца вакол нябачнай восі —**
**Устань, рабочы, і устань, ратай, —**
**Гудуць над светам «Першынгі»,**
**не восы...**
**Гудуць, каб атруціць пагодны**
**дзень, —**
**Даліны, вісажары, пушчы, рэкі,**
**Каб на Зямлі з сэрцамі і навекі**
**Застаўся толькі хіжай смерці цень.**
**Устань, устань змагацца, чалавек,**
**За свой дваццаты, свой пакутны**
**век!**
**Устань!**

І, урэшце, заключныя радкі верша-прамовы К.Жука:

**Я не фанатык, не вар'ят, паверце.**
**Я — чалавек, і — верце, людзі, мне! —**
**У жмуркі не хачу гуляць**
**са смерцю —**
**Давайце**
**шансаў не дадзім вайне...**

**Мой крык, як рана у грудзях**
**скразная, —**
**На барацьбу са смерцю**
**Заклінаю!»**

(Працяг. Пачатак у N 13)

мер». А ўсё-такі і сам свет, і ўсё ў свеце створана менавіта м е р а й. Што датычыцца паэзіі — мерай п а ч у ц ц я!..

Калі радок В.Аксак дыктуе пачуццё — куды знікае цьмянасць!..

**Зноў год прабег,як зморшчынка**
**па твары,**
**Гляджуся, не свая, ў старым**
**зацьмелым люстры.**
**А за сцяной звон расстроенай гітары**
**І тупат ног, не па-начному шустрых.**
**Ты не прыйшоў са мною год**
**закончыць**
**І павітаць пачатак новага злічэння.**
**Ну што ж... У сукні вабнай буду тут**
**выстрончваць**
**На пару з той — улюстраным свячэнні.**

Гранічная канкрэтнасць. І тая поўная яснасць сітуацыі, у якой характар лірычнай гераіні бачыцца ўжо не праз нейкі туман,а нібы пры сонечным асвятленні: ты не прыйшоў... ну што ж, а ўсё роўна буду «выстрончваць»!.. Ні слёз, ні просьбаў, ні жальбы, ні абвінавачванняў — гордасць...

Як і трэба было чакаць, паўней за ўсё характар лірычнай гераіні «Цвінтара» абмалявала тэма (хаця для жанчыны гэта не тэма, а само жыццё) кахання. Нездарма. Далібог, мае рацыю хтосьці з вялікіх: жанчына геніяльная ў каханні і зусім нецярпімая ва ўсім астатнім. Такая дыялектыка хораша прасочваецца ў вершах В.Аксак. Яе ўменне п і с а ц ь уражвае, але не больш за тое; яе ўменне (прынамсі, яе лірычнай гераіні) к а х а ц ь стварае сапраўдную паэзію. Лепшы раздзел кнігі — «Між намі Дзвіна, як віна» — невыпадкова гаворыць «пра «віну»: па чыёй віне каханне амаль заўсёды нешчаслівае, ночы пустыя, а ложак халодны?

**Са мною ноччу твой партрэт,**
**Дзе на сябе ты не падобны.**
**Хлуслівым золатам багет**
**Блішчыць на рамцы самаробнай.**
**Вачэй чужых лаўлю пагляд,**
**Шукаю ў вуснах цень усмешкі.**
**І ўжо сапраўдны ты наўрад**
**Так добра знаеш сон мой грэшны.**
*(«Партрэт»)*

«Нашто цяпер мне ночы морак з віном няпрошаных гасцей?.. І курчыцца пухнаты ўзгорак — нераспавітая пасцель» («Самота»). «У вашых словах з большага ўсё праўда: на белай ночы чырвань маіх сноў цвіце яскрава пасля стольких здрадаў, на кужаль цноту кінуўшы ізноў» («Грэх»). Але пустыя ночы праходзяць, пакідаючы напоўненыя сапраўдным пачуццём вершы...

Адразу скажу: побач з імі некалькі дзіўна чытаецца рэлігійная тэма В.Аксак:

**О як холадна жыць, Божа мілы!**
**Стынуць вусны, ляднее душа.**
**Дай мне сілы, мой Бог, дай мне сілы!**
**Хай загіну пазней, а спярша**
**Хоць крыхотку цяпла, хоць драбніцу,**
**Хоць іскрынку маленькую дай!**
**Буду вечна за гэта маліцца,**
**Буду гнаць ад сябе той адчай...**

Быццам лірычная гераіня памяняла характар, быццам паэтэса памяняла свой стыль — атрымаўся верш, поўнасцю пазбаўлены прыкмет асабістага. Мабыць, і ў гэтай моднай тэме можна сказаць сваё слова, ды справа не ў тым. Надта ўжо далёкая лірычная гераіня «Цвінтара» ў сваіх любоўных перажываннях ад патрабаванняў так званай рэлігійнай маралі. Проста сказаць, яна — язычніца, а не хрысціянка, любіць кахаць не «духам», а целам, усёй непадзельнай чалавечай жаночай істотай.

«Пазнай сябе» напісана на браме храма ў Дэльфах. Трэба, як кажуць сёння, вызначыцца: дзе **тваё**, дзе **не тваё.** Тым болей, што паэтэса «засядзелася на старце». «Я занадта позна пачынала, каб вось так па дробязях драбніцца, каб на сем ці восем раздзяліцца». Магчыма, В.Аксак, як і многія іншыя, доўга пісала «ў стол», сілу сваю ведала, але паэту без чытача і крытыка нельга расці... Што датычыцца «цьмянасці» некаторых яе радкоў і вершаў, дык я не ведаю больш каштоўнай, чым парада Буало: хочаш сказаць — ідзе дождж, скажы: ідзе дождж.

**Фёдар ЯФІМАЎ**

Публіцыстыка, як бачым, далёка не лепшага гатунку: аголеная, пафасна-крыклівая. А зараз паслухаем красамоўную гаворку З.Марозава:

**Не за сябе баюся — за людзей —**
**Эпоха Зла слабымі іх зрабіла.**
**Тысячагоддзя бачыцца парог.**
**Боль Паражэнняў, горыч Перамог**
**Ці здолею ўМану не пераплавіць?..**
**...............................**
**Як рыбіна аб лёд, Надзея б'ецца.**
**Сігналы — пазыўныя майго сэрца**
**Ляцяць праз пакаленні і вякі.**
*(«Сад»)*

Факт відавочны, што паэтычнага тут да скарэднага мала. Адкрыцці паэтаў не пасоўваюцца далей канстатацыі чутых намі жыццёвых ісцін ці задавання бясконцых пытанняў, якіх надзвычай шмат у З.Марозава. Часта падаецца, што дзеля аднаго-адзінага пытання ці патэтычнай фразы і пісаўся верш:

**Гайкі заціскаюць —**
**Злодзея шукаюць:**
**«Куды дзеўся цукар?**
**Хто папіў алей?..»**
**І гэтак далей і гэтак далей...**

Што стаіць за гэтымі пытаннямі? Жаданне выглядаць глыбакадумным? Хіба паэзія павінна толькі задавальняцца пытаннямі і канстатаваць убачанае? Абавязак паэтаў, як думаецца, весці духоўны пошук, даваць адказы на няпростыя і вечныя пытанні быцця, часу, а не знаходзіцца ў палоне інфантыльнасці, спаборнічаючы ў паўтарэнні зацёртых пытанняў, думак, інтанацый: «О, ісціна, скажы — Калі ты ёсць, дык дзе ты?..» (З.Марозаў), «Як адказаць на пытанні веку: Ці чалавек закілзаў прагрэс, Ці прагрэс закілзаў чалавека? (К.Жук) і інш. Што ж, паэтам ёсць над чым падумаць, паразважаць.

Ход верша З.Марозава нярэдка засьнаваны на эксплуатацыі адных і тых жа назоўнікаў, аднатыпных дзеясловаў («Калектыўна мы працуем...» «Цэны падымаюць...» і інш.). К.Жук бывае схільны да штучнай экстравагантнасці:

**Закон валасатай рукі,**
**Кім першым ты быў адкрыты?**
**Маўчаць**
**тэ-**
**а-**
**рэ-**
**ты-**
**кі,**
**Нібыта ты стаў забыты.**
*(«Пытанні стараму дубу»)*

На самай справе К.Жуку і З.Марозаву яўна не стае неардынарнасці выказвання, стылёвай раскаванасці верша замест апісальнасці, імітаваных, заштампаваных радкоў, якія падобны блізкароднаснай логікай мыслення і танальнасцю маўлення. Як, прынамсі, бракуе маляўнічай метафарычнасці, тонкага жывапісання рытмам, гукам, рыфмаю. Так, «колераў, колераў мала...»

Чаму мы гэтак падрабязна запыніліся на кніжках гэтых аўтараў? Таксама і з тае прычыны, што маладосцеўскі дадатак стаў для іх магчымасцю яшчэ раз надрукаваць тое ж самае, што крышку пазней склала аснову іхніх салідных, пульхных кніг, якія выйшлі ў 1992 г. у «Мастацкай літаратуры». К.Жук выдаў зборнік «Пладаносны агонь», З.Марозаў — «Ачышчэнне сяўбой». Думаецца, разгляд танюсенькіх кніжак гэтых аўтараў дае пэўнае ўяўленне пра іх тоўстыя тамы, якія пры большай рэдактарскай патрабавальнасці маглі б аказацца нашмат танчэйшыя.

Што і казаць, шмат якія далёка не лепшыя і прэстыжныя выданні ў нашых выдавецтвах пры сувязях нараджаюцца так хутка, не раўнуючы, як дзіця праз дзевяць месяцаў. Пра эстэтычныя крытэрыі і меркі ў такіх выпадках гаварыць не прыходзіцца. Усё ж жыццё ў літаратуры, сама паэзія — «гэта не проста ўдача» «цісканусць» кніжкі, адабраўшы выдавецкія пазіцыі ў маладых і неаперачаных, а нешта нашмат большае і значнае.

**Алесь БЕЛЬСКІ**

*(Працяг будзе).*

# АДНАГОДАК НЕЗАЛЕЖНАСЦІ



## *Да 75-годдзя Алеся ГАНЧАРА*

Прызнаюся: назва гэтага допісу пра выдатнага ўкраінскага пісьменніка і грамадскага дзеяча, лаўрэата ўсіх украінскіх і колішне саюзных літаратурных прэмій /уключаючы і Ленінскую/ Алеся Ганчара, якому 3 красавіка споўнілася 75 гадоў, з'явілася ў Дзень Волі, 25 сакавіка, у зале Дзяржаўнай філармоніі на святочным вечары. Толькі праз колькі дзён я зразумеў, чаму так здарылася. Там, у наскрозь праазанаванай патрыятычнымі настроямі атмасферы ў выступленнях «з народу нашага прарока» Васіля Быкава, «песняра» Ніла Гілевіча, «ваяка» Міколы Статкевіча, «уладара» Зянона Пазняка і іншых беларускіх дзяржаватворцаў, выразна адчуўся перагук думак — гуманістычных, дэмакратычных, незалежніцкіх — з чутым і чытаным у вернага сына Украіны Алеся Цярэнцьевіча Ганчара. І словы, якія дагэтуль успрымаліся як кісла-аскомінны штамп /прыгадайма: «Равеснік Кастрычніка», «Равеснік Перамогі» і г.д./, набылі раптам глыбінную сутнасць і характарыстычнасць.

Сапраўды: Алесь Ганчар нарадзіўся ў незалежнай Украінскай Народнай Рэспубліцы, праз некалькі месяцаў пасля яе абвяшчэння. І літаральна праз тыдзень пасля абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі /якую, дарэчы, адразу прызнала УНР/. Незалежнасць, можна сказаць, у генах пісьменніка. Яе ён адстойваў са зброяй у руках у час Вялікай Айчыннай вайны, пра што пазней расказаў у сваіх шматлікіх творах, і найперш — у славутых «Сцяганосцах» /1948/. Абскубаную з усіх бакоў... не, не незалежнасць, а ўсяго толькі дзяржаўна-палітычную аўтаномію Украінскай ССР /схаваную пад шыльдай «свабоднай» рэспублікі/ ён ахоўваў як мог. І ўсімі магчымасцямі дэпутацкіх пасад /дэпутата УССР і СССР/, члена ЦК КПУ, кандыдата ў члены ЦК КПСС. І —галоўнае — здольнасцямі пісьменніка, захавальніка і памнажальніка нацыянальных культурных скарбаў, фармавальніка нацыянальнай самасвядомасці — фундаменту і гаранта любой дзяржаўнай незалежнасці.

І калі наступіў вырашальны момант: быць або не быць сапраўды самастойнай, незалежнай Украіне? — Алесь Ганчар як грамадзянін-патрыёт вызначыўся цалкам. Як у свой час А.Твардоўскі ці В.Быкаў, ён не пабаяўся трапіць у няміласць да самага высокага «інтэрнацыянальнага» /дакладней — касмапалітычнага/ начальства, не спакусіўся залатазвоннасцю высокіх узнагарод /нават перад сваім сямідзесяцігадовым юбілеем/, а ступіў на коўзкі шлях ідэйнага змагання. Аўтар вядомейшых раманаў «Таўрыя», «Перакоп», «Чалавек і зброя», «Тронка», «Бераг любові», «Твая зара» і інш., ён узяў у рукі мабільнае пяро публіцыста і стаў, кажучы словамі Ю.Шчарбака, «абаронцам маральных, культурных, гістарычных святынь, без якіх украінскі народ ператварыўся б на сярэднестатыстычнае «насельніцтва Украіны». Мабыць, за апошнія сем-восем гадоў не было на Украіне ніводнага больш-менш значнага грамадскага форуму, дзе б Алесь Ганчар не выступіў з усёй сваёй палкасцю і ідэйнай перакананасцю ў абарону украінскай культуры, мовы, дзяржаўнай незалежнасці. Дый не толькі словамі — справамі выяўляе ён свае перакананні.

Мяне, як і многіх чытачоў і прыхільнікаў таленту пісьменніка, у свой час надзвычай уразіў ягоны ўчынак — выхад яго, камуніста-франтавіка, члена ЦК КПУ і кандыдата ў члены ЦК КПСС, з радоў КПСС. Адбылося гэта 9 кастрычніка 1990 года, амаль за год да путчу ГКЧП і прыпынення дзейнасці КПСС—КПУ. Да апошняга моманту аўтар «Сцяганосцаў» спадзяваўся, што «на сваіх з'ездах партыя дасць мінуламу належную ацэнку, каб актам пакаяння абараніць імя мільёнаў чэсных камуністаў, якія не маюць дачынення да рэпрэсій і тэрору», што «ўзяўшы курс на перабудову, на карэнную абнову жыцця, яна адмовіцца ад далейшага навязвання народам імперскага вялікадзяржаўнага курсу». У той час у Кіеве перад будынкам Вярхоўнага Савета паўтары сотні украінскіх студэнтаў пачалі бестэрміновую галадоўку, патрабуючы адстаўкі прэм'ер-міністра В.Масола, прызначэння новых выбараў на аснове шматпартыйнасці, прыняцця пастановы пра нацыяналізацыю маёмасці КПСС і ВЛКСМ на тэрыторыі Украіны, адмовы ад падпісання Саюзнага дагавору, вяртання на Украіну ўсіх грамадзян УССР, якія праходзілі тэрміновую службу за межамі рэспублікі. Зусім слушныя патрабаванні, якія, як мы ведаем, амаль усе былі пасля рэалізаваны. Аднак тады, у тыя дні, дэпутацкая група «239» / прадстаўнікі кампартыі ў Вярхоўным Савеце Украіны/ і чуць пра гэта не хацела, адчуваючы сваю колькасную перавагу і беспакаранасць. Калі ж на дзесяты дзень галадоўкі ўшчэнт змардаваных, даведзеных да смерці студэнтаў пачалі адвозіць у рэанімацыю /а Ганчар гэта ўсё бачыў на ўласныя вочы: сярод галадаючых была і ягоная ўнучка/ і калі слова з парламенцкай трыбуны ў абарону студэнтаў група «239» сустрэла ... рогатам /?!/, пісьменнік далей цярпець не мог. Ён аднёс у партком Саюза пісьменнікаў «Ліст-заяву», у якім выказаўся катэгарычна і недвухсэнсоўна: «Я з тымі, хто здольны на спачуванне і міласэрнасць, хто разам са студэнтамі, разам з усёй свядомай грамадскасцю рэспублікі выступае за сапраўдны суверэнітэт Украіны, а не з тымі, хто люта супраціўляецца радыкальным зменам у жыцці, выяўляючы свой апаратна-дагматычны кансерватызм, сваю антынародную сутнасць. З такімі, з бязмежна жорсткімі, якія глумлівым рогатам сустракаюць трагедыю ўласнага народа, пакуты дзяцей Украіны, я не хачу мець нічога агульнага».

Такі ён, сённяшні Алесь Ганчар. Не з усім, што робіцца ў грамадстве, згодны, далёка не ўсім прыемны, але такі як ёсць. Патрыёт. Гуманіст. І — сапраўдны інтэрнацыяналіст. Вось, у прыватнасці, што ён нядаўна напісаў у лісце да аўтара гэтых радкоў: «Мае пачуцці да беларусаў Вам добра вядомыя. Гэта нешта большае, чым проста выяўленне сімпатыі: гэта — доля, яна нас яднае. Я ўдзячны за нязменную беларускую ўвагу да маіх твораў, шкада толькі, што «Спогад пра акіян» не быў перакладзены, а ў ім жа галоўным героем выступае беларус... Вы пішаце, што я меў і маю сярод беларусаў шмат сяброў, гэта святая праўда, і мае пачуцці да іх таксама выключна стабільныя».

Стабільнасць нашых беларуска-украінскіх сувязей можа /і павінна!/ быць і далей непарушнай. А гэта — запарука таго, што ўслед за «Сцяганосцамі», узнаўленымі І.Мележам і У.Краўчанкам, «Тронкай», перакладзенай У.Шахаўцом, «Берагам любові», перастворанымі Л.Салаўём, «Тваёй зарой», пераўтлумачанай мною, некаторымі апавяданнямі прыйдуць да нашых чытачоў у беларускай апратцы і аповесць «Спогад пра акіян», і новыя творы вялікага пісьменніка і грамадзяніна.

Аднагодка нашай незалежнасці.

**Вячаслаў РАГОЙША**

Ніл ГІЛЕВІЧ



# У ПЕСНІ ЎВАСКРЭСНЕ

## УРАЖАННЕ

Уражанне: бытта ў глыбокай пячоры
мы ўсе,
Ступаем і мацаем сцежку нагой
з непрывычкі,
А хтосьці наперадзе полымца свечкі
нясе,
Рукой затуліўшы яго язычок невялічкі;
Мы ўсе за ім сочым, і кожны
кішэні трасе —
І жах абыймае: ні ў кога ніводнай
сярнічкі!..

## ЗДАРЭННЕ

У надзеі, што дагодзіць Цэнтру
І яго ў Сталіцу забяруць,
Ён рашыў пазбавіцца акцэнту,
Што дала адроду Беларусь.

Ён стаяў падоўгу перад люстрам
І падкорчваў, падгінаў язык —
Каб ніводным гукам беларускім
Не праскочыў колішні мужык.

І ад злосці стрымліваўся ледзьве:
«Хіба я належу да няўмек?
Так і выпірае, так і лезе
Гэты грубы наскі дыялект!

Проста ганьба! Не магу народу
Даць узор культуры ў гамане!
І чаму, за што па радаводу
Гэткі нізкі род дастаўся мне?

У кагось дык продак — аргенцінец!
Ці ангелец той жа! Ці француз!
А ў мяне — бадай цябе дзяцінец! —
Ахламон тутэйшы, беларус!

Надзяліў гаворкай — злосць
і прыкрасць.
Хоць не адкрывай на людзях рот!
Ды такой учэпістай — не выдраць!
Як на полі пырнік ці асот!

Так уелася ў нутро бязбожна,
Так пусціла ў фібры карані, —
Нават кроў змяняй — не дапаможа:
Выдасць — хто ты і з якой радні!..»

Так аднойчы кляў ён лёс няшчасны
І не ўбачыў, як мільгнуўся цень
І ў шыкоўны кабінет блішчасты
Херувім праз фортку заляцеў.

Штосьці мокрае на пераноссе
Плюхнула... Ён выцер даланёй
І не ўцяміў, што яму з нябёсаў
Ад бацькоў «паклон» прынёс анёл.

## ЛОЗУНГ

Народ! Калі ты ёсць —
Ты мусіш усвядоміць:
Ты — не чужак, не госць,
Ты — гаспадар у доме.

Пражэрнай саранчы
Не дайся на з'ядзенне:
Змяці яе! Стапчы!
І рэй вядзі — надзейна!

## СЦЕНЬ

На дасветнай вярсце,
У ваколіцы золку,
Дзіўны волатны сцень
Нам адкрыўся на ўзгорку.

Чый ён — нам не відно —
Гэты сцень нерухомы.
Хоць паставай — даўно
І да болю знаёмы.

Мы ідзем і глядзім,
Пілігрымы Айчыны.
Морак нікне, як дым,
І сплывае ў лагчыны.

Шлях не ўходаў круты.
Не адолела стома.
Скора, скора, браты,
Мы пачуемся дома.

Скора, скора ўжо дзень,
Бліснe сонечны промнік.
Каліноўскага сцень
Ператворыцца ў помнік.

## ДОБРЫЯ ЛЮДЗІ

Добрыя людзі,
Ну будзьце ж вы добрымі!
Хіба не бачыце:
Я — па-за вамі.

---

Сяргей ВЕРАЦІЛА



# ЛІСЦЕ

*Ахвярую І.Б.*

●

Пустэльня дзён маіх
Тваёю застанецца,
Калі пайду няскончаным
Я вершам.
І, перачытваючы
Бледныя старонкі,
Такім мяне ты ўспомніш,
Якім я сам сябе ўявіць хацеў бы.

●

Скваптае сонца,
Ветру не бракуе,
Слязлівыя аблокі,
Жоўтае лісце —
Гэта прыкметы восені,
Што спакойна піша за мяне
мае вершы.

●

А будучага не будзе!
Яно пайшло. Дробнаю,
Слізкаю рыбай
Скрозь пальцы,
Абярнуўшыся мінулым.

●

Халодная рака ўспамінаў.
Раўнадушна-зычлівае сонца,
І галубы, што дзяўбуць асфальт,
Гулянкі дзетак,
Лёгкі вецер —
Усё гэта я называю: сённяшні дзень...
І толькі сум па небе
Не носіць назвы.

●

Бясконцыя дажджы
Надакучлівым напамінам
Пра блізкі снег.
І толькі кляновы агонь
Паміж шэрых калон
Дзеля нечага сагрэў мне душу.

●

Восень абмяняла
Хларафілавыя траякі
На паўнаважкае
Чырвонае золата.

●

Іду скрозь бераг тумановы
У ільдзістае «нікуды»,
Пакідаючы жывыя і цёплыя
Камячкі слоў,
Якія чамусьці называю «вершы».

●

Мужчынскія далоні кленаў,
Дзіцячыя сардэчкі бяроз
Лісцем хаваюць грыбніцы
Ад заклапочаных вачэй грыбніка.

●

Непазбежнасць прыходзіць
У выглядзе халоднага світанку,
Што змушае згарнуцца пад коўдрай.

●

Твае няўмелыя і няўклюдныя фразы
Выклікаюць маю ўсмешку.
І яна, паслухмяная,
Кранае мае вусны
І перасяляецца ў вочы.

●

Пышнавалосае маё шчасце,
Рады твайму дыханню,
Стараючыся утрымаць
У сваёй памяці
Яго ледзь улоўную рытміку.

●

Сэрца маё —
Паўнамоцны і Надзвычайны пасол
У вясёлкавай краіне Ты.

●

Тыя, хто сыходзяць — застаюцца,
Тыя, хто застаюцца — сыходзяць.
Забываюцца учарашнія усмешкі,
Успамінаюцца старыя словы.

---

ПАМЁР Антонік Алейнікаў.

На шостым гадку абарвалася жыццёвая струна.

Завяла кветка. Не выспеў плод.

Мы, беларусы, сталі бяднейшымі на адну чалавечую гісторыю.

І павезла матуля свайго сынка з мінскай бальніцы на віцебскія могілкі...

перабудовачных гадоў нараджальнасць у нас знізілася на 37 тысяч дзяцей штогод.

Недалічваемся людзей на вялікі горад. Бяднее дзіцячы народ.

Што далей?

Ці не пад'язджаем да прорвы, спадары?

Ці не рыхтаваць, пане-браце, Ноеў каўчэг для апошняга беларуса?

Уладзімір ЛІПСКІ

# ЖЫЦЦЁ ДЗІЦЯЦІ НЕ РАЙ, А ДРАМА



## З дзённіка

А мы ж, дзетфондаўцы, рыхтавалі ім іншую дарогу. У Лондан, у слынны шпіталь. Заказалі білеты, знайшлі «зялёненькія». Ды вось жа — не паспелі...

Апраніся ў траур, Рэспубліка Беларусь, памёр твой сынок Антонік Алейнікаў. Загінуў ад лейкеміі. На чарнобыльскім палігоне.

КАБ ЗАБРАЦЬ дзіця з раддома, адзець і прыгалубіць — трэба 2,5 тысячы рублёў.

Каб пахаваць чалавека — трэба 6 тысяч рублёў.

Каб вадзіць дзіця ў дзетсад — трэба плаціць 640 рублёў штомесяц.

Жанчыны адмаўляюцца раджаць.

Родзічы не забіраюць з моргаў памерлых.

Маці пакідаюць дзяцей «пад ключ», ідуць зарабляць на хлеб.

У 1985 годзе на Беларусі нарадзілася 16,5 дзяцей на тысячу насельнікаў. У 1990 годзе — 12,9 дзяцей.

Што за гэтымі лічбамі?

А тое, што за пяць чарнобыльска-

СПЯВАЮЦЬ дзетдомаўцы:

— Ай-да, ай-да, ай-да малайцы!..

Трымаюцца за ручкі. Кавыляюцца з боку на бок, што качачкі. Спяваюць і танцуюць у светлым пакоі, на дыване. Побач — мілыя няні, якіх яны называюць мамамі. Вакол — поўна самых розных цацак.

У вушах звініць іх «ай-да».

А з галавы не выходзіць: чаму жыццё дзяцей — не рай, а драма?

МЕДСЯСТРА Мінскага дома дзіцяці Яўгенія Сямёнаўна Радзевіч сказала:

— Нельга прывыкнуць да дзіцячага болю...

Жанчына аддала абяздоленым дзецям 35 гадоў свайго жыцця. Ёй можна верыць!

А чаму ж, чаму прывыкаюць да дзіцячага болю міністры, палітыкі? Хто даў права дарослым крыўдзіць і зневажаць дзяцей?

Марна вы, марна
Турботамі дробнымі
Сцежкі да сэрца майго
Пазаймалі.

Я — па-за вамі.
Не злуйцеся, любыя.
Гэта мінецца.
Я дзесьці — часова.
Потым вярнуся.
Жывы. Незагублены.
Потым... Як вернецца
Роднае слова.

## ДЗЁННІК

Першага студзеня.
Сэрца натруджана
Так, што здаецца:
Сціхла, не б'ецца.

Трэцяга лютага.
Некалі любага,
Мілага ў Бога —
Гоняць з парога.

Пятага траўня.
Значыць — бясспраўна?
Значыць — бяздомна?
Значыць — бяздольна?

Шостага чэрвеня.
Боскае сэрнена.
Хіба што ў песні
Светла ўваскрэсне?

Сёмага ліпеня.
Слёзнымі ўсхліпамі
Памяць скуголіць,
Просіць і моліць.

Восьмага жніўня.
Больш, чым наіўна...
Горш, чым бяздумна...
Горка і сумна!

Восьмага верасня.
Той, хто зняверыўся —
Іншым не прыклад...
Горка і прыкра!

Першага снежня.
Горка і смешна —
Марыць аб нечым
Светлым і вечным.

## СТАРАДАЎНІ СЮЖЭТ

Чэсны рыцар, не збэшчаны вольніцай,
Пакахаў — і паверыў у лёс.
І на Панну Прыгожую моліцца,
І на дол не спускае з нябёс.

Ён не знае, што Панна Прыгожая
Любіць балі адно баляваць,
Бестурботна, як птушачка божая,
Пырхаць, пець ды зярняткі кляваць.

Ён не знае, што ў хвілю нязвыклую,
Як пасыпаць не будзе чаго,
Гэта божая птушачка выклюе
Закаханыя вочы яго.

## ЗАМЕСТ РЭЦЭНЗІІ НА ВЕРШЫ ЛЮДМІЛЫ РУБЛЕЎСКАЙ

Ну, што, «дабрадзеі»? Вам вельмі
Крычыцца пра немач і ўбоства?
А вось вам — і ў вушы, і ў бельмы!
Вось наша і моц і прыгоства!

Вам мала, што некалі жыхаў
Тут Цёткі радок бліскавічны?
Што водарам волі тут дыхаў
Арсенневай голас крынічны?

Што Геніюш тут нас гукае,
Як маці на тле-папялішчы?
Што, кінуўшы сэрца на камень,
Тут к сонцу ўзляцела Яніпічык?..

Дык вось і яшчэ вам! Чытайце!
Лютуйце! Шалейце ад злосці!
А немачы ў нас — не чакайце:
Мы ў самым цвітучым узросце!..

---

Хочаце прыкладаў?

Зайдзіце ў магазіны і купіце для сваіх дзетак прыгожае і таннае адзенне, цікавую цацку, прысмакаў... без радыенуклідаў.

Давайма помніць божы запавет: «Залічыцца нам па справах нашых».

**Д**ЗЕЦІ-ДЫЯБЕТЫКІ.

Перад іх мужнасцю — схілім галовы.

Кожны дзень — укол інсуліна. Нельга есці марожанае, цукеркі. Як пражыць без такіх ласункаў?

А цяпер уявім пакуты бацькоў. Трэба выбегаць для хворага лекі, шпрыцы, дыетычнае харчаванне. А ўсюды — купоны, талоны, чэргі і... сытыя, раўнадушныя гандляры з цэнамі-распустамі.

Да Чарнобыля ў Мінску было 80 дзяцей-дыябетыкаў. Праз пяць гадоў — 268...

Бяда, як навальнічная хмара, напаўзае на дзяцей. Які волат абароніць іх?

**Р**ЭФАРМІРАВАЦЬ свет — гэта значыць рэфарміраваць выхаванне... Запавет Чалавека, які ўсё сваё жыццё аддаў дзецям.

Калі дзвесце яго выхаванцаў фашысты адправілі ў лагер смерці, у Трэблінку, старому доктару прапанавалі застацца, але ён не пакінуў дзяцей. Пайшоў з імі ў газавую камеру...

Увесь свет ведае мужнага педагога і доктара Януша Корчака. Шкада, не ўвесь свет помніць яго мудры запавет. Асабліва мы, кволыя рэфарматары.

**А**Д ГАЛІ мама адмовілася.

Дзімаву маму, алкагалічку, пазбавілі бацькоўскіх правоў.

Дом дзіцяці ў Мінску стаў іхнім домам і сям'ёй.

Гадаваліся асірацелыя дзеткі хваравітымі, раздражнёнымі. Ды вось прыехалі ў сіроцкую казарму французы. Яны, адолеўшы бюракратычныя шлагбаўмы, усынавілі пакінутых дзяцей.

Сямімесячная Галя стала Марынай-Галінай Фурньe.

Трохгадовы Дзіма стаў Басціянам-Дзмітрыем Фурньe.

І паехалі беларускія падкідышы ў Ліён. Ім выдалі савецкія пашпарты /іншых у нас пакуль няма/, па якіх яны будуць жыць да паўналецця.

Уручэнне пашпартоў новым бацькам адбылося ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. Маладых французскіх бацькоў віншаваў старшыня Таварыства Арсен Мікалаевіч Ваніцкі.

Мне ўдалося ўзяць бліц-інтэрв'ю ў французскай пары:

— Чаго больш зараз у вашай душы: радасці альбо трывогі?

— Мы перапоўнены шчасцем і клопатамі.

— Ці скажаце дзецям праўду?

— Як толькі пераадолеем моўны бар'ер... Французскія законы абавязваюць гаварыць праўду ўсыноўленым дзецям.

— Ці будуць Галя і Дзіма вывучаць родную мову?

— Мы іх аддадзім у рускую гімназію.

— Кім хочаце выхаваць іх?

— Наша выхаванне будзе ісці за імі, за іх жаданнем і схільнасцямі...

Трывога і радасць панавалі ў той вечар у шыкоўнай зале Таварыства.

**М**АМА з дачкою — на праспекце. Выхадны дзень. Прагульваюцца, цешацца цяплом і сабой.

Сядзіць ля ЦУМа бязногі дзядок, просіць міласціну.

Мама з дачкою сціпшыліся, шчабятаць перасталі. Прайшлі міма, як бы гэта не чалавек-гаротнік сядзеў, а нібыта куст, пень, тумба.

Праз некалькі метраў дзяўчынка ўбачыла пудзеля.

— Вой, мама, якое сабачанё!

Яны прыпыніліся. Замілавана разглядалі элегантнага цюцьку.

А я не веры ў іх шчыраму захапленню. Яны толькі што зняважліва прамінулі бязногага чалавека, які збіраў капейкі на хлеб.

**Л**ІЧБЫ для роздуму.

У сталічнай, Мінскай вобласці, у раёнах, забруджаных атамным «дажджом», жывуць сёння 8750 дзяцей. А яшчэ — 1300 дзяцей-перасяленцаў з Гомельшчыны ды Магілёўшчыны. Дык у якім жа фізічным стане бязвінныя чарнобыльцы?

Больш за 70 працэнтаў з іх маюць адхіленні ў здароўі: палова пакутуе ад анеміі, у кожнага трэцяга — хворы страўнік, парушэнне формулы крыві. Ад ліквідатараў нараджаюцца дзеці-сардэчнікі. За апошнія тры гады на 34 працэнты павялічыліся анкалагічныя захворванні шчытападобнай залозы...

Як выратаваць дзяцей?

Што зрабіць, каб нашы дзеці не згубілі надзею?

**У** ШТАБ тэлемарафона «Выратуем дзяцей» прынеслі тэлеграму з Гомеля /вул. Пралетарская, 43, кв. 11/. Ад сям'і Пшанічнікавых яе падпісалі Жэнечка, Настулька, Віталік і Леначка. Ці самі яны склалі гэты верш, ці іх мама, але радкі, адараныя ад сэрца, апякаюць душу:

**Ратуйце, ратуйце, молім, ратуйце**
**дзяцей,**
**Лячыце, лячыце, лячыце**
**маёй Беларусі дзяцей!**
**Спяшайце, спяшайцеся дзетак**
**лячыць,**
**Нам, дзецям Чарнобыля, верце,**
**так хочацца жыць!..**
**Пакуль на свеце мы жывём**
**і памагчы нам можна,**
**Ратуйце нас, пакуль не позна!**

**У** ГОРАДЗЕ Іванаве — трагедыя. Зяць забіў цешчу, а пасля — жонку.

Так немаўля Дар'ячка стала сіратою. Яе ўдачарыла сірата Наташа, дваццацігадовая дзяўчына.

Жыве на Брэстчыне дзіўна мужны чалавек — Яўген Мікалаевіч Людчык. Ён — інвалід з дзяцінства. Прайшоў выхаванне ў казённых дамах. Ніколі не хадзіў сваімі нагамі. І вельмі дзівіцца, як гэта чалавек пры хадзьбе, падымаючы адну нагу, не губляе раўнавагі і не падае.

Яўген Мікалаевіч — жанаты чалавек. Гадуе двух сыноў. Працуе на прыватным таксі. І кожны месяц /!/, вось ужо чатыры гады, пералічвае на рахунак Дзіцячага фонду па 50 рублёў. Цікаўным людзям тлумачыць:

— Мой грашовы ўзнос не азначае, што я багаты чалавек. Гэта мой доўг перад маім сумленнем. І перад пакрыўджанымі дзецьмі...

Бядак бачыць бедака здаля.

А калі ж слёзы і гора дзяцей убачаць сытыя і грашавітыя людзі?

Давайце, людзі, навучымся радавацца кожнаму новаму дню. Яны ж непаўторныя!

Давайце, людзі, апаленымі рукамі і чыстым сэрцам здабываць для нашых дзяцей сонейка. Тады яны ніколі не згубяць надзею і ўслаўляць выратавальнікаў.

---

ЧЫТАЧ ДЗЕЛІЦЦА ЎРАЖАННЯМІ

## ТРЭБА БЫЛО ЖЫЦЬ...

У нашай беларускай літаратуры ёсць пісьменнікі, якіх не песціць сваёй увагай крытыка. Да такіх, мне думаецца, адносіцца і Алесь Рыбак, хоць у яго ўжо і не малы творчы набытак. Колькі гадоў назад мне давялося прачытаць аповесць Алеся Рыбака «Што пасееш...» Перш за ўсё яна кранула мяне сваёй шчырасцю, дабрынёй. Дабрынёй да простага чалавека, да звычайнай вясковай жанчыны, жанчыны-маці, якая ў аповесці па-мастацку ярка і пераканаўча паказана ў вобразе Вольгі Лагацкай. У аповесці ёсць і займальная інтрыга, і нечаканыя сюжэтныя павароты, і непрыхаваная драма чалавечага жыцця. Як мастак, які не адступае ад праўды, Алесь Рыбак паказвае тут разбурэнне пасляваеннай калгаснай вёскі. Так, малады дзяцюк, Венька, кінуўшы трактар, сярод белага дня спіць на курганку. Чытаеш і міжволі думаеш: калісьці на падобным курганку беларускі селянін не спаў у абдымку з бутэлькай. На курганку ён адпачываў, любаваўся сваёй дбайнай працай...

Па-мойму, працягам аповесці «Што пасееш...» з'яўляецца раман Алеся Рыбака «Трэба было жыць». Ён выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1990 годзе. Як і ў аповесці «Што пасееш...», у рамане мы бачым жанчыну-маці — несправядліва пакрыўджаную лёсам і людзьмі салдацкую ўдаву Куліну. Ад лёсаў дарослых, ад іх нягод і надзей, ад іхняга роздуму пра час і пра сябе неадлучны лёсы дзяцей і падлеткаў — Вадзіма, Дзімкі, Казіка... Сімвалічная і вельмі ўдалая назва рамана — «Трэба было жыць». Сапраўды, трэба было жыць, каб выжыць у гады фашысцкага ліхалецця і Куліне, і яе дзецям, і дачасна пасівелай маладой настаўніцы Вераніцы Васільеўне, і старому Матэцкаму — каб напаследак, перад смерцю, глянуць у вочы бандыту, былому паліцаю Рагулю, які ў пасляваенны час стаў старшынёй калгаса.

Трагічна заканчваецца першая частка рамана. Падарваўшыся на міне, гіне маці Вадзіма. Не, гэтая смерць не была выпадковай. Па сутнасці, маці ахвяравала сабою дзеля таго, каб выжыў яе Вадзім. Вадзім абпалены жахлівай весткай. «Вайна, якая пакацілася недзе далёка на захад, усё ж успела зрабіць на яго сэрцы яшчэ адзін, самы крывавы, самы балючы той след...» А колькі ж тых балючых слядоў пакінула на сэрцы пасляваеннае калгаснае жыццё! У вёсцы і ў недалёкім мястэчку раскашуюць бандыты і п'яніцы тыпу Рагулі. Людзі, працуючы за палачкі, за працадні, надрываюцца ад непасільнай працы і... паступова, незаўважна для сябе співаюцца, як гэта здарылася з Вадзімавым братам Колем. Ад яго, гаспадарлівага, улюбёнага ў коней, Рагуля нават пасаду конюха адабраў. «Не тое паражылі», — суцяшаючы Вадзіма кажа дзядзька Даўнар, які старажуе, ахоўваючы калгасную агародніну і садавіну. Ад каго ахоўвае? Дзядзька Даўнар і сам гэтага добра не ведае, бо то па агуркі, то па памідоры, то па яблыкі ўсё шнуруюць да яго пасланцы з запіскамі ад Рагулі. Нібы заварожаны, глядзіць дзядзька Даўнар на тое, як раскрадаецца калгаснае, набробленае людзьмі дабро, як занепадае, знішчаецца вёска, у якой застаюцца толькі дзеці-сіроты і нямоглыя, бо маладзейшыя і спрытнейшыя яе імкнуцца пакінуць, уцячы куды далей. І сястра Верка пакідае Вадзіма, уцякаючы з вёскі са сваім каханым Юзікам, каб на новым месцы распачаць новае, шчаслівейшае жыццё. Цяжкая, трагічная доля ў тых, хто застаецца ў вёсцы. Вось эпізод, калі Вадзім сустракае свайго сябра Дзімку, «нейкага соннага, зблажэлага, з ног да галавы ў мазуце і ў гразі». Адвёўшы вочы ўбок, Дзімка расказвае аб сваёй рабоце: «Яшчэ пакуль прычэпшчыкам. І не так усё проста, як хто думае. Няма каму рабіць, дык во — аж дзве змены ўкалвалі. Трэба ж сеяць». Праца ў дзве змены загубіла Дзімку. Заснуўшы, ён падае з прычэпа пад плугі і гіне. Вадзім разумее, што сапраўдныя віноўнікі Дзімкавай гібелі — вясковае начальства. Для іх такія, як Дзімка, нішто, маленькія вінцікі страшнай, антычалавечай сістэмы. Пра гэта Вадзім не сказаў, прамаўчаў, але ведаў — «яшчэ будзе дзень і час, калі скажа ўсё, што трэба было сказаць, што вынасіў у сваіх думках, што вынасіў у сэрцы».

Як мне здаецца, сімвалам запусцення вёскі з'яўляецца разбураны хутар старога Матэцкага. Вось як паказвае яго Алесь Рыбак: «Сіратліва глядзелася непадалёку старая каржакаватая груша, якая шырока раскінула па баках галіны і чымсьці нагадвала мудрую птушку, што крыллем прыкрывала, бараніла сваё гняздо. «Не ўбараніла ўсё ж...» — з жахам да чужога, невядомага яму селішча падумаў Вадзім». Рагуля, здзейсніўшы сваю злачынную справу, страляў не толькі ў старых Матэцкіх. Ён і яму падобныя нанеслі незагойную рану ўсёй беларускай вёсцы.

Раман заканчваецца тым, што Вадзім, уцякаючы са сваёй хаты, пераходзіць цераз мост. Мост тут таксама выступае як сімвал, які падзяліў на два берагі жыццё героя — мінулае і будучае. Якім жа будзе яго будучае? Думаецца, што пісьменнік аб гэтым яшчэ скажа.

**Іван КУЛАК, інжынер**
*г. Слонім*

# КАЛІ Б БЫЛО ТАК ЛЁГКА...

***Шасцідзесяцігоддзе Рускага тэатра Беларусі не святкавалася ўсенародна, — адзначалася. Досыць стрымана і, адначасова, пранізліва-шчыра...***

ТЭАТР, менавіта Рускі тэатр імя Горкага ў Мінску, сваю справу робіць сумленна аж шэсцьдзесят гадоў. Статыстыкі маглі б падлічыць, колькі спектакляў сыграна і колькі прыпадае «на душу насельніцтва», але не здолеюць вымераць пачуццяў — магнітнае поле, што ўзнікае вакол тэатра, уздзеянне яго на душу , на ўласна душу; не на насельніцтва — на чалавека. Тыя гадзіны, месяцы, гады, што пражывалі мы разам з ім у свеце высокіх думак. Высокіх — нягледзячы на несвабоду тэатра, на хлусню, што зрабілася ўжо кампанентам паветра, якім дыхалі, і якая цяжкай хмарай ціснула да долу ўсе парыванні і добрыя намеры...

Здаралася, не адчуўшы гэтага выпраменьвання, мы абураліся на тэатр. Абураемся і сёння, а ці маем права? Тэатр са сваім далікатным рэле чуйна адгукаўся і адгукаецца на тое, што адбываецца ў ці тужлівым піянісіма, амаль шэптам, які быў чутны ва ўсіх кутках тэатра, клікаў-будзіў мёртвую Кардэлію... Прырода падаравала яму царскую велічнасць — талент пераўтварыў яе ў з'яву мастацтва. Ён мог быць апрануты ў што заўгодна — гэта не заўважалася: яго неад'емным адзеннем быў плашч Атэла і мантыя Ліра... Калі ён выходзіў у «Цары Фёдары Іаанавічы» ў ролі Шуйскага, думалася: ён мог бы паказаць нам, як выглядае сам пан Бог... Бесшабашны гуляка сэр Тобі — гэта быў сам Дыяніс, бог віна і гульбы, неўтаймаваны і нястрымны ў свавольствах, перакананы ў сваім боскім праве тварыць вясёлыя бясчынствы. Палкі, уладарны прыгажун Атэла працінаў каханую вачыма, у якіх быў смяротны жах перад наканаванымі абодвум пакутамі.

Лір — і ў сваім рызз! — вялебны /гэткі эпітэт мне нагадалі і я ўдзячная за такі падарунак, — ён найлепей стасуецца з заўсёды: ён дасканала ведаў аўтара, якога ставіў ці іграў, — яго асяроддзе, эпоху, літаратуру, мастацтва — увесь фон, на якім узнік твор; ён ставіў Чэхава, Астроўскага, Горкага — а не свае экзерсісы на тэмы аўтараў... Тым не менш, зазначу: мо «экзерсісы на тэмы» патрабуюць не менш дасканалага, калі не большага нават, ведання «фону»...

Відаць, на сённяшні наш розум, хтосьці паставіць яму ў дакор: першы выканаўца ролі Леніна на рускай сцэне ў Беларусі — у «Крамлёўскіх курантах». Паколькі спектакль бачыць не давялося, дык палічыла б за лепшае не вытыркацца са сваімі домысламі і змоўчаць, бо ўсе мы прывязаны да свайго часу і месца; але не магу не заўважыць, што Дзмітрый Аляксеевіч Арлоў не быў ні «першым вучнем» у «тых універсітэтах», ні ўлюбёнцам часу. А моцны ўнутраны стрыжань — выхаванне, адукаванасць і выпрацаваныя самастойна ўласныя перакананні — трымалі душу ў школа маральнасці, інтэлігентнасці, добрых манер, павагі і гасціннасці; вышэйшая школа душы. Усе гэтыя скарбы сардэчна і шчодра дараваліся артыстам Рускага тэатра, якія трыццаць гадоў былі сябрамі і вучнямі Веры Паўлаўны. І ў гэтым сэнсе вучнямі называлі сябе Аляксандра Клімава і Расціслаў Янкоўскі, Алімпіяда Шах-Парон і Ільза Лакштанава, Юрый Сідараў і Валерый Саладзілаў, Валерый Шушкевіч і Яўген Лявонцеў, Тамара Кудраўцава, Валянціна Краўчанка, Галіна Значкоўская...

Да славутых імёнаў далучаецца Барыс Луцэнка, рэжысёр, што вызначыў цэлую эпоху Рускага тэатра, мастак нечаканы, парушальнік спакою, узрушальнік асноў, чые лепшыя спектаклі з цягам часу робяцца бясспрэчнаю класікай... Але да гэтага зазвычай трэба даспець і спектаклю, і гледачам, і ... рэжысёру!.. Луцэнка, чые спектаклі прыводзяць у захапленне, а іншы раз — у гнеў і недаўменне... /Мабыць, і крытыцы таксама трэба «даспяваць»?!/.

Вымушана прытрымаць пяро, «падвесці рысу», каб не доўжыць спіс мастакоў, якія ўзводзілі, умацоўвалі, аздаблялі, уратоўвалі на працягу доўгіх гадоў Рускі тэатр у Мінску — спіс гэты, пачаты даўным-даўно, працягваецца зараз. Кожнаму, хто мае тое ці іншае дачыненне да тэатра, вядомы лепшыя /і горшыя!/ спектаклі. З памяці зніклі пасрэдныя, безаблічныя; можна пазначыць вяршыні, прызнаныя ўсімі ці прынятыя тваім сэрцам /напрыклад, «Антоній і Клеапатра», «Кароль Лір», «Макбет», «Трохграшовая опера», «Трагедыя чалавека», «Двое на арэлях» і зусім нядаўні — «На Залатым возеры»/. А ў спектаклях артысты з імёнамі ці безыменныя, але кожны хоць аднойчы крануў сэрца...

Ёсць і любімыя — справа гэта асабістая, маючая дачыненне, так бы мовячы, да «аўтабіяграфіі».

Ёсць і праслаўленыя, чые імёны ва ўсіх на слыху, каго талент, адданасць сцэне і неабходнасць для мастацтва ўзнеслі ледзь не да сімвала Рускага тэатра. Найперш гэта Аляксандра Клімава і Расціслаў Янкоўскі. Паўтараць гэтыя імёны — амаль што агульнае месца. Але сёння яны ізноў ва ўсіх на вуснах: «На Залатым возеры» — камерны спектакль, сціплая жыццёвая гісторыя — уражвае прыгажосцю пачуццяў, адухоўленасцю і вытанчанасцю жыцці і лунае ў паветры... Як і сёння, калі душа, бывае, адварочваецца ад таго, што паказваюць на сцэне. Але, папраўдзе, — ці не тое ж бачым штодзённа навакол? Нявыкаранены жах, апатыя, няўпэўненасць — у старэйшых, а маладыя — маладыя прагнуць прыемнага жыцця і абыякава ставяцца да ўсяго, што ім не на карысць і патрэбу, забаву, уцеху. /І няхай кіне ў іх камень той, хто ніколі не быў маладым і не хацеў радавацца жыццю замест таго, каб паныла цягнуць воз.../.

Можна яшчэ шмат папрокаў накіраваць тэатру наогул — і канкрэтнаму калектыву, але кожны раз гэта будуць дачыненні з жывым арганізмам, якому ўласцівы ўсе якасці жывой істоты — высокія і нізкія, усе ўзросты — ад маленства да старасці, усе хваробы — ад дзіцячых да старэчых /не абмінаючы эпідэмій/. Да скону...

І таму, прачытаўшы не адзін жыццяпіс Рускага тэатра, прызнаюся, не магу даверыцца ніводнаму, бо ў кожнага з нас — ён свой, гэты тэатр. І ўражанне ад яго складаецца не толькі з доўгага спісу прагледжаных спектакляў, а з выбухаў, з тэатральных узрушанняў. Са сціплых, але дарагіх сэрцу радасцей...

Па гэтых прыступках уздымаюся, колькі сябе памятаю, і, калі яны сцёртыя, дык, відаць, і мая ў тым доля ёсць...

Аднойчы, у дзяцінстве, бацькі прыйшлі са мной у гэты дом на спектакль «Вядзьмарка» — у Яўрэйскі тэатр, што асталяваўся ў былой сінагозе. З таго наведвання помню толькі, што вядзьмарку іграў артыст з нізкім мужчынскім голасам. І тую злавесную мелодыю памятаю... А потым, у 1948, быў загублены гэты тэатр, каб і звання не было, а артысты пайшлі хто куды — у гурткі, школы, распаўсюджвалі білеты. Нельга не зазначыць, што тэатры — Беларускі і Рускі /яго перавялі ў «вызвалены» будынак/ запрасілі да сябе артыстаў разагнанага тэатра, хоць гэта было і няпроста... І не толькі таму, што такое заступніцтва было ў той час даволі-такі небяспечнае, але і па творчых матывах — зусім розная тэатральная школа, як вада і масла. І мова, мова... На рускай сцэне гэта было асабліва відавочна — надта ж чыстая, надта ж дыстыляваная руская мова...

Аднак тэатры не выракліся сваіх калег і сяброў, і сёння, спадзяюся, нікому не прыйдзе ў галаву ўпікаць тэатр, які пасля размясціўся ў доме з калонамі, якімі — сталінскі ампір! — настойліва аздаблялі горад, за тое, што ён «акупаваў памяшканне», бо гэта было б крыўднай няпраўдай.

А да таго спектаклі іграліся на сцэне Дома афіцэраў. Праз сквер — Купалаўскі тэатр. І гэта было зручна: не ў той, дык у гэты, але абавязкова патрапіш на спектакль.

Артысты Рускага падаваліся тады асабліва прыгожымі і элегантнымі — мяркую, яны такімі і былі. Не толькі ў параўнанні з нашай пасляваеннай абшарпанасцю і змарнеласцю. Яны такімі і былі — моцныя, рухавыя мужчыны, зграбныя, добра апранутыя, эфектныя жанчыны /мы цішком здымалі фасоны іх убораў/. Не спешчаныя ТВ гледачы любаваліся прыгажунамі і прыгажунямі на адлегласці з вялікай павагай, не вельмі назаляючы ім, але і не хаваючы пачуццяў. І, зразумела, мы і почуту не мелі аб іх рэальных клопатах і праблемах — што яшчэ больш аддаляла і ўзвышала іх — і гэта было таксама на карысць тэатру...

Сярод усіх высіўся Аляксандр Кістаў — стаццю, гордай паставай галавы, шырокім жэстам, сапраўды акцёрскай знешнасцю, магутным голасам, які мог аглушыць сапраўды львіным рыкам, аж струны адзываліся, а мог стаць пяшчотна ціхім, калі любоўна ракатаў: «О, Дэздэмона...» героямі і самім артыстам/.

Чаму мы так любілі Кістава? Вядома, за талент. А, можа, яшчэ і за тое, што сярод пылу і цэглы зруйнаванага горада, спазнаўшага прыніжанасць і гвалт акупацыі, бамбёжак, ратавання ў сутарэннях і «малінах» ад усялякіх аблаў, пякельны жах гета, — насуперак усяму ён, Кістаў, артыст, аднаўляў чалавечую, мужчынскую годнасць! Людзі падазрона азіраліся, людзі, гамонячы з сябрамі — паніжалі голас... Ён жа гаварыў, гневаўся, аплакваў на поўны голас, шырока, вольна. Быццам — за ўсіх .. Мяркую, найбольшым сведчаннем таленту Кістава сталі не ўхвальныя водгукі англійскіх шэкспіразнаўцаў аб выдатным выкананні «містэрам Кіставым» /і «місіс Лакштанавай», вядома/ сваіх роляў, не высокая ацэнка славутага Міхаіла Марозава — а заміранне сэрцаў, гулкая цішыня ў зале, калі ён тармасіў Кардэлію, сваю загубленую дачку, не жадаючы мірыцца з яваю. Ён быў бацька ўсіх загубленых дзяцей, ён узнімаў усеагульнае, усенароднае гора да нябёсаў і вяртаў яго кожнаму раздзеленае, — чыё сэрца не адкрывалася насустрач гэтаму спачуванню-суперажыванню?!

...Развітвацца з Кіставым прыйшоў увесь горад: на труну накінутая была каралеўская мантыя — ён заставаўся Каралём і Артыстам...

У тэатрах Беларусі — цэлая кагорта артыстаў, выхаванцаў Дзмітрыя Арлова, літаральна кожны нясе ў сабе каліва адметнай індывідуальнасці Майстра. Многія сённяшнія майстры лічаць за гонар нагадаць, чые яны вучні. Школа Арлова — як знак якасці, якім пазначана нават пакаленне зусім маладых артыстаў — вучняў яго вучняў. Прыгадайце выхаванцаў Уладзіміра Маланкіна, асабліва адметных, як і іх педагог.

Арлоў на артыста быў мала падобны, хутчэй — кабінетны вучоны, прафесар... Так яно і было: кніжнік, мысліцель, выдатны суразмоўца, дасціпны, далікатны, нечаканы, з'едлівы, ён як ніхто ўмеў слухаць — якасць вельмі рэдкая сярод людзей тэатра, зазвычай прыхільнікаў «маналога»... Арлоў жа ў размове не прыгнятаў сваім аўтарытэтам — вялікім, сваімі ведамі — шырокімі і глыбокімі, сваім досведам — усебаковым. Ён здымаў напружанасць дыялога жартам, усмешкаю, непадробнай павагай і цікаўнасцю да таго, хто перад ім. Але мог і літаральна знішчыць: жарт і насмешка — яны рабіліся зброяй, калі ён сутыкаўся з бессаромнасцю, з нахабствам, пошласцю — усім тым, што ненавідзеў. І ўсе гэтыя якасці — здавалася, якое дачыненне маюць яны да сцэны? — увасабляліся ў цела і дух, у сэнс і форму ролі. І нічога — на патрэбу дня. Успамінаю ягонага цара Фёдара Іаанавіча з адчайным пытаннем: «Я царь или не царь?» Не цар, зусім не цар, і не таму, што не здольны правіць... Сёння мы паўтараем: палітыка — справа брудная. І яшчэ: улада — разбэшчвае. Абсалютная ж улада разбэшчвае абсалютна. Фёдар Дзмітрыя Арлова адварочваўся ад такой улады, такой палітыкі. Так правіць ён не быў здатны.

Яго Мальволіо быў стыльны, бы сышоў са старадаўняй гравюры — так і толькі так павінен быў паводзіць сябе і выглядаць герой шэкспіраўскай камедыі: напышлівы франт, фанабэрысты і нахабны лёкай, мізэрны каліф на гадзінку, самаўлюбёны невук. Божа барані, каб ад яго залежаў чыйсьці лёс... У сваёй улюбёнай ролі артыст даваў сабе волю разлічыцца з тым, што абрыдла — з фаварытамі часу, што лезлі з усіх шчылін і граблі ўсё, на што рук хапала, вытоптваючы жывое. Але ніякіх намёкаў, ніякіх алюзій — усё нараджалася з Шэкспіра — не толькі з «Дванаццатай ночы», з усяго Шэкспіра цалкам. Так было



*«Трагедыя чалавека» І.Мадача. М.Пінігін /Адам/, В.Бандарэнка /Люцыпар/.*



*«Мальер» М.Булгакава. Р.Янкоўскі /Кароль/, А.Ткачонак /Мальер/.*

чысціні, хаця і не ратавалі ад духоўных пакутаў...

Сказанае вышэй датычыць і Веры Паўлаўны Рэдліх — рэжысёра, што пакінула ў гісторыі тэатра хрэстаматыйныя спектаклі, пазначаныя амаль класічнай прыгажосцю лініі, вытанчанасцю і строгасцю густу; педагога, выхавацеля міласцю боскай. Яе ўплыў на тэатр, на артыстаў працягваўся праз усё яе жыццё. Яна валодала магнетызмам прыцягнення, здольнасцю абуджаць у людзях лепшае. Непачцівыя студэнты ганарыліся сваім славутым прафесарам — жывой гісторыяй айчыннага тэатра, паўнамоцным прадстаўніком рускай культуры, жывою, непадкупнаю, празарліваю сведкаю эпохі... Гэта была найвысокага кшталту

магутнага майстэрства. Пасля такога спектакля хочацца гаварыць артыстам урачыстыя словы, дарыць ружы, называць іх вялікімі... Не хочацца пакідаць тэатра...

А праз колькі дзён ужо другі спектакль раздражняе непераборлівасцю сродкаў, беспардонным агольваннем /і літаральна, і ў пераносным сэнсе!/, растрэніраванасцю, нахабным націскам — тым, што Станіслаўскі трапна называў кабацінствам, але памножаным на «наш дынамічны час»... І ўжо цяжка сябе суцяшаць тым, што, маўляў, тэатральнае жыццё — яно ў палоску, і каб пражыць — трэба круціцца... Вось і Сонечка Мармеладава ахвяравала ж сабою... Але, убачыўшы, **як** вельмі ўжо ахвотна і заўзята «ахвяруюць сабою» акцёры на сцэне, сумняваешся, што лёгка будзе ім самаўзнавіцца для «служэння мастацтву»... Ці трэба ж камусьці гэтае служэнне?..

«Залатое возера» сцвярджае гэта ціха і важка, «Хрыстос і Антыхрыст» — гучна і з клічнікам у канцы, «Амфітрыён» — ставіць пытальнік, «Хто твой каханак, Жазефа?» — запэўняе, што можна пражыць і так...

Але ж і пытанне, і адказы на яго — усё гэта ў розныя часы, але было, і неаднойчы было.

Дзесьці ў сярэдзіне шасцідзесятых сярдзіты карэспандэнт маладзёжнай газеты выдаў артыкул пра спектакль Рускага тэатра пад задзірыстым загалоўкам — «Это ваше творческое кредо, горьковцы?» І суправодзіў яго здымкам афішы, зусім бяскрыўднай, але... Аўтар абурыўся тым, што класіка, сур'ёзная драматургія толькі пазначаны ў рэпертуары, а на сцэне раскашуе пацяшальная, аблегчаная, «камерцыйная» п'еса /недажыў ён, небарака, да сённяшніх дзён: мы ўжо прызвычаіліся да такога феномена, калі ў планах тэатра заяўлена нешта вельмі высакароднае, а ставяць тое, пра што адміністратар аўтарытэтна запэўніць: «На гэта я білеты прадам!» — такое вось «крэда»/. У тэатры вельмі абураліся на «выпад», а рэжысёр рэцэнзаванага спектакля нават прыйшоў у рэдакцыю скардзіцца, патрабуючы, каб рэцэнзент быў «дэзавуіраваны». Але неяк абышлося.

А праз нейкі час дзве «крытыкесы» ў сааўтарстве дазволілі сабе сцвярджаць, што адзін са спектакляў тэатра вельмі падобны на той, што бачылі ў Маскве ў Барыса Равенскіх, і з маладой неабачлівасцю даводзілі мінскаму рэжысёру, што так рабіць нядобра, дый мастацкі вынік ад падобнага пераймання мізэрны... І тады журналісткам паслалі выклік — з'явіцца на сход калектыву!.. У той час было модна — выклікаць рэцэнзентаў на абмеркаванне. І аўтары артыкула якраз былі сведкамі падобнай «разборкі» ў другім тэатры з другімі «героямі»... Дзякуй Богу, рэдактар «не выдаў» — ён прапанаваў наладзіць сустрэчу ў рэдакцыі, на што тэатр не згадзіўся! І справа пайшла ў пясок... Чаму так бурна і так нятворча рэагавалі творчыя работнікі на такі радавы, звычайны факт?

Справа ясная: прызнанне крытыкі ў якасці слушнай у тыя гады няўмольна цягнула за сабою «прыняцце мер» і нават пэўныя «аргвывады»: даказаная ж неаб'ектыўнасць ці памылковасць артыкула адразу паварочвала «меры» і «вывады» супраць яго аўтара. Таму што, як пісаў некалі Мікалай Акімаў, мастацтва тады ганялася за выдатнымі адзнакамі «па паводзінах»...

Занадта ж кароткі час мінуў з тае пары: у тэатры ўжо не палохаюцца негатыўнага водгуку, але яшчэ і не адчуваюць крытыка як сябра і паплечніка, якому, можа, збоку і сапраўды відней. І калі не скардзяцца па інстанцыях, дык усё роўна ёсць у абодвух бакоў магчымасці папсаваць адзін аднаму настрой...

Традыцыі — яны яшчэ ў жыцці... Але спашлюся на таго ж дасціпнага Акімава, які заўважыў: тэатру, які дасягнуў дасканаласці, ужо аніпгто не паможа!..

Рускаму тэатру дасканаласць пакуль што не пагражае — і ў ім пра гэта ведаюць. Хваробы яго — нашы агульныя хваробы. Дасягненні... А вось дасягненні — яго ўласныя. Яго, тэатра. Здабытыя за ўсе гады яго існавання.

Наш духоўны набытак — у ім вялікая доля тэатра: далучэнне да сусветнай класікі, да вялікай драматургіі і літаратуры, выхаванне густу і пашырэнне кругагляду тысяч гледачоў... Імкненне наладзіць сувязі часу, эпох, народаў. Ці ж мала?..

Тэатральныя традыцыі — іх, як заўсёды, разумеюць па-рознаму.

На ўрачыстым святкаванні 60-годдзя Рускага тэатра на сцэне сустрэліся двое: ветэран тэатра Іосіф Ражба і Ягор Фядотаў, светлагаловае хлапчанё са светлым тварам. Не трэба было асаблівай вынаходлівасці, каб спалучыць «дзень заўтрашні» з сённяшнім і ўчарашнім. Але статны, артыстычна-элегантны Ражба, відаць, і не здагадваючыся аб гэтым, крануў сэрцы многіх успамінам пра тыя часы, калі тэатр быў для нас неабходнай, неад'емнай часткай — не адпачынку, а — жыцця. А хлапчук... Дзеці заўсёды — сімвал будучыні, надзеі... О, калі б так лёгка было на самай справе не даць адарваць, спалучыць, звязаць дзень учарашні з днём сённяшнім — днём заўтрашнім!..

**Лілія БРАНДАБОЎСКАЯ**

**КОНКУРСЫ**

# БЕЛАРУСЬ, МАЛДОВА, УКРАІНА...

У Мінску, у Вялікай зале Беларускай акадэміі музыкі прайшоў Міжрэспубліканскі конкурс выканаўцаў на медных духавых інструментах. З рэспублік СНД прыбылі артысты-музыканты, студэнты кансерваторый — трубачы, валтарністы, трамбаністы, тубісты (басы) — спаборнічаць у духавой выканаўчай культуры. Конкурс складаўся з трох тураў праслухоўванняў: 1-ы тур адборачны, 2-гі — выяўленне мацнейшых, 3-ці — заключны.

У першы дзень спаборніцтваў адбылася жараб'ёўка ўдзельнікаў і канцэрт-прывітанне навучэнцаў духавога аддзялення Музычнага ліцэя. Шасцігадовы вучань падрыхтоўчага аддзялення ліцэя Уладзіслаў Маргулец выканаў на блокфлейце Менуэт Бакерыні і ўкраінскую народную песню. Валтарніст Андрэй Амосаў сыграў Накцюрн Г.Сальнікава. Лаўрэат Міжнароднага конкурсу трубач Андрэй Кавалінскі з лёгкасцю і бляскам выканаў найскладаны Канцэрт для трубы Г.Тамазі. Вельмі музычна, артыстычна выступіў брас-квартэт трамбаністаў Магілёўскага музычнага вучылішча. Выступленні маладых духавікоў былі цёпла сустрэты гледачамі і надалі асаблівы творчы настрой усім удзельнікам конкурсу.

Складаныя, цяжкія праграмы абавязковага рэпертуару кожнага тура вымагалі ад канкурсантаў выканання разнажанравых твораў кампазітараў розных краін: Л.Керубіні, Й.Гайдна. Р.Штрауса, П.Хіндэміта, Р.Шумана, Д.Расіні, А.Глазунова, Г.Тамазі, Е.Тамберга, Д.Мійо, І.Пауэра, Г.Сальнікава, К.Цесакова, Г.Гарэлавай і інш. У журы конкурсу ўвайшлі музыканты: прафесар Ю.Бальшыянаў (Расія) — старшыня журы; прафесар М.Волкаў (Беларусь) — намеснік старшыні; заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі, генерал-маёр М.Міхайлаў; дацэнт Кіеўскай кансерваторыі В.Гарань; дацэнт Малдаўскай кансерваторыі Н.Чабану і інш. Адзначу, што атмасфера на конкурсе была сяброўская, прыветная, нягледзячы на складаную абстаноўку ў рэспубліках былога Савецкага Саюза. У час конкурсных выступленняў прысутныя ў зале, выказваючы сваё захапленне, выклікалі на «біс» тубіста Андрэя Марозава, трубача Андрэя Астаньковіча, валтарніста Уладзіміра Мілюціна, трубача Віталя Сіроткіна, трамбаніста Рамана Усенку...

Музыканцкае спаборніцтва аказалася багатым на лаўрэатаў. Дыплом 1-й ступені і грашовыя прэміі 12 тыс. руб. уручаны трубачу Віталю Сіроткіну (Беларусь, клас прафесара М.Волкава). Грашовыя прэміі 1-й ступені 12 тыс. руб., 2-й ступені 10 тыс.руб., 3-й ступені 8 тыс. руб. уручаны адпаведна ўсім лаўрэатам конкурсу. Дыплома 2-й ступені ўдастоены таксама беларускія трубачы: А.Астаньковіч (клас дацэнта В.Волкава) і А.Літвінчук (клас прафесара М.Волкава). Лаўрэатамі 3-й прэміі сталі кіеўляне І.Бараноўскі і А.Арсанюк (клас ст.выкладчыка Кіеўскай кансерваторыі В.Пасвалюка).

Дыпломы лаўрэатаў конкурсу атрымалі беларускія валтарністы У.Мілюгін, В.Васілеўскі, А.Галуза (выхаванцы дацэнта Ю.Логінава), адзначаныя адпаведна дыпломамі 1-й, 2-й ды 3-й ступені. Іх сапернікі К.Цімохін (Украіна, клас прафесара Н.Юрчанкі) ды Ю.Армасар (Малдова) атрымалі дыпломы 2-й ды 3-й ступені. Трамбаніст Р.Усенка (Украіна, клас прафесара В.Гараня) названы першым, другое месца падзялілі У.Мендзялееў (Беларусь, клас дацэнта Р.Лагонды) і А.Сакалоў (Украіна, клас прафесара В.Гараня), а лаўрэатам 3-й прэміі стаў В.Паўлаў (Украіна, клас ст. выкладчыка Ф.Крыжаноўскага).

Беларускі тубіст А.Марозаў выйшаў у лідэры, а дыплом 2-й ступені атрымаў А.Шашкоў (абодва выхаванцы дацэнта П.Дударэнкі). Дыпломам 2-й ступені ўзнагароджаны таксама Р.Маркевіч (Украіна, клас выкладчыка В.Працюка), дыпломы 3-й ступені дасталіся В.Цімохіну (Украіна, клас выкладчыка В.Апостала) і Ю.Пасталаке (Малдова, клас выкладчыка Я.Батнару). Лаўрэатам конкурсу 1-й прэміі былі ўручаны таксама прыгожыя керамічныя вазы, усім лаўрэатам падораны муштукі медных духавых інструментаў, выробленыя ніжагародскай фірмай «Брас-Гільдзія» і беларускім майстрам-рэстаўратарам Алегам Пархімовічам.

За высокае майстэрства акампанементу адзначаны канцэртмайстры (званне дыпламанта конкурсу з уручэннем грашовай прэміі ў 2 тыс.руб.) І.Фралова, А.Фадзеева, А.Трафімава, В.Сізко, І.Бухвалава, А.Тэр-Вартанян, Т.Таруціна, Т.Самойлава.

Варта адзначыць сяброўскі творчы жэст камісіі з ЗША, якая раней адабрала трох студэнтаў Беларускай акадэміі музыкі ў Сімфанічны расійска-амерыканскі аркестр ЗША — маладога лаўрэата конкурсу 1-й прэміі тубіста Андрэя Марозава, габаіста Ігара Ляшчышына, кларнетыста Аляксея Вакуленку.

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, нягледзячы на складаную палітычную і эканамічную абстаноўку ў краінах Садружнасці, знайшло магчымасць выдаткаваць сродкі, каб памагчы згасаючай духавой культуры і арганізаваць гэты конкурс. На жаль, здзіўляе невытлумачальная адсутнасць падтрымкі з боку вядучых школ духавога мастацтва Санкт-Пецярбурга, Масквы, іншых гарадоў бліжняга замежжа.

**Барыс ПЯНЧУК,**
**народны артыст Беларусі,**
**прафесар**



*Лаўрэаты Міжнароднага конкурсу выканаўцаў на медных духавых інструментах трубач Андрэй АСТАНЬКОВІЧ і валтарніст Уладзімір МІЛЮЦІН.*

# НАЛЕВА ПАШЫТА?

## *«Сіняя Світа» А.Туравай у Маладзечанскім лялечным тэатры «Батлейка»*

... Спіць Чараўнік на троне, але праз хвілю высветліцца, што трон месціцца ў гушчары. З'явіцца Сіняя Світа, здзівіцца, маўляў, якія дрэвы ды расліны, сонца не відаць, адно слова — гушчар і пачынае... гандляваць ботамі... Хутка зробіцца відавочным, што да агульнавядомага казачнага сюжэта сцэнічная прапанова рэжысёра В.Шалкоўскага і драматургічная — А.Туравай маюць вельмі ўскоснае дачыненне. Знакамітыя хованкі-іспыты, што складаюць падзейны шэраг народнай казкі, наладзіць не Цар-чараўнік /альбо Кароль-чараўнік/, а... ягоная дачка, капрызніца Прынцэса... абіраючы сабе жаніха: Сіняя Світа адзін з магчымых прэтэндэнтаў! Ён жа, бядак, закахаўся. Закахаўся ў прыгажуню, як падае дзеянне ды тэкст, ні разу яе не пабачыўшы...

Гэткія метамарфозы самым істотным чынам мяняюць сэнс казкі: перадусім надаюць сцэнічнаму расповяду абсалютна непрадугледжаны народнай этыкай маральны /а тут амаральны/ клімат, інакшы /зніжаны/ эмацыйны градус, пазбаўляюць падзеі-іспыты філасафічнасці, дасціпнасці /пра канцэпцыю долі, лёсу і да т.п. я і памінаць не стану/, а самая перамога Сіняй Світы — не больш як чарговая прыхамаць капрызлівай паненкі. Сама ж яна трактавана такім дзівосным чынам, што ўцяміць яе мараль /пра якую я згадваю зусім без іроніі/ проста не выпадае.

На сцэне — манатоннае імітаванне дзеяння, руху. Падобна, што прапануецца шэраг даўно вядомых па самых розных спектаклях акцёрскіх штампаў, рэжысёрскіх знаходак /пралог з Чараўніком, самахарактарызаванне Сіняй Світы і да т.п./, што ролі не прадуманыя, як не прадумана ды не ўвасоблена скразное дзеянне... Пастаноўшчык В.Шалкоўскі, па ўсім відаць, яшчэ не зарыентаваўся ў рэжысёрскай прафесіі, але самае прыкрае — у прафесіі рэжысёра-лялечніка, бо лялькі ў ягоным спектаклі з'яўляюцца толькі фармальна. Спектакль, задуманы на спалучэнні «жывога плана» з лялькамі, вымагае абавязковага вызначэння дачыненняў між акцёрамі ды персанажамі-партнёрамі, — а прычакаць хоць прывіду гэтых дачыненняў так і не суджана...

Нельга прамінуць і яшчэ адну непрывабную акалічнасць. Зазвычай мера пакаранняў, жорсткасцяў, жахаў альбо іспытаў-выпрабаванняў герояў у народнай казцы вызначаецца вельмі далікатна. Герой мае атрымаць столькі, колькі адмералі яму густ і пачуццё прыўкраснага шматлікіх носьбітаў традыцыі, — інакш кажучы, колькі пастанавіла й дазволіла пачуццё справядлівасці народа. Таму, што прапануе драматург А.Турава, на жаль, бракуе далікатнасці, пачуцця меры ды мяжы. Вершы і тэксты персанажаў пра кайданы, пакаранні, пацукоў, халодныя сутарэнні, куды мусяць кідаць жаніхоў-няўдаліц, адцінанне галоў і да т.п., моцна патыхаюць літаратуршчынай /як і перайначванне самой казкі «Сіняя Світа»/, дзіўным густам альбо проста непавагаю да аўдыторыі, якой прызначаны твор. Да ўсяго тэксты і вершы задаюць дзеі адзін рытм, музыка ўладарна дыктуе другі, акцёры ж існуюць у рытме незразумелым: без відавочных збояў, але сутаргава. Выдае на тое, што трупа «Батлейкі» проста вымагае навучання, перадусім — акцёрскаму майстэрству і, самым сур'ёзным чынам, майстэрству абыходжання з лялькаю. Зрэшты, у сцэнічнай прапанове В.Шалкоўскага да такой ступені ўсё спрошчана, ад падзей да матывовак, што, па сутнасці, іграць, прадстаўляць няма чаго...

«Сіняя Світа — налева пашыта...» Міжволі згадаеш старасвецкую прымаўку, якая ўдакладняе сёе-тое з дачыненняў, так бы мовіць, краўца з кліентураю: «пашыўся ў дурні»... А прымаўка, як ні крыўдуй, праверана густам ды пачуццём прыўкраснага, — тых, хто і казку склаў, і парупіўся на яе не забыцца...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

## *НАШ КАЛЯНДАР*

**Леаніду СМЯЛКОЎСКАМУ** — 60. Заслужаны артыст Беларусі, ён вядомы ў рэспубліцы як рознабаковы і апантаны творчасцю музыкант: дамрыст, дырыжор, кампазітар. Кіраваў секстэтам домраў, узначальваў Камерна-інструментальны ансамбль Беларускага радыё і быў яго артыстам. На творчым рахунку выканаўцы-віртуоза — рамансы ды песні на словы А.Бачылы, П.Броўкі, Я.Купалы, Г.Бураўкіна, Н.Гілевіча, С.Законнікава, харавыя творы, апрацоўкі беларускага фальклору, шэраг аранжыровак для ансамбля.

●

Споўнілася 90 год з дня нараджэння **Арсена АРСЕНКІ** (трагічна загінуў у 1945 г.). Народны артыст рэспублікі, ён быў з 1937 г. салістам ДАВТа. Першы выканаўца галоўных партый у операх «У пушчах Палесся» А.Багатырова, «Кветка шчасця» А.Туранкова, меў у рэпертуары партыі Фігара, Жэрмона, Рыгалета, камерныя вакальныя творы.

●

90 гадоў з дня нараджэння народнай артысткі Беларусі **Веры МАЛЬКОВАЙ** (памерла ў 1964 г.). Вядучая салістка ДАВТа, яна з 1953 г. узначаліла Белдзяржэстраду як мастацкі кіраўнік. На опернай сцэне стварыла вобразы Марфачкі («Алеся» Я.Цікоцкага), Надзейкі («Кветка шчасця» А.Туранкова), Вольгі («Кастусь Каліноўскі» Д.Лукаса), спявала ў класічным рэпертуары тэатра.

# НАСУСТРАЧ КРОК НЯЛЁГКІ...

*(Пачатак на стар. 5)*

несла гэтую сваю службу, службу, па сутнасці, самому д'яблу... Вялікія цяжкасці і з другога боку — з боку той часткі інтэлігенцыі, якая б сёння магла сесці за гэты стол і знайсці агульную мову з шаноўнымі святарамі, з царквою, — маю на ўвазе філосафаў. Тут часам яшчэ вялікае абурэнне выклікае нават думка аб тым, што пара ўжо паставіць на сваё месца ў гісторыі матэрыялізм і звярнуцца да рэлігійнай філасофіі, калі мы хочам адрадзіцца, калі хочам рухацца ўверх, а не па той крутой траекторыі, па якой мы імкліва працягваем скатвацца. Вось каб гэтую прорву неяк пераадолець, трэба працаваць, абапіраючыся менавіта на хрысціянскія прынцыпы — цярпліва, талерантна, дзейнічаць перакананнем. *Спадзяюся, што наша сустрэча паспрыяе* пошуку агульнай мовы паміж нашым духавенствам і інтэлігенцыяй, што мы, урэшце, станем сапраўднай інтэлігенцыяй. Узгадайце, як называлі афіцыйна нашу інтэлігенцыю яшчэ нядаўна — «служачыя». Мы служылі, былі служкамі, і самі не заўважалі, як былі зняважаны гэтай назваю. Спадзяюся, што мы станем сапраўднай беларускай, нацыянальнай, высока духоўнай інтэлігенцыяй, — і будзем садзейнічаць супольна з царквою адраджэнню духоўнай культуры, адзінай цэласнасці і свядомасці беларускага народа».

Часта мы чуем з боку інтэлігенцыі патрабаванне аб беларусізацыі праваслаўнай царквы. Сваімі развагамі адносна гэтага падзяліўся айцец **Ігар Карасцялёў**: «Часта мы чуем меркаванні аб тым, каб узнавіць беларускі дух у праваслаўнай царкве. Але ж гэта цяжкая праца, справа не аднаго дня. І гэта можа адбыцца толькі тады, калі сама інтэлігенцыя — актыўныя носьбіты беларускай культуры і мовы — будзе прысутная ў царкве. Калі інтэлігенцыя ўскладае на святароў гэтую вялікую адказнасць, то няхай і сама не ўхіляецца ад працы. Якраз Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў шмат робіць у гэтым накірунку. Па просьбе брацтва перакладчык А.Клышка зрабіў цудоўны пераклад акафіста іконе Божае Маці «Усіх тужлівых Радасць». І брацкі хор упершыню адслужыў гэты акафіст па-беларуску ў нашым прыходзе. Ведаеце, людзі плакалі, слухаючы акафіст на роднай мове, іх глыбока кранула малітва. Я мяркую, што калі будзе пабудаваны наш храм у гонар іконы *«Усіх тужлівых Радасць», то мы адвядзем* дзень, у які служба будзе адбывацца на сучаснай беларускай мове. Хаця пытанне з моваю богаслужэння складанае і далікатнае. Лічу, што мы не павінны адмаўляцца ад царкоўна-славянскай мовы. бо гэта наша мова — не расійская, не балгарская — агульнаславянская, гэта наш скарб і набытак культуры. Разам з тым павінны існаваць і пераклад Святога Пісання на беларускую мову. Мова, якою мы карыстаемся ў духоўным ужытку, павінна дасканаліцца».

У якасці госці на пасяджэнне Пашыранай Рады была запрошана прадстаўніца пасольства Балгарыі ў Беларусі паэтка і перакладчыца **Алена Андрэева**. Яе вельмі хвалююць працэсы аднаўлення духоўнай культуры, рэлігійнага выхавання ў грамадстве. Тым больш што ў нашых краінах гэтыя працэсы маюць шмат агульных рысаў. «Сёння мы канстатуем, што ў былых сацыялістычных краінах, у тым ліку і ў нас у Балгарыі, людзі за апошнія дзесяцігоддзі аддаліліся ад царквы. Гэта адбылося таму, што абставіны і час, у якім мы жылі, патрабавалі таго, усякае іншадумства ўціскалася і каралася. Так, амаль забыты праваслаўныя святы, рэлігійныя звычаі, царкоўныя традыцыі. Хоць пануючы рэжым, які патрабаваў гэтага, у нас быў не такім працяглым, як у вас, ды ў маладым пакаленні паспелі сфармавацца абыякавыя адносіны да норм маралі, да выпрацаваных на працягу стагоддзяў чалавецтвам канонаў паводзін. У светапоглядзе многіх людзей за гэты час былі страчаны маральныя арыенціры. Моцна пахіснуліся сямейныя ўстоі: дэзарыентаванымі былі як бацькі, так і дзеці. Якімі бачацца шляхі выхавання будучых пакаленняў? Безумоўна, працэс далучэння дзіцяці да хрысціянскіх каштоўнасцей павінны пачынацца з самага дзяцінства. Але найперш неабходна, каб самі бацькі зноў звярнуліся да веры. Каб па магчымасці часцей наведвалі царкву. Тады б яны самі пераканаліся, што іх дзеці будуць расці духоўна паўнавартаснымі і да іх вернуцца ўсе тыя *высокія каштоўнасці, якія мы, дзеці свайго* часу, не здольныя ў сям'і ў іх закласці. Чым можа дапамагчы ў гэтых адносінах інтэлігенцыя? Сувязь з царквою павінна быць як мага больш шчыльнай, бо і ў царквы, і ў інтэлігенцыі клопат агульны: выхаванне душы, духоўнасці. Духоўна здаровае пакаленне можна вырасціць толькі супольнымі намаганнямі, і таму сувязь інтэлігенцыі з царквою неабходна ўсімі сіламі мацаваць».

*Свяшчэннік Свята-Духава* кафедральнага сабора г.Мінска айцец **Дзімітрый Бажко** падзяліўся сваім адчуваннем таго, якою павінна быць мова перакладу Свяшчэннага Пісання: «Мы павінны прайсці досыць доўгі шлях, каб знайсці мову, на якой можна размаўляць з Богам. Мова богаслужэння павінна быць узнёслая. Быў такі звычай у нашага народа: людзі прыходзілі ў храм у адзенні, якое надзявалі толькі ў царкву. Гэта было іх аддзенне для Бога. Таксама павінна быць і мова для Бога, у адрозненне ад той, на якой мы размаўляем. Магчыма, гэта набліжэнне да мовы Ф.Скарыны. Дарэчы, у XIX стагоддзі царкоўнаславянская мова пацярпела *пэўнае набліжэнне да расійскай* мовы. Таму магчыма было б пайсці шляхам вяртання царкоўнаславянскай мовы да каранёў, разам з тым замяняючы асобныя словы, якія найбольш цяжка ўспрымаюцца сёння, на больш сучасныя. А калі будзе на тое блаславенне Божае, то, магчыма, і сучасная беларуская мова будзе ўжывацца, магчыма, мы здолеем яе ўцаркавіць». Затым айцец Дзімітрый падзяліўся задумамі і планамі стварэння ў Мінску *катэхізнага прыходу*: «У гэтым катэхізным прыходзе павінна адбывацца адраджэнне тых праваслаўных традыцый, якія існавалі заўсёды на Беларусі. Традыцыя перадачы спадчыны праваслаўнага светапогляду ад бацькоў да дзяцей у нас была парушана. Таму калі сёння малады адукаваны чалавек прыходзіць у праваслаўны храм, то ён перш за ўсё ўспрымае праваслаўе ў кантэксце расійскай традыцыі. Традыцыя ж перадачы *праваслаўя ў беларускім кантэксце* амаль не захавалася. Я вельмі шаную праваслаўную традыцыю Расіі, але ўсёй душой жадаю, каб у гэтым прыходзе адраджалася нашая беларуская праваслаўная традыцыя. Напрыклад, традыцыя ўшанавання Віленскіх Мучанікаў, вельмі распаўсюджаная на нашых землях, асабліва на поўначы Беларусі, паступова губляецца ў нашых праваслаўных людзей, у праваслаўнай моладзі. Але ж на нас *ляжыць адказнасць шанаваць* тое, што нам Богам дадзена на нашай зямлі, і святых, і іконы Божае Маці, і іншыя святыні. Каб гэта ўсё было глыбока ў нашых сэрцах. Тут вялікую ролю можа адыграць наша інтэлігенцыя. Таму што святар звяртаецца да вузкай аўдыторыі прысутных у храме людзей, а вы маеце больш шырокую аўдыторыю. Таму вы павінны таксама спрыяць адраджэнню традыцыі ўшанавання нашых святых, нашых святыняў. Не будзем забываць, што ў Супрасльскі манастыр у XVI стагоддзі прыязджалі манахі з Афона, каб набыць пэўны духоўны вопыт. А Супрасль — гэта наш беларускі праваслаўны манастыр.

Любы прыход мае катэхізную функцыю. *Але гэты прыход будзе мець катэхізную* функцыю за галоўную, поруч з якой, магчыма, будзе функцыя збіральніцкая: іконаў, прадметаў беларускай праваслаўнай традыцыі.

У адносінах да мовы нашая інтэлігенцыя, прабачце мне, часам паводзіць сябе, як разбэшчанае дзіця: калі не будзеце размаўляць па-беларуску — не прыйду. Трэба проста, каб вы прыйшлі ў царкву, а потым мы будзем рабіць яе беларускай і *нацыянальнай. Гэта і будзе пачатак.* Калі аўдыторыя ў храме будзе больш беларуская, калі вы будзеце прысутнічаць у храме, то і нам будзе лягчэй ужываць беларускую мову. Мне вельмі радасна бывае чуць, калі чалавек прыходзіць і спавядаецца па-беларуску. І, можа, раз у месяц з'яўляецца аркуш паперы, дзе імёны для памінання аб здароўі напісаны па-беларуску...»

Далей у размове бярэ ўдзел сябра Пашыранай Рады Брацтва супрацоўніца часопіса «Мастацтва» **Валянціна Трыгубовіч**: «Сённяшняя наша гаворка сведчыць аб тым, што адбываецца зрух у нашым жыцці, што мы вучымся быць талерантнымі, інтэлігентнымі і ў нечым свабоднымі людзьмі. Калі асобныя людзі сёння робяць закіды наконт таго, што царква павінна размаўляць па-беларуску, а самі ў царкве не прысутныя, то гэта ёсць праява бальшавізму, у якім мы жылі. Хаця існуе праблема, можа, і не па віне царквы, што царква, калі гэта царква беларуская, не размаўляе з народам на яго мове. Тут ёсць шмат пытанняў... І калі практыка такіх сустрэч будзе працягвацца, гэта прынясе карысць усяму грамадству і нам, удзельнікам такіх размоваў, у першую чаргу. Бо толькі калі мы сапраўды паверым і паразумеемся, мы будзем ісці разам».

Аб адказнасці нацыянальнай інтэлігенцыі перад сваім народам за захаванне святой праваслаўнай веры нагадаў у сваім выступленні намеснік старшыні брацтва кандыдат філасофскіх навук **Алесь Анціпенка**: «На жаль, значная частка нашай інтэлігенцыі цешыць сябе ілюзіямі псеўдарэлігійнага аднаўлення нашае культуры ці то *на грунце этнічна-паганскім*, ці то на падставах нацыянальнага рацыяналізму. Калі і не цалкам, то ў значнай ступені сыходзячы з гэтых падстаў, час ад часу ў бок праваслаўя кідаюцца розныя абвінавачванні, перш за ўсё, у небеларускасці гэтае канфесіі і нават антынацыянальнай скіраванасці праваслаўнай царквы. Але ж праваслаўе існуе на нашых землях больш за тысячу гадоў. Ніякія дзяржаўныя і нацыянальныя *інтарэсы не могуць быць вышэй за Слова* Божае і царкву, як, зразумела, і царква ў нас не можа быць стаўпом іншай дзяржаўнасці ці іншай культуры. Думаю, настаў час усвядоміць, што наша праваслаўная царква мае сваю адметную гісторыю і традыцыю, і дзеля захавання і прадаўжэння гэтай традыцыі неабходныя і нашыя высілкі.

Хацелася б закрануць яшчэ адну праблему, а менавіта адказнасці нацыянальна *свядомай інтэлігенцыі перад сваім наро*дам, у сваёй большасці праваслаўным па сутнасці і хрышчэнні. І засцерагчы ад міжканфесійных ваганняў па прыкметах, так бы мовіць, адзіна сапраўднай «нацыянальнай» канфесіі... Народ, безумоўна, застанецца верным сваёй царкве, і вельмі важна, каб не паўтарылася тая сітуацыя, калі шматлікія прадстаўнікі вялікіх праваслаўных родаў пакідалі свой народ, адвечную веру сваіх бацькоў, пераходзячы ў іншыя канфесіі. Урэшце, не царква вызначае нацыянальную прыналежнасць чалавека, а народ. Ён жа ёсць і пераймальнікам святой веры нашых продкаў».

Выказваючы агульны настрой, які панаваў на сустрэчы, паэт **Алесь Разанаў** зазначыў: «Шмат нявыказаных пытанняў, шмат нявырашаных праблем. Але давайце сёння вострыя куты не будзем адкрываць. Тое, што сёння павінна адбыцца, гэта ўсталяванне атмасферы. Атмасферы добразычлівасці, узаемапаразумення. Мітрапаліт Філарэт у сваім пасланні выказвае думку аб тым, што крок інтэлігенцыі да царквы ёсць вельмі істотным крокам. Але мне думаецца, што сёння і царква робіць крок насустрач інтэлігенцыі. У Новым Завеце ёсць словы, што перад аблічам Хрыста няма ні эліна, ні іудзея. І я не стаў бы звяртаць увагу на тыя размежаванні, што ўсталяваліся ў грамадстве. Бо тым самым, сваёй нясталай думкаю мы іх паглыбляем. Як царква зберагае ісціну, імкнецца да яе, так і людзі шукаюць ісціну. І нават калі людзі ў нечым недакладныя, памыляюцца, робяць не зусім адэкватныя крокі, то ў іх ёсць крытэрый, які спалучаны з тымі дарамі Святога Духа, што называюцца розум, сумленне. І *гэты крытэрый абавязковы.* І *яго трэба* ўлічваць таксама, гаворачы пра творчую інтэлігенцыю. Бо творчасць і тое, што адбываецца ў творчасці, гэта не супраць царквы, гэта водгук, гэта таксама дар Духа.

Калі ўсталюецца атмасфера цярплівасці, шчырасці ў адносінах між царквою і інтэлігенцыяй, гэтая атмасфера будзе ўсё больш насычацца і ў ёй мы ўсе будзем браты і сёстры. І царквою будзе не толькі *абмежаваная прастора храма, але ўся* Беларусь. Як у пабудове новага храма бяруць удзел самыя розныя людзі і тут яны едныя, незалежна ад таго, хто яны. Няма размежавання там, дзе ёсць памкненне духа. І мы на шляху да асяродка, да цэнтра, дзе перасякаюцца ўсе радыусы, дзе магчыма наша сапраўдная сустрэча. Сёння пярэдадзень гэтай сустрэчы, але мы ўсе ў дарозе. Не будзем спыняцца на гэтым шляху. Тады абавязкова сумеснымі намаганнямі, сумеснай работай і адбудзецца пабудова не толькі цаглянага, але і нашага супольнага духоўнага храма».

Закончыць гэты далёка не поўны агляд прамоў удзельнікаў пасяджэння Пашыранай Рады Праваслаўнага Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў сумесна з прадстаўнікамі творчай і навуковай інтэлігенцыі Мінска хацелася б выступленнем мастацтвазнаўцы **Таццяны Гаранскай**: «Упершыню давялося пачуць, што пра беларускую інтэлігенцыю думаюць святары. Сапраўды, інтэлігенцыя і царква — дзве іпастасі пакутнікаў на гэтай зямлі. І інтэлігенцыя, і праваслаўная царква пакутуюць ад тых чорных сіл, якіх сёння шмат над нашай Беларуссю, яны пакутуюць разам з народам. Балючая пакута інтэлігенцыі — за занядбаную беларускую нацыянальную культуру, за занядбаную беларускую мову. І калі інтэлігент беларускі, няхай рэдка, прыходзіць да святара і выказвае свой боль, гаворыць аб тым, што вельмі хацелася б, каб гучала ў царкве беларуская мова, ён не разбэшчанае дзіця. Ён прынёс у храм сваю пакуту. Вельмі хочацца, каб *гэтая пакута стала і пакутай нашых святароў*, каб яны падзялілі з намі і гэтую пакуту, як калісьці Хрыстос падзяліў пакуты зямных людзей. Дый увогуле, адзін чалавек у сваёй «хатняй» царкве не можа мець такога ўздзеяння ў змаганні са злом, як усе разам у храме. Таму мы павінны хадзіць у храм...»

**Матэрыял падрыхтаваны**
**Таццянай МАТРУНЧЫК,**
***сябрам Праваслаўнага Брацтва***
**Трох Віленскіх Мучанікаў**

***З ПОШТЫ «ЛіМа»***

# АГРАНОМ З ГЛЫБОЦКАГА ХУТАРА

Ніколі не пісала ў газету, а вось пабывала на сваёй радзіме, на Глыбоччыне, сустрэлася там з сябрамі дзяцінства і маладосці, успомнілі мы свайго земляка, цудоўнага чалавека, які пакінуў аб сабе добрую памяць, і вырашыла расказаць пра яго людзям. Гэта — аграном Баляслаў Лапыр.

Атрымаўшы адукацыю агранома, што для простага беларуса мела вялікі гонар, быў прызначаны на працу павятовым аграномам. На сваім хутары ён вёў доследную работу, на што ішла большая частка заробку. А рабіў ён гэта з мэтай навучыць сялян з наваколля па-навуковаму весці гаспадарку. Але не толькі гэтым займаўся пан Баляслаў. Ён быў сапраўдным барацьбітом за родную беларускую культуру, за права кожнага быць беларусам, размаўляць на роднай мове, пець песні, чытаць кнігі. Усё гэта было ў панскай Польшчы ў загоне. Аграном Лапыр арганізаваў з навакольных сялян драматычны гурток. Як любілі мы глядзець спектаклі на роднай мове! Ад пана Баляслава мы ўпершыню пачулі вершы Багушэвіча, Купалы, коласаўскую «Новую зямлю». Зімовымі вечарамі, на святы былі «спеўкі». Як прыгожа гучалі родныя мелодыі, якімі прыгожымі запомніліся мне выканаўцы! Усё гэта вельмі не падабалася польскім уладам, і толькі высокі прафесіяналізм агранома і самаадданая праца давала магчымасць Лапыру застацца на пасадзе.

З вялікай павагай адносіўся пан Баляслаў да людзей другой нацыянальнасці. Дарэчы, жонка ў Лапыра была полька. З ёй муж і дзеці размаўлялі па-польску, але пані Стэфанія вельмі хутка авалодала беларускай мовай і размаўляла з сялянамі па-беларуску, удзельнічала ў беларускіх спектаклях, спявала беларускія песні.

У Лапыра мы бралі беларускія кніжкі, беларускі каляндар. Гэта было небяспечна ў той час, але гэта не спыняла пана Баляслава. Ён, як руплівы сейбіт, сеяў беларускае слова сярод сялян. А тое, што ў Глыбоцкім касцёле набажэнства вялося на беларускай мове, таксама заслуга Лапыра. Гэта было ўжо ў час вайны.

У 1944 годзе загінуў у сталінскіх засценках сумленны, працавіты чалавек, чулы сем'янін, добры сусед, шчыры беларус Баляслаў Лапыр. Гэтыя сціплыя словы-ўспаміны памяці і вялікай павагі да чалавека, які замест бесклапотнага жыцця польскага чыноўніка выбраў цярністы шлях прапагандыста земляробскай культуры сярод сялян, прапагандыста роднага слова, роднай беларускай песні сярод сваіх суайчыннікаў.

**Н.АБРАНПАЛЬСКАЯ,**
**пенсіянерка**

*г.Мінск*

ПРЭМ'ЕРА

## На каву да братоў Маораў

Ад 2 красавіка малая сцэна Рускага тэатра Беларусі прадстаўляе прэм'еру спектакля «Браты Маор» /інсцэніроўка Барыса Луцэнкі і Ванкарэма Нікіфаровіча паводле прозы Фрыдрыха Шылера і ягонае п'есы «Разбойнікі»/ і шчыра запрашае гледачоў перадусім... на кубачак кавы з цукрам і без: яе прапануюць, пакуль дзеянне стаіць. Прапануюць, бо няпроста стварыць у зале атмасферу гранічнага даверу да вымыслу ды ўвесці гледачоў у складаны і таямнічы свет тэатральных звадаў-узаемадачыненняў уплывовага графа фон Маора, вялебнага Максіміляна з сынамі Карлам і Францам, а таксама знакамітага Расціслава Янкоўскага з маладымі і проста вядомымі Аляксеем Шэдзькам ды Алегам Бажанавым. Адзіную жаночую ролю Амаліі фон Эдэльрэйх, адзіны раз памяняўшы пенюар й пантофлі для ўцёку ў лес, пражыве Ірына Федарэнка. Распуснічаюць, бэсцяць, б'юцца й забіваюць, здраднічаюць, зламысьнічаюць і атручваюць існаванне ўсім прысутным Аляксандр Суцкавер /Шпігельберг/, Валерый Бандарэнка /Швейцар/, Віктар Гудзіновіч /Рацман/, Дзмітрый Мазура /Грым/; палохае адным толькі выглядам Аляксандр Брухацкі /Шутэрфле/. Можна перадыхнуць, угледзеўшы Юрыя Казючыца /Герман/, ад самага пачатку засімпатызаваць Аляксандру Ткачонку /Даніэль/, а праз колькі часу ўпадабаць Эдуарда Гарачага /патэр/. Ёсць як дзівіцца з рэжысуры Барыса Луцэнкі ды Венедыкта Растрыжэнкава, — яны парупіліся працытаваць сёе-тое з папярэдніх супольных і несупольных пастановак /у прыватнасці, з «Амфітрыёна», «Хрыста і Антыхрыста», а, магчыма, нават і з «Макбета»/; абавязковыя люстэркі мастака Яўгена Волкава /або задніка малой сцэны?/ спраўна адаб'юць вашыя глядацкія строі, гарнітуры ды ўборы. Вас перастрэнуць спевы ў выкананні Аляксея Шэдзькі, Ірыны Федарэнкі і фанаграмы; натхніць разбойны гітарны лад і нястройныя галасы пералічаных вышэй распусных маладых людзей з кампаніі Карла. Вас напаткаюць колькі забойстваў, самазабойстваў, замахаў ды сеанс спірытызму, — пад самымі глядацкімі насамі Максімілян угледзіць дух сына Карла, а Франц з Германам закусяць свежымі гуркамі... Напрыканцы спектакля, — у выпадку, калі ўсё абыдзецца, адміністрацыя Рускага тэатра абяцае піва за ўласны кошт.

Я аддала перавагу каве.

Ж.Л.

ФЕСТЫВАЛІ

## «Год С.Рахманінава»



Гэтыя словы з'явіліся сёлета на эмблеме «Мінскай вясны». Так, сёлетні год адзначаецца па ініцыятыве ЮНЕСКА як год вялікага рускага кампазітара, піяніста і дырыжора, чые 120-ыя ўгодкі, а таксама 50-годдзе з дня смерці, пазначаны на календары. Міжнародны фестываль музыкі адкрыўся ў сталіцы 9 красавіка вялікім філарманічным канцэртам. Удзельнічалі Акадэмічная харавая капэла імя Р.Шырмы /мастацкі кіраўнік Л.Яфімава/, Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі. Дырыжор — Віктар Дуброўскі. Прагучалі творы С.Рахманінава: Тры рускія песні, фартэпіянны канцэрт Фа-дыез мінор /саліст І.Алоўнікаў пазнаёміў публіку з малавядомай 1-й рэдакцыяй гэтага твора, першага опуса, напісанага 17-гадовым кампазітарам/, паэма «Званы» для салістаў /Н.Руднева, Ю.Слонаў, С.Талстой/, хору і аркестра.

*Фота У.ПАНАДЫ*

ТЭАТР

## Фестывалі абралі купалаўцаў

«Дні А.П.Чэхава ў Ялце», вядомы Міжнародны тэатральны фестываль, прынялі на пачатку красавіка ўдзельнікаў з Беларусі — «Тры сястры» ў пастаноўцы Валерыя Раеўскага зазналі святло тамтэйшае рампы. Украінскі «Берэзіль» 7 і 8 красавіка дзівіўся з «Тутэйшых» Янкі Купалы /рэжысёр Мікалай Пінігін/, а таксама знаёміўся з «Запіскамі з падполля» паводле Ф.Дастаеўскага /спектакль Валерыя Раеўскага мае назву «З нагоды мокрага снегу»/. Гэтыя самыя «Запіскі...» выпадзе перагарнуць і гледачам польскага фестывалю «Торунь. Кантакт-93» напрыканцы мая сёлетняга года.

ВЫСТАВЫ

## Гэта наша з вамі гісторыя

«Жыве Беларусь!» — назва выстаўкі ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры ў Мінску, гаворыць сама за сябе. Прысвечаная 75-й гадавіне з дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, яна аб'яднала унікальныя дакументы, сабраныя самім музеем, Аб'яднаннем літаратурных музеяў Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўным архівам, Цэнтральным архівам-музеем літаратуры і мастацтва, Нацыянальным архівам Беларусі, Урадавай бібліятэкай і Камітэтам дзяржаўнай бяспекі.

Упершыню ёсць магчымасць поўна і ўсебакова пазнаёміцца з адным з самых важных перыядаў нацыянальнай гісторыі і падзеямі, што адбываліся пасля. У прыватнасці, у экспазіцыі шырока прадстаўлены беларускія выданні, якія выходзілі ў Вільні ў дваццатыя і трыццатыя гады. Пачатак жа гэтай гаворкі пра віхурны, адраджэнскі час — з 1905 года. Менавіта тады, як вядома, у сувязі з рэвалюцыйнымі падзеямі быў дадзены першы штуршок шырокаму нацыянальнаму абуджэнню і адраджэнню, заканамерным вынікам якога і стала ўтварэнне БНР. Гісторыю не перапісваюць, яе ўспрымаюць такой, якой яна была. Менавіта з такімі думкамі пакідаеш гэтую выстаўку.

Н.К.

ВЕЧАРЫНЫ

## Вяртанне Равенскага

У Мінскай СШ N 81 адбыўся вечар памяці выдатнага кампазітара зямлі беларускай Міколы Равенскага, які памёр за межамі сваёй Бацькаўшчыны 40 гадоў таму. Напачатку царкоўны хор выканаў вядомы твор М.Равенскага «Магутны Божа» на словы Н.Арсенневай. На вечары выступіла дачка кампазітара В.Аляксеенка-Равенская, артыстка Акадэмічнага хору Дзяржтэлерадыё Беларусі, якая праспявала песні бацькі на словы Янкі Купалы, Якуба Коласа. Паэт У.Карызна прачытаў вершы, прысвечаныя сваёй Бацькаўшчыне і роднай песні. Старшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Л.Давідоўская расказала пра неабходнасць адраджэння нашых лепшых традыцый, вяртання з небыцця ўсяго таго, што так несправядліва замоўчвалася. Лёс беларускай эміграцыі — гэта супярэчлівы, цяжкі, гаротны лёс значнай часткі нашай беларускай інтэлігенцыі. Музыказнаўца Э.Алейнікава зазначыла, што шматлікія творы духоўнай музыкі М.Равенскага чакаюць свайго лепшага часу і заслужанага вяртання на радзіму. Вядучы вечарыны А.Наліваеў адзначыў, што для адраджэння духоўнасці народа неабходна не цурацца сваіх каранёў. У выкананні гуртоўцаў гасцёўні Дуніна-Марцінкевіча Цэнтра беларускай культуры Фрунзенскага раёна прагучалі песні М.Равенскага, М.Куліковіча, І.Лучанка на словы Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча, С.Новіка-Пеюна, У.Дубоўкі, Г.Бураўкіна.

Л.СЦЯПАНАВА

## Юбілей земляка

У славянскай гімназіі Санкт-Пецярбурга адбыўся ўрачысты вечар у гонар 60-годдзя вядомага беларусазнаўцы, старшыні Таварыства беларусаў горада на Няве Валянціна Грыцкевіча. Віншавальныя тэлеграмы на яго адрас даслалі ТБМ імя Скарыны, Таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі і газета «Культура» з Мінска, Лявон Луцкевіч, Данчык, беларуская суполка з г.Рыгі, а таксама медычная грамадскасць з многіх гарадоў. Ад беларускай шляхты найлепшыя пажаданні перадаў брат юбіляра, слынны гісторык Анатоль Грыцкевіч. Паэтэса Аўгіння Кавалюк прачытала новыя вершы. Выступілі настаўнікі і студэнты Санкт-Пецярбурга, спявак Лявон Габрусёнак. Аздобілі свята госці з Гародні — дзіцячы фальклорны ансамбль пад кіраўніцтвам Я.Бобрыка. Адкрыў і вёў вечарыну яшчэ адзін вядомы даследчык беларушчыны М.Нікалаеў.

Г.К.

ЛІТКУР'ЕР

## Аптымізм праз смутак

Прэм'ера новай кнігі Раісы Баравіковай «Люстэрка для самотнай», якая нядаўна выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», сабрала ў Доме літаратара шмат прыхільнікаў таленту паэтэсы. Слова пра творчасць Р.Баравіковай гаварылі народны пісьменнік Беларусі І.Шамякін, загадчык рэдакцыі паэзіі «Мастацкай літаратуры», ён жа рэдактар кнігі Л.Дранько-Майсюк, С.Кавалёў, народны артыст Беларусі, кінарэжысёр М.Пташук, У.Някляеў, А.Папова.

Творы Р.Баравіковай прагучалі ў выкананні артыстаў мінскіх тэатраў. Сваім майстэрствам прысутных парадавалі ансамблі — вакальна-інструментальны «Альтанка» пад кіраўніцтвам кампазітара У.Казбанава і народны фальклорны «Тутэйшыя» радыётэхнічнага інстытута.

І, вядома ж, цёпла сустрэлі прысутныя саму віноўніцу ўрачыстасці — Раісу Баравікову.

## Першыя лаўрэаты новай прэміі

Кіраўніцтва Беларускага гуманітарна-адукацыйна-культурнага цэнтра абвясціла аб заснаванні новай прэміі ў галінах літаратуры і грамадска-палітычнай дзейнасці. На пачатку сакавіка была ўтворана камісія, якая прыняла адпаведнае палажэнне аб прысуджэнні прэмій. У складзе камісіі — рэжысёр, дырэктар БГАКЦ і Беларускага гуманітарнага ліцэя У.Колас, перакладчык, народны дэпутат РБ Л.Баршчэўскі, гісторык, народны дэпутат РБ А.Трусаў, палітолаг А.Сідарэвіч, мовазнаўцы А.Сёмуха і В.Вячорка, пісьменнік і літаратуразнаўца П.Васючэнка, а таксама навучэнцы Беларускага гуманітарнага ліцэя.

Гэтая акцыя мае мэтай вылучэнне асоб, якія найбольш рупяцца на ніве беларускага Адраджэння і выхавання моладзі. 24 сакавіка былі названы імёны лаўрэатаў і ім былі ўручаны прэміі. Памер прэміі — 5000 рублёў. Прэмію за грамадскую чыннасць і мужнасць атрымаў юрыст, народны дэпутат РБ А.Абрамовіч, які ўпарта адстойвае ідэю незалежнасці Беларусі і правы чалавека ў Вярхоўным Савеце. За літаратурную дзейнасць прэмія прысуджана А.Разанаву — выдатнаму нашаму паэту, творцу самабытнаму і непаўторнаму.

Сяржук ПАТАРАНСКІ

## Алесь Барскі — прафесар БДУ

Вядомаму даследчыку гісторыі беларускай літаратуры і фальклору, беларускаму паэту з Польшчы Аляксандру Баршчэўскаму /вядомы на Беларусі як Алесь Барскі/ за выдатныя дасягненні ў даследаванні і распаўсюджванні навуковых ведаў пра Беларусь і беларускую літаратуру нададзена званне ганаровага прафесара Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Хто не адзін год чытае «Ніву» — газету беларусаў у Польшчы, — той несумненна добра знаёмы з яго паэтычнай творчасцю. Неаднойчы выходзілі на роднай А.Барскаму Беласточчыне яго кнігі вершаў, а дзве з іх «Мой бераг» і «Лірычны пульс» — у Мінску. У «Мастацкай літаратуры» выдадзена і кніга ягонай публіцыстыкі «З бачанага і перажытага».

Перакладчыцкая дзейнасць А.Барскага дала магчымасць польскаму чытачу пазнаёміцца з беларускімі казкамі — у 1973 і 1976 гадах выйшлі зборнікі «Д'яблава скрыпка» і «Невычэрпны збан». Паэт, перакладчык і вучоны А.Баршчэўскі ўзначальвае кафедру беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

Такая падзея не павінна прайсці незаўважанай, бо гэта — яшчэ адзін факт паяднання беларусаў свету ў адну сям'ю. Польшча і беларусы, якія жывуць і працуюць там, ніколі не былі аддзелены ад нас непераадольнай мяжой, узаемасувязі з імі не перарываліся нават у так званыя гады застою. Цяпер жа прыйшоў час сумленна даследаваць праблемы нацыянальнай культуры, разглядаць іх у кантэксце сусветнай культуры.

Павел НАВОЙЧЫК,
выкладчык кафедры беларусазнаўства

ДРУК

## Пра Беларусь і беларусаў




Сёлета выйшаў /пазначаны лістападам-снежнем мінулага года/ першы нумар літаратурна-мастацкага часопіса беларусаў Латвіі «Світанак». Выпусціла яго аднайменнае Латвійскае таварыства беларускай культуры, а сам часопіс, як указваецца, «убачыў свет дзякуючы шчырай дапамозе Першага Ярарха БАПЦ Мітрапаліта Мікалая, спадара Алеся Пальчэўскага і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь».

У нумары — нарыс В.Целеша «Беларускія мастакі Латвіі», вершы А.Гуцава, пачатак палітычнага дэтэктыву ў дакументах «Загаворшчыкі» і хронікі самога таварыства.

Змешчаны рэпрадукцыі твораў Ю.Казака «Марсіянская хроніка», М.Чырыча «Вёска Глініца», В.Целеша «Партрэт паэта Пятра Сакола /Масальскага/», Я.Чарнякевіча «Жнівень».

Аб'ём «Світанка» невялікі. Ды галоўнае, што з'явілася яшчэ адно беларускамоўнае выданне ў бліжнім замежжы.

## «Роднае слова», N 3

Не толькі настаўнікам і старшакласнікам, каму ў першую чаргу адрасуецца часопіс, будзе цікава пазнаёміцца і з гэтым яго нумарам. У артыкуле «Цалуем сонца мілыя ўсмешкі і молімся над кожным васільком...» М.Мішчанчук аналізуе творчасць Т.Кляшторнага.

Не ў першы раз «РС» звяртаецца да паэзіі Н.Гілевіча. Цяпер Л.Гарэлік разглядае тыя яго творы, якія вывучаюцца ў школьнай праграме — «Несмяротнае матчына слова». Раздзел «Літаратура беларускага замежжа» прадстаўлены заканчэннем разваг А.Марціновіча пра жыццё і творчасць М.Сяднёва — «А часу больш, чым вечнасць». Тут жа публікуюцца творы Т.Кляшторнага, Н.Гілевіча, М.Сяднёва.

У нумары — заканчэнне нарыса А.Хатэнкі аб духоўным сэнсе народных звычаяў і абрадаў «Прадзіва продкаў веры», песні на вершы Н.Гілевіча, працяг праграмы-праспекта па беларускай літаратуры /творчасць К.Чорнага, раздзел падрыхтаваны М.Мушынскім/, артыкул В.Нячай «І падала зерне ў раллю», у якім закранаецца тэма У.Караткевіч і кіно, а таксама шэраг іншых публікацый.

## «Мікі Маўс» па-беларуску




У Таліне выйшаў у свет чарговы зборнік коміксаў з серыі «Мікі Маўс». На беларускай мове. Гэта сумеснае выданне «Эгмонт» /Данія/ і «Грунвальд» /Эстонія/. Наклад — 50 тысяч асобнікаў. Рэдагаваў зборнік Валерый Чыжык. Відавочна, што папулярную літаратуру можна выдаваць і на беларускай мове, і яна будзе мець попыт. Гэта ведаюць у Эстоніі, а вось на Беларусі ўладальнікі друкарскіх станкоў і паперы думаюць інакш...

КОНКУРСЫ

## З Паўлюком Багрымам у сэрцы

У адпаведнасці з Рэспубліканскай праграмай па ўшанаванні памяці і прапагандзе творчай спадчыны Паўлюка Багрыма Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Беларускі фонд культуры сумесна з Міністэрствамі адукацыі і інфармацыі, творчымі Саюзамі пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, музычных дзеячаў, Беларускім фондам славянскага пісьменства і славянскіх культур, Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына» праводзяць з 25 сакавіка па 1 ліпеня 1993 года конкурс аднаго твора на гістарычную тэму «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» Жанр — верш, песня, твор кавальскага, выяўленчага і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва. Кожны ўдзельнік мае права прадставіць толькі адзін твор.

Для паэтаў узрост абмежаваны — не больш за трыццаць гадоў. Вершы на беларускай мове, не апублікаваныя і не перададзеныя па радыё ці тэлебачанні, аб'ёмам не больш трох старонак, надрукаваныя на машынцы праз два інтэрвалы ў двух экземплярах накіроўваюцца на адрас Саюза пісьменнікаў Беларусі: 220034, г.Мінск, вул. Фрунзе, 5 з паметай «На конкурс аднаго твора...»

Узрост астатніх удзельнікаў конкурсу неабмежаваны. Песні на беларускамоўныя вершы /як новыя, так і надрукаваныя/ — клавір /партытура/, па магчымасці і магнітазапіс дасылаюцца ў Рэспубліканскі аргкамітэт па ўшанаванні памяці і прапаганды творчай спадчыны П.Багрыма: 220010, г.Мінск, вул. Савецкая, 9, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, п. 420.

Творы жывапісу, кавальскага і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва прадстаўляюцца на адрас: 220010, г. Мінск, вул. Савецкая, 9, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, п. 416-а.

Да аўтарскіх твораў дадаецца асобны ліст з поўнымі звесткамі пра аўтара: прозвішча, імя і імя па бацьку, адрас, месца работы альбо вучобы, тэлефоны.

Па кожным жанры ўстаноўлена па адной першай /25 тысяч рублёў кожная/, другой /15 тысяч рублёў кожная/, трэцяй /10 тысяч рублёў кожная/, па дзве заахвочвальныя прэміі /па 7 тысяч рублёў кожная/.

Конкурсныя работы /вершы, песні/ не рэцэнзуюцца, аўтарам не вяртаюцца.

Аўтары лепшых конкурсных работ прымуць удзел у Свяце Багрыма ў Крашыне 27—29 жніўня 1993 года, у час якога будуць названы пераможцы і адбудзецца прадстаўленне твораў-лаўрэатаў.

Лепшыя вершы будуць апублікаваны ў часопісе «Першацвет», іншыя лепшыя творы набудзе Міністэрства культуры.

Уладзімір КАЗБЯРУК

# НАША АКАДЭМІЯ НАВУК

## «А ДЗЕ Ж ТОЙ ВЫХАД, ДЗЕ ЗБАВЕННЕ?..»

ШТО РАБІЦЬ, каб выбрацца з бяздоння эканамічнага і духоўнага крызісу, у якім апынулася наша грамадства? Трэба перш за ўсё зразумець, што ў нас кардынальна змянілася ўся палітычная сітуацыя, а жывём мы ў асноўным па старых законах і норавах, прыстасаваных да колішняга, так званага сацыялістычнага дзяржаўнага ладу. Прытым захоўваюць рэальную сілу толькі законы, патрэбныя і выгадныя шматлікаму чыноўніцкаму люду. Адсюль вынікае неабходнасць тэрміновага вызначэння генеральных стратэгічных напрамкаў палітычнага, эканамічнага, духоўнага адраджэння грамадства. Мне ўяўляецца, што да ліку найбольш важных праблем, якія мы абавязаны вырашаць у першую чаргу (побач з іншымі), неабходна аднесці патрэбы развіцця сельскай гаспадаркі і навукі.

Пра сельскую гаспадарку хай пішуць спецыялісты. Я выкажу толькі некаторыя агульныя меркаванні. У наш час задача заключаецца не ў тым, каб з ходу ліквідаваць калгасы і саўгасы, як бы яны сябе ў цэлым ні здыскрэдытавалі. Калі б іх сталінскімі тэмпамі паразганяць, то вынік быў бы такі, як і пры калектывізацыі. Але ўжо і сёння трэба даць кожнаму калгасніку права, застаючыся ў калгасе, апрацоўваць такі надзел зямлі, які ён сам палічыць магчымым і які яму аказацца пад сілу. Пры гэтым ён павінен адразу ж мець упэўненасць, што выдзелены яму ўчастак раллі і сенажаці ніхто не адбярэ і не памяняе на іншы. Гэта дазволіць хлебаробу па-гаспадарску адносіцца да зямлі.

Але сённяшні калгаснік не будзе мець рэальнай магчымасці хутка станавіцца на ўласныя ногі, калі не атрымае адпаведную тэхніку: нейкі зручны трактар, транспартныя сродкі, насенне. Паклапаціцца пра гэта — задача дзяржавы, бо толькі яна можа наладзіць вытворчасць усяго самага неабходнага для сяла, даць селяніну тэхніку авансам, за будучае збожжа, мяса, бульбу. А вырашаць усё гэта трэба аператыўна, не расцягваючы на пяцігодкі. Часу для роздуму і раскачкі не засталося.

Распрыгонецае сяло на працягу пары гадоў забяспечыць рэспубліку харчамі і створыць неабходныя рэзервы для экспарту. Маючы ў запасе лішкі збожжа, лягчэй было б весці гаворку пра нафту, газ, металы.

Што ж датычыць праблемы ўласнасці на зямлю, то рэальным гаспадаром яе павінен стаць толькі той, хто яе апрацоўвае. Настала пара аддаць яе сялянам. А задача заканадаўцаў — прадугледзець такія меры, якія б раз і назаўсёды адбілі ахвоту нашым ненажэрным мафіям купляць зямлю і прадаваць яе з заробкам. Тут можна не баяцца ўзаконіць і канфіскацыю, і штрафы, і жорсткую крымінальную адказнасць.

А цяпер пра навуку. Пра яе развіццё або асаблівыя поспехі ў сучасных умовах — пры адсутнасці належнай матэрыяльнай базы і фінансавых сродкаў — не можа быць і гаворкі. Здаецца, усе як быццам разумеюць, што ў сельскай гаспадарцы, каб мець права і магчымасць жаць пшаніцу, трэба спачатку поўнай мерай кінуць зерне ў зямлю, якую перад гэтым узаралі, не пашкадавалі ёй угнаення. А каб мець малако, мяса, яйкі, то кожны дзень — ды яшчэ і не адзін раз — трэба пакарміць карову, парасят, курэй.

А хіба ж да навукі можна адносіцца інакш? Там, дзе сродкі не эканоміліся, вучоныя маглі і космас завяёўваць, і ваенную тэхналогію развіваць, прытым не горш, чым на самым аўтарытэтным Захадзе. А вось ад адных лозунгаў і патрыятычных заклікаў ні малака на кухні не прыбавіцца, ні навуковых распрацовак у акадэміі. Галоўныя напрамкі навуковых даследаванняў павінны быць забяспечаны надзейна. Паклапаціцца пра гэта — зноў-такі абавязак дзяржавы.

Але калі ўжо сродкі асігнуюцца, то хай яны выкарыстоўваюцца для справы, на якую прызначаны.

Што ўсё ж такі рэальна Акадэмія навук магла б прадпрыняць? Як мне ўяўляецца, без кардынальнай ломкі ўсёй сістэмы арганізацыі навуковых даследаванняў толку мала будзе. Вось тут і хочацца зрабіць некаторыя канкрэтныя прапановы.

1. Рэарганізаваць акадэмічныя інстытуты (паўтараю, гаворка вядзецца пра інстытуты гуманітарнага профілю) — з усёй сістэмай планавання, арганізацыі навукова-даследчай работы, падрыхтоўкі да друку прац і іх публікацыі. Ператварыць кожны інстытут у сапраўдны мазгавы цэнтр у адпаведнай галіне навукі з тым, каб яго здзяйсненні станавіліся здабыткам усіх зацікаўленых не праз 3 або 5 гадоў, калі яны ўжо могуць страціць сваю каштоўнасць, а праз некалькі месяцаў. З гэтай мэтай пасля пераходнага перыяду, які мог бы працягвацца, скажам, адзін год або два, кожнаму навуковаму супрацоўніку (і чалавеку без ступені, і доктару або кандыдату навук) устанавіць службовы аклад у памеры мінімальнай зарплаты, узаконенай у рэспубліцы. А дадаткова хай кожны зарабляе за свае планавыя і няпланавыя публікацыі. І каб даць такую магчымасць, то пры інстытуце арганізаваць перыядычнае выданне, нейкі часопіс, які выходзіў бы адзін раз, напрыклад, у два месяцы. І плаціць там за адзін аркуш столькі, колькі сёння абходзіцца дзяржаўнаму бюджэту адзін аркуш створаный у сценах акадэмічных інстытутаў прадукцыі (але ні ў якім выпадку не столькі, колькі плацяць у часопісах або газетах!).

За ўсю падрыхтоўку матэрыялаў для такога часопіса адказваў бы інстытут, які са свайго асяроддзя вылучаў бы рэдактара і ўвесь персанал штатных работнікаў. Агульная колькасць супрацоўнікаў не павялічвалася б ні на адну адзінку. А ў інстытутах хапіла б і кадраў, і вытворчых плошчаў.

На пасаду рэдактара спатрэбіўся б чалавек творчы, энергічны, з дастаткова шырокім кругаглядам. Ягонае слова з'яўлялася б рашаючым і ў планаванні тэматыкі, і ў ацэнцы гатовай прадукцыі. Ён павінен быў бы бачыць рэальныя патрэбы развіцця навукі — і тэарэтычнай, фундаментальнай, і прыкладной. Адна з галоўных задач інстытуцкага перыядычнага выдання заключалася б у тым, каб аператыўна рэагаваць на запатрабаванні сярэдняй школы, вышэйшых навучальных устаноў, а таксама культурнага развіцця.

Пры такой сістэме новыя распрацоўкі, дасягненні, адкрыцці адразу ж, аператыўна, праз некалькі месяцаў траплялі б да зацікаўленых чытачоў — выкладчыкаў ВНУ, настаўнікаў сярэдняй школы, дзеячаў літаратуры і культуры. Аператыўна, кваліфікавана падрыхтаваныя і добра афармленыя часопісы — асабліва па літаратуры і гісторыі — сталі б настольнымі выданнямі многіх катэгорый чытачоў, прытым не толькі ў рэспубліцы, але і за яе межамі. Яны далі б магчымасць вярнуць частку сродкаў, выдаткаваных на навукова-даследчую работу.

Працы для публікацыі адбіраліся б аўтарытэтнай камісіяй (рэдакцыйным саветам), якая выбіралася б на агульным сходзе навуковых супрацоўнікаў тэрмінам на 1 год.

Калі б арыентавацца на рэальнага чытача, а не на абстрактную навуку, то з выбарам напрамкаў, праблематыкі і тэматыкі навуковадаследчых работ давялося б быць вельмі асцярожнымі, асабліва ў галіне філасофіі. Плануючы нейкія тэмы, інстытуты і выканаўцы абавязаны былі б рэальна ўзважваць і з усёй сур'ёзнасцю адказваць на пытанне: а ці патрэбны яны каму-небудзь? У нас хапала сачыненняў, якія, практычна, мабыць, і ў сценах роднага інстытута чыталіся толькі па службовым абавязку, па даручэнні начальства абмяжаванай колькасцю асоб ды яшчэ цэнзарамі і прадстаўнікамі кантрольных ідэалагічных ведамстваў.

2. Справа прысуджэння вучоных ступеняў і званняў патрабуе спецыяльнага разгляду. Калі за іх не будуць плаціць незаробленыя грошы, прытым да канца жыцця, то вакол іх не будзе лішняга ажыятажу. Але самі па сабе яны павінны застацца. Толькі прысуджаць іх не варта шляхам урачыстых шаманскіх працэдур з усёй незвычайна працаёмкай, але і бескарыснай для навукі сістэмай падрыхтоўкі дысертацый. Прысуджэнне кампетэнтным органам навуковых званняў і ступеняў павінна было б уяўляць сабой прызнанне рэальных здзяйсненняў вучонага.

Што канкрэтна я маю на ўвазе? Працы кандыдата навук Г.Кісялёва не ўстарэюць і з цягам часу будуць станавіцца ўсё больш каштоўнымі. Але ніхто нават і не падумае пра тое, каб яму проста так, толькі за навуковыя здзяйсненні прысудзіць ступень доктара навук. Затое ж некаторыя канцэпцыі, палажэнні і вывады, якія найбольш паспяхова «абараняюцца», тут жа ўдзельнікамі свяшчэннага рытуалу забываюцца і здаюцца ў архіў разам з тоўстым томам дакументацыі. І потым ужо ніхто і нідзе іх не згадвае — не хваліць і не ганіць.

А вазьміце хоць бы Уладзіміра Калесніка з Брэсцкага педінстытута або Дзмітрыя Бугаёва з Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Колькі кніг яны выдалі! А ці шмат ёсць у нас дактароў, якія былі б больш вядомыя за іх? Дзеля справядлівасці магу нагадаць, што я неаднаразова палемізаваў з У.Калеснікам. І тым не менш я лічу, што ён адзін з найбольш сур'ёзных нашых даследчыкаў.

*Заканчэнне. Пачатак у N 14*

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# ТАЯМНІЦЫ «ПАГОНІ»

***Апошнім часам у беларускім патрыятычным друку з'явіўся шэраг публікацый аб паходжанні герба «Пагоня». Але ўсе яны выпускаюць з-пад увагі паходжанне і прызначэнне знакаў-сімвалаў увогуле. У лепшым выпадку даецца геральдычны аналіз з «прызямленнем» у XIII ст. Шаноўнае спадарства, а ці не пашукаць нам адказу на пытанні ў тых галінах чалавечых ведаў, якія дагматыкамі і прагматыкамі адсунуты ў цень? Маю на ўвазе астралогію, магію і некаторыя ўсходнія духоўныя вучэнні.***

Найперш, для прадуктыўнасці нашых пошукаў і аналізу прычын, трэба пагадзіцца з вучэннем аб тым, што Космас — гэта не беспаветраная прастора, напоўненая планетамі, зоркамі і касмічным пылам. Космас — гэта бязмежны акіян энергіі, які прынята называць Богам, Сусветным Розумам і г. д., у якога строга рэгламентаваныя законы гармоніі і развіцця. Трэба пагадзіцца і з тым — і гэта для нас найцяжэй, — што псіхічнае, духоўнае заўсёды папярэднічае матэрыяльнаму, а не наадварот. Трэба прыняць на веру і тое, што мінулае-сучаснае-будучае існуе адначасова і нічога бясследна не знікае. У Космасе ёсць інфармацыйная прастора, у якой прасветлены Дух можа прачытаць усю інфармацыю аб Сусвеце. І доступ да гэтай інфармацыі не абумоўлены ўзроўнем зямнога інтэлекту і ступенямі адукацыі; асноўны крытэрый — гэта ступень развіцця Духу ў касмічным разуменні.

Цяпер возьмем пад увагу прынцып дзейнасці нашых ЭВМ. Чым больш дасканалая сістэма зададзеных знакаў-сімвалаў, тым больш поўная выдача інфармацыі. Некалькі парадыйна прынцып дзейнасці ЭВМ можна параўнаць з пачаткам стварэння свету і прынцыпам развіцця яго сёння, памятаючы, што мы зыходзім не ад звычных нашых навуковых дадзеных з абавязковым кантролем інтэлекту, а карыстаем інтуітыўна-касмічнае мысленне. Возьмем за аснову тое, што знакі-сімвалы ўзяты Богам як пачатак стварэння свету і дадзены людзям для таго, каб, па-першае, быць звязкаю матэрыяльнага і нематэрыяльнага, мастком узаемадзеяння з продкамі; быць экранамі канцэнтрацыі энергіі пэўных нябесных свяцілаў і сіл, — адсюль рознасць звычаяў і традыцый у народаў; і быць кодамстымулам далейшага развіцця народаў у гармоніі з першаасновай. Дзе ж мы сустракаем знакі-сімвалы ў жыцці? Візуальныя — арнамент, герб, штандар, абраз і г. д. Мова — сістэма візуальна-вібрацыйных знакаўсімвалаў. Найперш — арнамент у адзенні. Кожны ўзор і яго дэталі маюць сваё адметнае значэнне як на бытавым, так і на касмічным узроўні. Гэта не проста адвольны ўзор, — гэта код, які строга рэгламентуе паводзіны носьбіта. Для наглядвасці — дзяўчыне прызначаўся адзін узор, а замужняй жанчыне — з іншымі дэталямі. Нездарма ж, калі прачынаецца нацыянальная свядомасць, з'яўляецца патрэба апрануць аўтэнтычную вышыванку, у якой, здаецца, пачуваешся сапраўдным беларусам. Гербы, абразы і храмы — гэта і экраны канцэнтрацыі энергіі пэўных нябесных свяцілаў і сіл. На кожную краіну, нацыю існуе свой гараскоп, свой запраграмаваны код развіцця. У кожнага народа свой пантэон Багоў, святых і герояў. У прамой залежнасці ад таго, як мы іх шануем, і магчымасць іх удзелу ў справах нашага матэрыяльнага свету. Гэты закон дзейнічае і ў адносінах з нашымі продкамі як індывідуальна для кожнага з нас, так і для нацыі ў цэлым. Забыццё — самая страшная разбуральная сіла Сусвету. У прамой залежнасці ад знакаўсімвалаў знаходзіцца і магчымасць прымаць пэўныя касмічныя вібрацыі. Гэта знаходзіць выражэнне ў адметнасці мовы і фальклору кожнага народа на Зямлі. Значыць, знаксімвал — гэта і генетычная, і гістарычная інфармацыя, і код для дзейнасці сёння і ў будучым. І калі парушаецца першапачатковы выгляд знака-сімвала — парушаецца і звязаная з ім рэчаіснасць, перарываецца магчымасць прагрэсу і будучыні. Нездарма ж захопнікі ўсіх часоў найперш рашуча і жорстка выкідалі старыя дзяржаўныя сімвалы забраных народаў, выкарчоўвалі мову і культуру.

Цяпер заглянем трошкі ў астралогію. Наша «Пагоня» трактуецца тут як знак зоркі Сірыус і расшыфроўваецца наступным чынам. Нябесны коннік, які разганяе цемру, засуху, голад і смерць. Узнаўляе мір, раўнавагу, традыцыі, вытокі і крыніцы. Ахоўвае нябесны Закон і законы Роду, генетычныя карані. Шляхетны рыцар, які знішчажае ману і хітрасць.

Як дзяржаўны сімвал пачаў выкарыстоўвацца ў XIII ст. Гісторыя ж паходжання гэтага сімвала значна глыбейшая. Хрысціянства на славянскіх землях, на вялікі жаль, вынішчыла амаль пад корань сляды дахрысціянскай культуры нашых продкаў. Тэзіс аб тым, што ўсё паганскае — гэта цёмнае і недасканалае, як высвятляецца, далёка не адпавядае сапраўднасці. Сляды шанавання Нябеснага конніка вядуць нас у старажытны Чарнігаў. Ёсць там Спаса-Прэабражэнскі сабор, які пабудаваны яшчэ ў 1034 годзе. Цікавасць храма для нас у тым, што падчас будоўлі званарні былі знойдзены дзве сярэбныя галавы — часткі язычкіх ідалаў. Ёсць падставы сцвярджаць, што хрысціянскі сабор пабудаваны на месцы старадаўняга паганскага капішча, прысвечанага Богу-конніку. Трохкутная планіроўка Чарнігаўскага дзядзінца з трыма варотамі-ўездамі нагадвае апісаны ў пачатку XI ст. Цітмарам Мерзебургскім град Радагошч, размешчаны недзе ў басейне ракі Даляніцы ля Прывільцкага возера ў землях абадрытаў і люціцаў. У цэнтры трохкутнай крэпасці стаяў храм Сварожыча Радагошча, выява якога на белым кані знаходзілася пасярэдзіне. Германцы называлі гэты храм свяцілішчам Рэтры. Шанаванне Радагошча /сына Сварога — Бога нябеснага свету/ не было лакальным, яму пакланяліся і бодрычы Мекленбурга. Найбольш блізкі да Радагошча па сваіх функцыях у крывічоў-беларусаў — Пярун-Светавіт і Ярыла, у пазнейшай традыцыі — святы Юры. У перыяд Хрысціянства пачынаецца, магчыма, пераход да афармлення і большага пашырэння візуальных знакаўсімвалаў племя, народнасці, народа, нацыі, дзяржавы, што знаходзіць выражэнне ў гербах, абразах святых мясцовага паходжання, у размяшчэнні старых знакаў-сімвалаў на новых культавых пабудовах. Прыкладам — знак «Пагоні» на Вострай Браме ў Вільні, якая з'яўляецца і цяпер святым месцам, звязваючым мінулае-сучаснасць-будучае нашага

Што ж датычыць апублікаваных у друку альтэрнатыўных праектаў новых законаў «Аб вучоных ступенях і званнях» (падрыхтаваных Саветам Міністраў і Акадэміяй навук Беларусі), то мне ўяўляецца, што ні адзін, ні другі не могуць лічыцца дасканалымі. У іх зноў гаворка вядзецца пра абарону дысертацый — мабыць, па колішніх сцэнарыях. Як усё ж такі давіць на аўтараў тая закасцянелая традыцыя! Скажам, вучоны апублікаваў салідную манаграфію або пару кніжак. І што — ён павінен яшчэ для ступені траціць час на машынапісны варыянт — як сказаў адзін наш вядомы літаратар і палітык у прыватнай гутарцы — «для мышэй»? Што ж датычыць магчымасці прысуджэння ступені «па сукупнасці навуковых работ», то пра гэта сказана вельмі ж невыразна. Такое палажэнне існавала і раней, але ці хто карыстаўся ім на практыцы?

Вядома, можна было б прадугледзець і падрыхтоўку дысертацый, але для тых, хто не мае манаграфій і ў каго паасобныя публікацыі рассеяны ў розных навуковых выданнях. А наогул аўтары абодвух варыянтаў робяць выгляд, быццам яны не ведаюць, што сабой заўсёды ўяўляла так званая «абарона» дысертацый. На практыцы лёс яе і вынік галасавання прадвызначаўся на ніжэйшым узроўні — на сектары, у аддзеле, у лабараторыі. Калі не было рэкамендацыі гэтай інстанцыі, то Вучоны савет не прымаў дысертацыю да абароны. А загадчык сектара меў неабмежаваную магчымасць заблакіраваць дысертацыю, калі яму асабіста прэтэндэнт не падабаўся. Так было. Вось тут і трэба было б дазволіць кожнаму ў такіх выпадках звяртацца непасрэдна да Вучонага савета. Гэта дало б магчымасць хоць калі-небудзь пабачыць на савеце рэальную, а не фіктыўную абарону дысертацыі.

Па традыцыі ў нас вучонае званне прафесара прывязваецца да педагагічнай дзейнасці. А чаму? Нагадаю, што і само слова «доктар» паходзіць ад лацінскага «doctor» — «настаўнік» (ад «docere» — вучыць). Невыпадкова Францішак Скарына ў некаторых прадмовах замест слова «доктор» пісаў «учитель». Нягледзячы на такую этымалогію, ступень доктара прысвойваецца сёння за навуковыя, а не за педагагічныя дасягненні.

Абодва праекты прадугледжваюць ступені доктара галіны і доктара навук. А ці патрэбна такая блытаніна? Чаму не ўзаконіць навуковыя ступені доктара і прафесара? Для чаго пакідаецца ранейшая паралельная іерархія навуковых вартасцяў — ступені і званні? Чым гэта можна апраўдаць?

У акадэмічным праекце прадугледжваецца, у прыватнасці, экзамен па філасофіі. Калісьці такі экзамен уключаў у абавязковым парадку і гісторыю ВКП(б) — КПСС. А як сёння? Можа, таксама? Нешта ж трэба прыдумаць, каб філосафы не засталіся без хлеба...

Ці не настала сёння пара ўтварыць кампетэнтны орган, які б праверыў сучасныя вучоныя званні і ступені? Бясспрэчна, палявання на ведзьмаў арганізоўваць няма патрэбы. І ўсё ж такі лічыць навукай разважанні аб небывалых поспехах сацыялістычнага спаборніцтва ва ўсіх чарговых пяцігодках было б недаравальным глупствам.

3. Планаванне. Поспехі ў развіцці акадэмічнай навукі ў значнай меры будуць залежаць ад умення прадбачыць рэальныя грамадскія запатрабаванні, а ў сувязі з гэтым — ад эфектыўнага планавання. Для літаратараў (уключаючы фалькларыстаў) і гісторыкаў сёння справа, здаецца, ясная. Наспела неадкладная патрэба стварэння гісторыі народа і гісторыі літаратуры — прытым адначасова і навуковых курсаў і падручнікаў для вышэйшай і сярэдняй школы. Дапамога навучальным установам павінна з'яўляцца адным з найважнейшых напрамкаў дзейнасці акадэмічных інстытутаў. У фінансаванні такіх праграм магло б прыняць удзел і Міністэрства народнай адукацыі, а гатовыя распрацоўкі купляліся б настаўнікамі і школьнымі бібліятэкамі. А гэта значыць, што на кваліфікаваную прадукцыю попыт быў бы надзейны, прытым на многія гады. Хто недастаткова ўпэўнены ў гэтым, хай паглядзіць, якім поспехам карыстаецца часопіс «Спадчына».

Могуць сказаць: ёсць жа інстытут педагогікі. Бясспрэчна, ёсць. Але гэта не перашкодзіла Інстытуту літаратуры АН скласці альтэрнатыўную праграму па беларускай літаратуры для сярэдняй школы (зараз яна публікуецца ў чарговых нумарах часопіса «Роднае слова»). Што ж датычыць Інстытута педагогікі, то яму работы заўсёды хопіць: некаму ж трэба распрацоўваць праблемы псіхалогіі, методыкі выкладання паасобных прадметаў, выхавання (школьнага і дашкольнага), арганізацыі навучальнага працэсу і г.д. Задача ж акадэмічных інстытутаў заключалася б у тым, каб падаць у даступнай форме гісторыю народа, яго культуры, літаратуры, аналізаваць мастацкія і фальклорныя творы — усяго таго, што неабходна настаўніку кожны дзень. Прытым падаваць аператыўна, каб усё магло трапіць да яго ў пару, своечасова, у працэсе падрыхтоўкі да ўрокаў.

4. «Кадры вырашаюць усё». Калі Беларусь паклапацілася і стварыла адпаведныя ўмовы — перш за ўсё жыллёвыя — то яна магла б заахвоціць многіх вучоных прыбываць у Мінск. А між тым ёсць выдатныя спецыялісты беларускага паходжання, што працуюць за межамі нашай рэспублікі. Сёння ж у АН Беларусі ўмовы такія, што разбягаюцца нават і тыя перспектыўныя навуковыя работнікі, якія тут працавалі або працуюць. І сама акадэмія пазбаўляецца многіх кваліфікаваных вучоных, пры скарачэнні ўлічваючы званні, ступені, узрост, але не рэальную кваліфікацыю.

5. Як мне ўяўляецца, не шкодзіла б прыдзірлівым вокам зірнуць на структуру акадэмічнага кіраўніцтва, усяго прэзідыумаўскага апарату. Варта было б параўнаць хоць бы штаты 1960 і 1992 гадоў і паспрабаваць разабрацца, ці ўсе штатныя нарошчванні з'яўляюцца неабходнымі. Мабыць, такую самую працэдуру не лішне было б правесці і ў інстытутах.

●

РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ, а разам з ёю і Акадэмія навук знаходзяцца на раздарожжы. Ці ўдасца выбраць такі напрамак, каб не заблудзіцца ў цёмнай пушчы? Усё будзе залежаць ад таго, як выкарыстаецца інтэлектуальны патэнцыял, калектыўны вопыт народа. І як удасца нашаму кіраўніцтву асэнсаваць увесь наш мінулы вопыт, як і вопыт суседзяў.

Закрануў я толькі некаторыя пытанні і не пра ўсе балячкі расказаў. Але ў цэлым становішча ў Акадэміі навук занадта трывожнае, каб можна было махнуць на ўсё рукою і дапусціць паглыбленне крызісу.

***P.S. 5 лютага г.г. быў апублікаваны Закон Рэспублікі Беларусь «Аб асновах дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі». Акадэміі навук прысвечаны там 25-ты артыкул наступнага зместу:***

***«Акадэмія навук Беларусі з'яўляецца самакіруемай навуковай арганізацыяй, якой заканадаўствам Рэспублікі Беларусь прадастаўлены адпаведны статус. Сродкі на яе дзейнасць штогод вызначаюцца ў бюджэце.***

***Акадэмія навук Беларусі нясе адказнасць за развіццё ў рэспубліцы фундаментальных даследаванняў. Яна ўдзельнічае ў фарміраванні і рэалізацыі дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі, правядзенні экспертызы важнейшых навукова-тэхнічных і народнагаспадарчых праграм і праектаў».***

***Ці забяспечыць гэты закон карэнны пералом у адносінах нашай дзяржавы да Акадэміі навук? Хацелася б верыць...***

---

народа. Гэты пераход — як кампенсацыя за страту храмаў Нябеснага конніка. Як бачым, памянялася толькі форма шанавання, але не сутнасць.

Нагадваем яшчэ раз, што па старадаўняму ўспрыманню нашых продкаў знак-сімвал — гэта такая ж рэчаіснасць, як і тое, што ён сімвалізуе. Калі прыняць «Пагоню» як знак зоркі Сірыус, то паўстае пытанне: чаму на шчыце размешчаны шасціканцовы правільны крыж — астралагічна-паганскі знак нашага Сонца? Адкуль спалучэнне двух сімвалаў? У племені дагонаў у Паўночнай Афрыцы ў вуснай традыцыі захоўваецца касмалагічны міф аб стварэнні і будове Сусвету /«Наука и религия». Нашим солнцем был Сириус, NN 10, 11, 1991/. Па водгуках вучоных, тэорыя стварэння Сусвету ў дагонаў больш дасканалая, чым сучасная генетычная тэорыя. Згодна з гэтым міфам, першапачаткова наша Зямля, ужо заселеная людзьмі, знаходзілася паблізу зоркі Сірыус, але з-за пагражаючага выбуху аднаго з кампанентаў гэтай зоркі Бог Амма перасяліў Зямлю да другой зоркі — да Сонца. Звесткі аб зорцы Сірыус, аб якіх паведамляе міф, атрымаць без выкарыстання сучасных аптычных прыстасаванняў немагчыма, але звесткі гэтыя ў дагонаў ёсць! Сістэма ведаў, выкладзеных у міфе, вызначаецца беспрэцэдэнтнай цэльнасцю і глыбінёй. Дагоны валодаюць астраноміяй, маюць каляндар, лічэнне, шырокія звесткі па анатоміі і псіхалогіі чалавека, уяўленні аб генетыцы, сістэматызаваную фармакапею. І... не маюць пісьмовасці. Міф перадаецца ў вуснай традыцыі з пакалення ў пакаленне і абапіраецца на існуючую ў племя сістэму знакаў і малюнкаў. У мысленні дагонаў усё, што выражаецца знакам, і ёсць знак. Бог пачаў стварэнне свету з таго, што запісаў у знаках усё, што будзе створана, і ўсё, што з гэтым створаным калі-небудзь ды здарыцца. Прасцей, знак і рэч, якая яму адпавядае, — паняцці эквівалентныя, таму намаляваць знак — ужо азначае стварыць аснову рэчы. Як бачым, уяўленні нашых продкаў і дагонаў супадаюць. Калі прыняць за аснову, што першапачаткова цэнтральным жыццядайным свяцілам для Зямлі, ужо заселенай людзьмі, была зорка Сірыус, то і культавыя святкаванні павінны былі быць скіраваны менавіта на яе. Актыўна для Зямлі цяпер зорка Сірыус свеціць з 21 чэрвеня да 22 ліпеня. Відочна, што пачынае свяціць незадоўга перад асноўным святам нашых продкаў — Купаллем. Магчыма, гэтае свята бярэ пачатак з яшчэ дасонечных часоў, перыяду асноўнага культу зоркі Сірыус. У астралогіі сцвярджаецца, што ў перыяд стаяння Сірыус апякуецца над гадальнікамі, варажбітамі, астролагамі і ўсімі, хто імкнецца спазнаць скрытае жыццё свету. А цяпер узгадаем, якія багатыя трыдыцыі гадаць, варажыць ды і вядзьмарыць у нашага народа і на Купалле, і на Калядьі, у перыяды Сонцазвароту /ці Сірыусазвароту першапачаткова/. А зараз пагаворым пра крыж на шчыце «Пагоні». Правільны шасціканцовы крыж на шчыце «Пагоні» — гэта цэнтральная фігура пячаткі Сонца; нясе ў сабе і самастойны сімвал зоркі Сонца. Гэта можна лёгка спраўдзіць, адкрыўшы двухтомнік Папюса па магіі, — калі прызнаць магію за раздзел чалавечых ведаў, якія існуюць на працягу ладнага адрэзку часу і прасторы; адкінуўшы, вядома, дагматычнае матэрыялістычнае ўспрыманне рэчаіснасці. Нашы дэпутаты, наўмысна ці па неразуменні, змянілі крыж на шчыце. Гэта ўжо не першапачатковы знак-сімвал, ён ужо не нясе ў сабе поўнай закадзіраванай інфармацыі Космасу. І вельмі слушна адрэагавалі нашы суайчыннікі з эміграцыі на такое антыкасмічнае свавольства народных абраннікаў.

«Пагоня», на наш погляд, з'яўляецца сінтэзаваным знакам-сімвалам. Адным з асноўных знакаў, пад якім Бог стварыў Зямлю і людзей, быў знак зоркі Сірыус — Нябесны коннік. А па законах касмічнай пераемнасці, на шчыце Конніка — шасціканцовы правільны крыж, як знак Сонца, — цяперашняга жыццядайнага нашага свяціла. Я добра разумею спробы і ў мінулым і сёння «падправіць» выгляд крыжа на шчыце ў бок збліжэння з праваслаўнымі канонамі, зыходзячы з палітычных меркаванняў праваслаўнай большасці насельніцтва Беларусі. Але, імкнучыся абаперціся на большасць, палітыкі парушаюць адзінства беларусаў-каталікоў, беларусаў-праваслаўных, беларусаў-пратэстантаў, беларусаў-мусульман і г. д. пад сапраўдным кансалідуючым знакам-сімвалам «Пагоняй». Дык станьма відушчымі, браты! Нам у спадчыну дасталася багатая зямля з адметнай культурай, якая ацалела сярод гвалту і прыніжэння, краіна з самай старажытнай сімволікай на Зямлі; з самай шляхетнай і касмічнай сімволікай. Акрамя ўсяго, праз наш народ адбывалася пераемнасць у спадчыннасці зямных цывілізацый. Гэта не пустыя словы! Знакам, якім пазначаў свае кнігі Францішак Скарына /Месяц на фоне Сонца/, старадаўнія атланты неміфічнай Атлантыды, з цывілізацыяй значна вышэйшай за нашу, пазначалі Бога. Цяперашні акцэнт у развіцці цывілізацыі на Зямлі ставіцца на славянскія землі. А шырока паварочваць гэтыя землі да Бога пачаў праз кнігу наш Францішак Скарына!

Аўтар рыхтаваў гэту інфармацыю без прэтэнзіі на ісціну ў апошняй інстанцыі, не для навуковага «перажоўвання» і дыскусій. Гэта падарунак тым, хто верыў і верыць у Нябеснага конніка, для каго «Пагоня» — жывы, натхняючы знак-сімвал. Для вас, браты, — гэта праўда, сіла і надзея!

Жыве Беларусь!!!

**Алесь ЖАМОЙЦІН**

*Смаргоншчына,*
*Кушляны.*

## АБ'ЯВЫ



---

**Беларуская Акадэмія мастацтваў выказвае глыбокае спачуванне выкладчыку кафедры графічнага дызайну Васюку Уладзіміру Уладзіміравічу з прычыны смерці БАЦЬКІ.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае спачуванне пісьменніку Алесю Шлегу ў сувязі са смерцю яго ЖОНКІ.**

***21 сакавіка ў Саўт-Рыверы /штат Нью-Джэрсі, ЗША/ прайшло святкаванне 75-х угодкаў абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Перад удзельнікамі і гасцямі свята выступіў старшыня Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі Р.Завістовіч. Ягоны даклад прапануем увазе чытачоў «ЛіМа».***

Расціслаў ЗАВІСТОВІЧ

# 75 УГОДКІ БНР: МАРЫ І РЭЧАІСНАСЦЬ



Нягледзячы на тое, што ў ліпені 1990 года Беларусь была абвешчана суверэннай дзяржавай, а ў жніўні 1991 года незалежнай рэспублікай, дзень 25 сакавіка 1918 года назаўсёды застанецца ў памяці народнай, як дзень, калі лепшыя сыны і дочкі Беларусі пачалі новую эпоху ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны. 25 сакавіка — гэта не толькі абвяшчэнне незалежнасці Беларусі, не толькі жаданне беларускага народа «людзьмі звацца», але й нацыянальная дэкларацыя, якою беларускі народ скінуў ярмо няволі і катэгарычна заявіў, што ён хоча быць вольным сярод вольных народаў свету. Таму мы верым, што дзень 25 сакавіка стане галоўным нацыянальным святам у вольнай Беларусі. Ён, як цудоўны светач, будзе зырка гарэць над разняволенай Бацькаўшчынай.

Палітычныя і эканамічныя абставіны на Беларусі на трэцім годзе беларускае суверэннасці вельмі заблытаныя і нялёгкія. Беларусь знаходзіцца ў крызісным стане як палітычна, гэтак і эканамічна. Эканамічныя рэформы наогул, нават пры вялікім жаданні і без усякіх перашкод, праводзіць вельмі цяжка. Аб'яднанне Нямеччыны паказала, што нават велічэзная эканамічная дапамога не толькі не можа адразу паставіць на ногі нацыю, але і істотна прыспешыць працэс пераходу на вольны рынак. Перад ліквідацыяй дзяржаўных структур павінен ужо існаваць прыватны сектар, які б змог даць месца працоўным, што пакідаюць старыя дзяржаўныя структуры. Без існавання здаровага прыватнага сектара эканамічныя рэформы будуць запавольвацца, а ворагі гэтых рэформ выкарыстаюць усё магчымае супроць вольнага рынку, каб запалохаць людзей, асабліва тых, чыя праца ў дзяржаўным сектары апынецца пад пагрозай. Стварэнне даверу ў народзе да рыначнай сістэмы апынецца таксама пад пагрозай.

Эканамічныя рэформы можна будзе ажыццявіць цалкам толькі тады, калі будзе створана здаровая палітычная атмасфера на нашай Бацькаўшчыне, а гэта значыць, што палітычныя рэформы павінны апярэджваць эканамічныя змены ў жыцці народа. У Беларусі павінна быць выпрацавана беларуская дзяржаўная канстытуцыя, на якой грунтаваліся б усе законы, звязаныя з прыватнай уласнасцю на зямлю і нерухомую маёмасць, грашовай сістэмай, банкаўскімі справамі, інвестыцыямі, асветай, вайсковымі справамі. Калі гэтага ў хуткім часе не будзе зроблена, у Беларусі будуць гаспадарыць ворагі рыначнай эканомікі, людзі не зацікаўленыя ў беларускім адраджэнні. Можна чакаць, што будзе расці незадавальненне ў народзе, павялічвацца нацыянальны цынізм. З гэтым апошнім будзе асабліва цяжка змагацца, бо цынікі, як вядома, не маюць герояў. Праз гэта адраджэнне поўнай беларускай незалежнасці можа стаць вельмі зацяжным. Зацягласць, са свайго боку, можа выклікаць няпэўнасць і палітычна-эканамічнае пачуццё болю сярод актыўнай часткі грамадства. Працяглы сацыяльны боль павялічвае адчуванне бяды ў народзе, пісаў некалі Нікола Макіявелі, вядомы палітык і тлумачальнік палітычных працэсаў у сярэдневяковай Італіі. Пагроза магчымасці вось такой палітычнай ланцуговай рэакцыі пачынае ўжо, здаецца, праяўляцца ў Беларусі.

Тры гады таму назад Вярхоўны Савет Беларусі прыняў Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы ў рэспубліцы. Здавалася б, што ўсё дзяржаўнае справаводства, школы і друк будуць дэрусіфікавацца, што ўрадавыя чыноўнікі, будуючы прававую дзяржаву, будуць датрымоўвацца законаў краіны. На вялікі жаль, гэтага яшчэ няма. Законы прымаюцца, але чамусьці яны вельмі паволі ўкараняюцца, альбо зусім не ўкараняюцца ў жыццё народа.

У канцы мінулага года паявіліся на Беларусі людзі, якія пры падтрымцы некаторых дэпутатаў Вярхоўнага Савета пачалі дамагацца, каб зрабіць расейскую мову, у дадатак да беларускай, дзяржаўнай мовай рэспублікі і правесці рэферэндум наконт гэтай прапановы. Вось вынікі зацягласці беларускага адраджэння, рэакцыя на вакуум, створаны невыкананнем дзяржаўных законаў Беларусі.

У мінулым годзе з 604-х зарэгістраваных у Беларусі газет і часопісаў толькі 140 было беларускіх /«Наша Слова», 11 лістапада 1992 г./. Нягледзячы на такія лічбы, ворагі беларускасці не толькі ігнаруюць беларуска-расейскую моўную няроўнасць, але, як тыя паўзуны, адважваюцца падымаць свае ядавітыя галовы, каб напасці і знішчыць сваю ахвяру — нашу мову, культуру, а пасля і кволую сённяшнюю беларускую незалежнасць. Яны хочуць павярнуць назад кола сучаснай беларускай гісторыі, зрабіць замах на жыццё беларусаў як нацыі, зноў абяздоліць нашу Бацькаўшчыну, ператварыўшы яе ў колішнія глухія мясціны смутку.

Выступаючы на кангрэсе беларусістаў у 1991 годзе і гаворачы пра выжыванне беларусаў, наш славуты зямляк Васіль Быкаў казаў, што ў нас «...як заўжды, найбольшыя спадзяванні на нашу мову, гэты галоўны нацыянальны набытак, нашае гістарычнае апірышча. Нездарма яе так вынішчалі стагоддзямі, забаранялі, аплёўвалі, адвучвалі ад яе цэлыя пакаленні. У імперыі патрэбна была адна імперская мова. Але калі мы, нацыянальна панішчаныя, класава раз'яднаныя, спаскуджаныя шматгадовай маной, нешта ўсё ж значым у сусветнай суполцы народаў, дык найперш праз гэтую нашую мову». /«Ніва», Беласток, 30 чэрвеня 1991 г./. Трэба адзначыць, што, гаворачы аб двухмоўі на Беларусі, Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч казаў, што многія з прапагандыстаў двухмоўя з'яўляюцца «...прадстаўнікамі іншай нацыянальнасці, іншай краіны. Яны не маюць маральнага права змагацца з мовай той краіны, якая іх абагрэла і ўтрымлівае. ...Мы больш за ўсіх панеслі страты. Давайце ж улічым пры рэферэндуме, да якога хто-ніхто заклікае, галасы тых, каго тут забілі за мову. І не толькі фашысты, але і Саветы, рэпрэсіўныя структуры НКУС. Давайце ўлічым усе іх галасы за беларускасць!» /«Наша Слова», 18 лістапада 1992 г./.

Да слоў Старшыні Вярхоўнага Савета можна яшчэ дадаць, што наш народ і ягоную мову вынішчалі доўгія гады нашыя заходнія і ўсходнія суседзі яшчэ далёка да прыходу фашыстаў і Саветаў.

На працягу ўсяго XVIII стагоддзя, пасля забароны ўжытку нашай мовы ў дзяржаўных установах, беларускі народ апалячвалі, вынішчалі беларускую свядомасць, а беларускія землі бессаромна лічылі землямі польскай дзяржавы. На вялікі жаль, такое пачуццё да нашага краю, як да ўсходніх ускраін Польшчы, існуе сярод многіх, калі нават не большасці, палякаў і зараз.

Пасля акупацыі Беларусі Расеяй напрыканцы XVIII стагоддзя пачалася інтэнсіўная русіфікацыя нашага народа і вынішчэнне нашай мовы. На Беларусь навалілася новая бяда, якая па сутнасці не адрознівалася ад папярэдняй. Расейскі ўрад, як і палякі перад гэтым, не прызнаваў нават існавання нашага народа як асобнай нацыі. Усякую праяву беларускасці ён тлумачыў не як выяўленне беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, а як нейкі польскі падкоп, шкодніцкую дзейнасць палякаў — гістарычных ворагаў Расеі. Нават паўстанне Кастуся Каліноўскага трактавалася з боку палякаў і расейцаў амаль аднолькава. Палякі лічылі яго, а ў некаторых колах лічаць і зараз, сваёй вызвольнай акцыяй, а расейцы — польскай інтрыгай. І гэта ўсё, нягледзячы на тое, што Кастусь Каліноўскі да самага канца свайго кароткага жыцця ніколі не пакідаў свае беларускае мовы і народа, што тысячы беларусаў — удзельнікаў паўстання 1863 года былі вывезены ў Сібір, што інтэлігенцыя Беларусі таго часу была разагнаная па ўсёй імперыі, што такія выдатныя яе людзі, як Францішак Багушэвіч, павінны былі хавацца ў чужых мясцінах, каб не трапіць у рукі мураўёўцаў. На месца вывезеных у Сібір беларускіх паўстанцаў і іхніх аднадумцаў расейскі ўрад запаланяў Беларусь сваімі, прывезенымі з цэнтра Расеі, настаўнікамі, суддзямі, святарамі, паліцыянтамі і адміністратарамі ўсіх рангаў. Цытуючы расейскі часопіс «Вестник Западной России», выданне якога пасля задушэння паўстання 1863 года было, дарэчы, пераведзена з Кіева ў Вільню / пэўна ж для «асветніцкіх мэт»!/, Аляксандр Цвікевіч у сваёй працы «Западно-Руссизм» падае наступнае: «У мэтах фактычнага абрусення заходняга краю Расіі расійскі ўрад выдаў цэлы шэраг пастаноў, накіраваных на тое, каб узмацніць тут расійскую землеўласнасць. ...Цяпер шмат якія рускія не хочуць заставацца на сталае жыхарства ў Заходнім краі, між іншым, таму, што няма тут расійскага грамадства, няма дзе адпачыць душой. Гэтая непрыемнасць сама сабой знікла б, калі край засяліўся б расійскімі землеўласнікамі, і, як бы па знаку чароўнае рукі, хутка адбылося б жаданае абрусенне» /«Спадчына», N 4, 1991, ст. 49, 57/.

Русіфікацыя Беларусі не прайшла «як бы па знаку чароўнае рукі», але, хоць і павольней, наша Бацькаўшчына была ператворана ў новую, на гэты раз заходнюю, ускраіну, быў зроблены замах на нашую культурную спадчыну, было забаронена беларускае друкаванае слова, зроблена ўсё тое, што хочуць сёння зрабіць нашыя нядобразычліўцы, выкарыстаўшы Вярхоўны Савет суверэннае рэспублікі.

Удумваючыся ў беларускую гісторыю, асабліва апошніх дзесяцігоддзяў, востры боль працінае душу за той нічым і нікім незаслужаны жах, які перажыла Беларусь і яе народ. Дзе і калі ў свеце было такое, каб людзі, жывучы дома, у сваім краі, зайздросцілі долі эмігрантаў, якія пакінулі свой родны кут, каб толькі выжыць, каб захаваць сваю Бацькаўшчыну на чужыне?! Такое пачуццё зайздрасці выказаў наш паэт Алесь Пісарык у сваім вершы «Родныя гнёзды», у якім ён адчыняе сваю і нашай Бацькаўшчыны пакрыўджаныя душы, пішучы вось гэтыя радкі да сваіх стрыечных братоў, якія жывуць за акіянам:

**Карэнне роду нашага пасеклі**
**Віхуры веку.**
**Дух не замялі!**
**Вы на чужыне не зазналі бедаў**
**Такіх, як тут —**
**На здаўленай зямлі.**

**Захопніцкім, каваным крута ботам**
**Растоптвалі святыні на вачах.**
**Паскудзілі душу хлуснёю...**
**Потым —**
**Гімн з пашчы крыважэрнае гучаў.**

**А ты, мой брат, радзіўся на чужыне,**
**Дзе сонца не захмарвала туга,**
**І бацяны анёламі кружылі**
**У недаспаных, казачных лугах.**

**Ты мовы маці не цураўся з роду.**
**Мяне ж —**
**За слова роднае пяклі**
**Насмешкамі,**
**што вышаў я з народу,**
**Як вешальнік з надрэзанай пятлі.**

Чытаючы гэтыя прачулыя словы і кідаючы позірк на сённяшнія падзеі на Беларусі, так і хочацца крыкнуць словамі нашага вялікага Купалы, які ў 1921 годзе, праз тры гады пасля сакавіковага ўздыму, з абурэннем пісаў:

**Годзе нам сілу прыблудаў вялічыць**
**Дзецьмі, багаццем радзімай зямлі;**
**Нашы загоны даўно ўжо нас клічуць —**
**Нашы загоны, што зеллем зраслі.**

**Досыць ішлі на чужым павадку мы**
**Доўгія векі без веры ў сябе,**
**Мы ўжо не тыя, — інакшыя думы**
**Выраслі з намі, завуць к барацьбе.**

Кажуць, што на памылках вучацца. Робячы гэты кароткі агляд нашае беларускае рэчаіснасці, хочацца верыць, што Беларусь выправіць свае памылкі, зліквідуе свае цяперашнія пераходныя цяжкасці і, прыспешыўшы палітычна-эканамічныя працэсы, пачне няўхільна рухацца да поўнае незалежнасці. Бо ж, напэўна, не зваліся яшчэ ў Беларусі гарачыя патрыёты, тыя, што марылі аб незалежнасці, волі свайго народа, аб усім тым, што было немагчымым ва ўмовах жорсткага акупацыйнага ўціску. Яны не пакідалі сваіх летуценняў, не мірыліся з тым, што іншыя лічылі наканаваным, а верылі ў перамогу праўды, катэгарычна адкідаючы тэзу немагчымасці. Цяпер гэтыя людзі павінны не пакідаць абароны нацыі і волі свайго народа. Наш народ зашмат перацярпеў, каб зараз, дачакаўшыся рэальнае магчымасці стаць незалежным, выпусціў з рук гэтую магчымасць.

Дык няхай лунаюць бел-чырвона-белыя сцягі на нашай Бацькаўшчыне! Няхай звіняць званы свабоды з захаду на ўсход і з поўначы на поўдзень ва ўсёй шматпакутнай Беларусі! Словамі нашага выдатнага Якуба Коласа, якога народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч гэтак трапна назваў настаўнікам нацыі, мы клічам цябе, Беларусь, да новага ўздыму, да шчасця народнага:

**Змоўкні ты, сціхні, песня пакуты,**
**Заварушыся, наш край!**
**Люд беларускі! Рві свае путы!**
**Новую песню спявай!**




ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:
Х.ДУНЕЦ (1932-35)
І.ГУРСКІ (1935-41)
А.КУЛЯШОЎ (1945-46)
М.ГОРЦАЎ (1947-49)
П.КАВАЛЁЎ (1949-50)
В.ВІТКА (1951-57)
М.ТКАЧОЎ (1957-59)
Я.ШАРАХОЎСКІ (1959-61)
Н.ПАШКЕВІЧ (1961-69)
Л.ПРОКША (1969-72)
Х.ЖЫЧКА (1972-76)
А.АСІПЕНКА (1976-80)
А.ЖУК (1980-86)
А.ВЯРЦІНСКІ (1986-90)

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:

Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (адказны сакратар), Юрась СВІРКА

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара -- 33-25-25; адказны сакратар -- 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Тыраж 15.000.
Нумар падпісаны 15.04.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12